Пераклад Васіля Раманава (2017 год)

Віктар Сувораў
(Разун Уладзімір Багданавіч)

# Дзень «М». Калі пачалася Другая Сусьветная вайна?

«Мабілізацыя азначае пачатак вайны».
Маршал Савецкага Саюза Б. М. Шапашнікаў

Прысьвячаю Багдану Васільевічу Разуну, курсанту-стажору супрацьтанкавай батарэі 637-га стралкавага палка 140-й стралкавай дывізіі 36-га стралкавага корпуса 5-арміі Паўднёва-Заходняга фронту.

# Змест

# Майму чытачу

Пасля выдання «Ледаколу» у Нямеччыне атрымаў тры кубаметры пошты ад былых нямецкіх жаўнераў і афіцэраў: лісты, кнігі, дзёнікі, франтавыя дакументы, фотаздымкі. Пасьля выхаду «Ледаколу» у Расіі – атрымаў больш. На парадку дня – ленінскае пытанне: што рабіць? Пісаць адказы? Ці хопіць жыцця? А ці маю я права не пісаць адказы?

Гэта не доўг удзячнасьці. Кожны ліст з’яўляецца цікавым па-свойму. А ўсе разам – скарб. Гэта пласт гісторыі, які ніхто не вывучаў. Гэта тысячы сведчанняў, і кожнае аспрэчвае афіцыйную версію вайны.

Магчыма, нейкая навуковая ўстанава мае больш аб'ёмны збор рукапісных сведчанняў, але веру, што мая калекцыя – больш цікавая.

Франтавікі, пражыўшыя доўгае, цяжкае жыццё, раптам на схіле гадоў пачалі пісаць мне, адкрываючы душы, паведамляць пра тое, чаго не паведамлялі нікому.

Большая частка лістоў не ад франтавікоў, а ад іхных нашчадкаў – дзяцей і ўнукаў. І ўсе паведамлялі патаемнае: «Мой бацька ў коле сваіх сябраў распавядаў».

Ўзрушыла тое, што ЎСЕ сведчанні, як жывых удзельнікаў вайны, так і дайшоўшыя ў пераказах блізкіх, супярэчаць той версіі пачатку вайны, якую нам на працягу паловы стагоддзя малявала афіцыйная гістарычная навука. Магчыма франтавікі і іхныя нашчадкі пераіначваюць праўду?

Такое меркаванне можна было б выказаць, калі б пошты было кілаграмаў сто. Ад такой дробязі можна было б і адмахнуцца. Але лістоў ШМАТ. Уяўляеце сабе, што азначае слава ШМАТ?

І ўсе пра адно і тое ж. Не маглі ж усе згаварыцца. Не маглі аўтары тысяч лістоў із Расіі згаварыцца з аўтарамі тысяч лістоў із Няметчыны, Польшчы, Канады, Аўстраліі ...

Прыклад. Із афіцыйнай версіі вайны мы ведалі, што пачалася вайна і мастак Іраклій Таідзэ ў парыве высакароднага абурэння намаляваў Радзіму-маці заклікаючую ў бой. Плакат, з'явіўшыся на самым пачатку вайны, хутка набыў сусьветную вядомасць і ператварыўся ў графічны сімвалам вайны, якую камуністы называюць «вялікай айчыннай».

А мне паведамляюць, што плакат з'явіўся на вуліцах савецкіх гарадоў не пад час самых першых дзён вайны, а ўжо пад час самага першага.

На вуліцах Яраслаўля – вечарам 22 чэрвеня. У Саратаве – «ў другой палаве дня». 22 чэрвеня ў Куйбышаве гэты плакат ляпілі на сьцены вагонаў вайсковых эшалонаў, якімі была перапоўнена чыгуначная станцыя. У Новасібірску і Хабараўску плакат з'явіўся не пазднен за 23 чэрвеня. Тады самалёты лёталі са шматлікімі прамежкавымі пасадкамі, і за суткі да Хабараўска не паспявалі далятаць. Але калі выказаць здагадку, што самалёт загрузілі плакатамі 22 чэрвеня, і за ноч ён усё ж даляцеў да Хабараўска, то ўзнікае пытанне: калі ж гэтыя плакаты друкавалі? 22 чэрвеня? Палічым што так. Калі ж у такім выпадку Іраклій Таідзэ стварыў свой шэдэўр? Як ні круці: да 22 чэрвеня. Атрымліваецца: ён тварыў свой твор не ў парыве высакароднай лютасьці, а яшчэ

да таго, як гэтая лютасьць ў ім магла закіпець. Адкуль жа ён ведаў пра нямецкі напад, калі сам Сталін нападу не чакаў? Загадка гісторыі ...

А вось і адгадка. Ліст із Аргентыны. Аўтар Кадыграў Мікалай Янавіч. Перад вайной – старэйшы лейтэнант прызыўнога пункту ў Мінску. Кожны прызыўны пункт меў і захоўваў некаторую колькасць сакрэтных мабілізацыйных дакументаў у апячатаных пакетах з паметкай: «Адкрыць пад час дня "М"». На прыканцы 1940 такіх дакументаў пачало паступаць усё больш. І вось у снежні былі дасланы тры вялізныя пакеты, кожны – з пяццю сургучнымі пячаткамі. Тое ж прадпісанне: «Адкрыць пад час дня "М"». Пакеты сакрэтныя, і іх належала захоўваць у сейфе. Але вось бяда: не памяшчаюцца. Былі вымушаны замовіць сталёвую скрыню і карыстацца ёю ў якасьці сейфа.

Прайшло шэсць месяцаў, 22 чэрвеня – вайна. Што рабіць з дакументамі? Молатаў па радыё паведаміў, што вайна пачалася, але загаду на адкрыванне пакетаў не паступала. Адкрыеш сам – сьмяротнае пакаранне растраляннем. Сядзяць афіцэры, чакаюць. А загаду няма. Адпаведны загад так і не паступіў. Але бліжэй да вечара па тэлефону – загад: пакеты пад такімі-та нумарамі знішчыць, не адкрываючы, пакеты з такімі-та нумарамі – адкрыць.

Было знішчана адразу шмат чаго, у тым ліку і два із трох вялізных пакетаў. А як іх знішчыць, калі ў кожным па 500 лістоў шчыльнай паперы? Палілі ў металічнай бочцы і страхавалі сябе актам: мы, ніжэйпадпісаўшыяся, спальвалі пакеты, пры гэтым былі вымушаны качаргой перамешваць спальваемыя лісты, але ніхто пры гэтым у полымя не заглядваў ... І падпісаліся. А то ўзнікне потым у каго-небудзь сумнеў: ці не пацікавіліся зместам спальваемага. Таму акт: не цікавіліся.

А із аднаго із трох велізных пакетаў было загадана грыф сакрэтнасьці зняць, пакет адчыніць і змяшчаемае выкарыстаць адпаведна з прызначэннем. Адчынілі. Унутры стос плакатаў: «Радзіма маці заклікае!». Плакаты расклеілі на працягу ночы на 23 чэрвеня. Але паступілі яны на захаванне ў снежні 1940 года. Вымалёўваецца карціна: плакаты падрыхтавалі загадзя, надрукавалі накладам дастаткавым для ўсёй краіну і ў сакрэтных пакетах разаслалі па адпаведных устанавах. Нешта планавалі. Але 22 чэрвеня Гітлер нанёс апераджваючы ўдар, і ў адзін момант шмат якія із тых плакатаў, мякка кажучы, страцілі актуальнасць.

Савецкаму Саюзу давялося весьці абарончую вайну на сваёй тэрыторыі, а нарыхтаваныя плакаты ў двух іншых пакетах заклікалі зусім да іншай вайны. Змест нарыхтаванай агітацыйнай прадукцыі не адпавядаў духу абарончай вайны. Таму загад: знішчыць, не адчыняючы. Магчыма, то былі таксама вялікія шэдэўры, магчыма і яны сталі б сусветна знакамітымі. Але мастакам, іх стварыўшым, не пашанцавала.

А Іраклію Таідзэ пашанцавала – яго плакат (магчыма, насуперак аўтарскай задуме) атрымаўся універсальным: «Радзіма-маці заклікае». А куды заклікае, ён не пазначыў. Таму яго плакат выявіўся прыдатным і для абарончай вайны. Таму плакат Таідзэ і загадалі расклеіць па краіне.

Так было з усімі сімваламі «Вялікай Айчыннай» – іх падрыхтавалі загадзя. Песьня «Свяшчэнная вайна» была напісана ДА нямецкага ўварвання. Манументальны сімвал «Вялікай Айчыннай» – «Ваяр-Вызваліцель» з дзіцёнкам на руках. Гэты вобраз з'явіўся ў газеце «Праўда» у верасні 1939 года на трэцці

дзень пасьля пачатку савецкага «вызваляючага паходу» ў Польшчу. Калі б Гітлер не напаў, то мы ўсё адно сталі б «вызваліцелямі». Манументальныя, графічныя і музычныя сімвалы «вызваленчай» вайны ўжо былі створаны, некаторыя з іх, як плакаты Таідзэ, ужо друкаваліся масавым тыражом ...

Запярэчаць: ці можам мы верыць афіцэру, які патрапіў у палон і пасьля вайны дзякуючы нейкім нагодам апынуўся не на радзіме сусьветнага пралетарыяту, а ў Аргентыне?

Што ж, давайце не верыць. Але тыя, якія пасьля вайны вярнуліся на радзіму сусьветнага пралетарыяту, паведамляюць такія ж самыя дзіўныя гісторыі.

Пасьля надрукавання «Ледаколу» крамлёўскія гісторыкі ў шматлікіх артыкулах спрабавалі аспрэчыць падрыхтоўку Сталіна да «вызвалення» Еўропы.

Даходзіла да кур'ёзаў. Адзін літаратуразнаўца адкрыў, што словы песьні «Свяшчэнная вайна» былі напісаны яшчэ пад час Першай сусьветнай вайны. Лебедзеў-Кумач проста ўкраў чужы твор і выдаў за свой. Мае крытыкі ўхапіліся за гэтую публікацыю і пачалі шматкроць паўтараць ў друку, словы былі напісаныя за чвэрць стагоддзя да нямецкага нападу! Правільна. Але хіба я з гэтым спрачаюся? Хіба гэта важна?

Сталіну ў ЛЮТЫМ 1941 года спатрэбілася песьня пра вялікую вайну супраць Нямеччыны. І Сталін такую песьню замовіў – вось што галоўнае. А ўжо якімі шляхамі выканаўцы здолелі выканаць сталінскі загад: перавялі із японскай мовы або із мангольскай, у некага скралі або напісалі самі – гэта пытанне, якое не мае дачынення да маёй кнігі. Адказ на яго нічога не перамяняе, нічога не даводзіць, нічога не аспрэчвае. Ды і не пра Лебедзева-Кумача гаворка. Песьня – музычны твор. Таму Сталін у лютым ставіў задачу не Лебедзеву-Кумачу, а кампазітару Аляксандру Васільевічу Аляксандраву.

У лістах, якія я атрымаў, некалькі сведчанняў пра тое, што не адзін Аляксандраў пісаў песьню пра вайну. І не толькі кампазітары і паэты рыхтаваліся да «вызваленчай» вайне, але і лекары, настаўнікі, спевакі, скакуны, акрабаты, штукары. Дзіўна, але афіцыйная прэса паведамляе пра тое ж самае.

Вось сведчанне Кастуся Сіманава ў газеце «Чырвоная зорка» ад 7 лістапада 1992 года. Сіманаў – улюбёнец Сталіна, Хрушчаўа, Брэжнева; герой, кавалер сямі ордэнаў, лаўрэат чатырох сталінскіх прэмій; у часы Сталіна – кандыдат у сябры ЦК. Ён сведчыць пра тое, што летам 1940 сабралі грамадзянскіх пісьменнікаў і пачалі рыхтаваць да вайны. Сам Кастусь Сіманаў быў ва ўзводзе паэтаў роты пісьменнікаў. Год рыхтавалі, а 15 чэрвеня 1941 прысвоілі вайсковыя званні. Сіманаву – інтэнданта 2-га рангу, што адпавядала падпалкоўніку.

Натоўп на вуліцах ў тыя дні не быў у стане зразумець сэнс Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня, а савецкія пісьменнікі і паэты ў гэты час ужо прымяралі афіцэрскую форму, ужо абувалі боты.

Сіманаў працягвае: «22 чэрвеня пачалася вайна, а для нас ўсіх ужо былі падрыхтаваны прадпісанні, каму – куды, ад цэнтральных газет да дывізіённых ...». Кожная із 303 сталінскіх дывізій мела сваю дывізіённую газету. Калі ў рэдакцыю кожнай дывізіённай газеты выправіць па аднаму пісьменніку, то

колькі іх падрыхтавалі? І ў корпусныя газеты пісьменнікі-паэты патрабаваліся, і ў армейскія, флоцкія, акруговыя, франтавыя.

У Акадэміі ГРУ мяне вучылі, звяртай увагу на дробныя падрабязнасьці, на самыя драбнюсенькія. Толькі грунтуючыся на іх можна скласьці ўяўленне пра тое, што адбываецца. Карыстаюся наказам сваіх настаўнікаў. Звяртаю ўвагу на дробязі.

А драбязі здзіўляючыя: вайсковымі званнямі Сталін не раскідаўся. Вайсковыя лётчыкі ў тыя часы служылі ў сяржанцкіх званнях, камандыры звенняў і нават намесьнікі камандыраў эскадрылляў – сяржанты. Афіцэрскія званні пачыналіся з пасады камандыра эскадрыллі. А тут – грамадзянскі чалавек Кастусь Сіманаў, пісьменнік, у войску не служыўшы, 25 гадоў ад роду, год падрыхтоўкі і – першае званне адпавядаючае падпалкоўніку.

А гэта ж вельмі сур'ёзна. І ён быў зусім не адзін. Так пакаваў валізкі і знаёміўся з франтавым прадпісаннем палкавы камісар Міхал Шолахаў, падпалкоўнік Аляксандр Твардоўскі, батальённы камісар Аляксей Суркоў, брыгадны камісар Аляксандр Фадзееў, інтэндант 3-ага рангу Леанід Першамайскі, брыгадны камісар (званне адпавядаючае генеральскаму) Усевалад Вішнеўскі і ўвесь Саюз пісьменнікаў амаль у поўным складзе. Выключэнне было зроблена толькі для няздольных насіць зброю.

Уявіце сябе савецкім выведнікам-аналітыкам. На ваш стол паклалі нейкае дробязнае паведамленне: Гітлер у 1940 годзе сабраў усіх нямецкіх пісьменнікаў і паэтаў, на працягу года іх ганялі па стрэльбішчах і палігонах, зараз ім прысвоілі званні да генерала ўключна і рыхтуюць да адпраўлення на савецкую мяжу. Адпраўка таемная, з элементамі маскараду: некаторых із іх выдаюць за інтэндантаў, спецыялістаў па забеспячэнню ботамі і шынялямі.

Як бы вы, савецкі выведнік-аналітык, адрэагавалі на такое паведамленне? Што б вы паведамілі сваім кіраўніцтву? Але ў Няметчыне нічога падобнага не адбывалася, адбывалася ў Савецкім Саюзе. І калі падобныя паведамленні даходзілі да нямецкай выведкі, як яна павінна была на іх рэагаваць? Што паведамляць сваім кіраўнікам? З аднаго боку заспакойваючае паведамленне ТАСЗ, з другога ...

Пасля апяраджваючага ўдару Гітлера неабходнасць у маскарадзе адпала, і ўсім пісьменнікам інтэнданцкія рангі замянілі на стандартныя вайскавыя. Але была ж нагода, адпаведна якой перад вайной ладзіўся ўвесь гэты маскарад.

Яшчэ момант – калі б Гітлер не напаў, то, што меў намер рабіць Сталін са сваімі пісьменнікамі і паэтамі: дазволіў бы пакрасавацца ў афіцэрскай форме год-другі, а потым забраў бы афіцэрскія званні і загадаў вярнуў у Маскву, ці як?

Летам 1939 года той жа Кастусь Сіманаў быў вайсковым карэспандэнтам у армейскай групе Жукава на Халхін-Голе. Тады ён цалкам не меў патрэбы ў вайсковай падрыхтоўцы і ў афіцэрскім званні. А летам 1940 камусьці спатрэбілася пачаць массавую падрыхтоўку да вайны журналістаў, пісьменнікаў, паэтаў. Летам 1940 плана «Барбаросы» ў Гітлера яшчэ не было. А ў таварыша Сталіна нейкія задумы ўжо былі.

Нашы пісьменнікі і паэты спазьніліся толькі крышачку: курс вайсковай падрыхтоўкі завяршылі, званні атрымалі, атрымалі размеркаванне па франтах,

арміях, карпусах, дывізіях, спакавалі валізкі і вось ужо павінны былі раз'ехацца па сваіх франтавым рэдакцыях... а тут напаў Гітлер.

У момант апошніх прыгатаванняў Гітлер заспеў не толькі Кастуся Сіманава з субратамі па пяру, але і ўсю Чырвоную Армію: пры пагрузцы, у дарозе, пры выгрузцы. У Сталіна ўсё было прадумана і падрыхтавана да ўварвання. Усё, аж да пераможных плакатаў і франтавых рэдакцый, гатовых апецць вялікае здзяйсненне савецкага народа на палях пераможных змаганняў. Але калі мы не верым былому афіцэру із Аргентыны, дык давайце верыць «Чырвонай зорцы» і герою-лаўрэату-кавалеру-інтэнданту.

Лісты, атрыманыя мной ад сваіх чытачоў, – немалы здабытак, гэта наша памяць, наша гісторыя, наша мінулае, наша будучыня. Не выведаўшы мінулага, не зможам ад яго пазбавіцца ў будучыні. Таму абяцаю: аднойчы лісты пра вайну надрукую. Не ведаю, колькі тамоў, але ведаю, што гэта з’яўляецца самым цікавым, што было напісана пра вайну.

Усіх, каму пакуль не адказаў асабіста, прашу мяне прабачыць. Прашу ўзяць да ведама сітуацыю, у якой я апынуўся. Усім, хто мне напісаў, ўдзячны. Былі лісты лаючыя. Іхным аўтарам я больш усяго ўдзячны. Мне раптам прыйшла ў галаву думка стаць самым галоўным крытыкам сваіх кніг. Кожны із нас робіць памылкі, кожны грэшны. Маю жаданне выправіць памылкі з вашай дапамогай, адшліфаваць свае кнігі так, каб іхны сэнс быў зразумелы кожнаму:

Гатовы выслухаць якую б то ні было крытыку ў лістах і ў прэсе. За адзін год сабраў больш за трыста рэцэнзій на «Ледакол». Часам гэта цэлыя пагромныя старонкі. Часам узнікала жаданне агрызнуцца, але ў ГРУ навучылі пакоры: паважай суперніка, спрабуй зразумець яго доказы, спрабуй атрымаць карысць нават із гневу сваіх ворагаў. Спрабую.

Удзячны ўсім, хто пісаў крытыкуючыя і ўхвальныя рэцэнзіі. Абяцаю, што калі-небудзь надрукую цэлую кнігу з адказамі на крытыку і паспрабую адказаць на ўсе пастаўленыя пытанні. Усе мы робім адну справу. Усе мы спрабуем зразумець наша мінулае, хаця і з розных пазіцый.

Віктар СУВОРАЎ. 13 верасня 1993, Оксфард.

# Глава I

## Са скрыпам

«У гісторыі не было ніводнай вайны, падставы ўзнікнення і мэты якой не былі б прадстаўлены завадатарамі і іхнымі навукоўцамі-лакеямі ў перакручаным, фальсіфікаваць выглядзе».

Савецкая ваенная энцыклапедыя. Т.6, с.554.

Расійскі жаўнер хадзіў у скураных ботах. А камуністы ўвялі замяняльнік-эрзац. І савецкі жаўнер пачаў хадзіць не ў скураных ботах, а ў кірзавых. Вядома, у сталічных гарнізонах «прыдворныя» палкі і дывізіі абувалі ў скураны абутак. Хай замежнікі лічаць, што савецкаму жаўнеру жывецца добра. І савецкае акупацыйнае войска ў краінах соцлагера – у Няметчыне, Польшчы, Венгрыі абувалі ў скураныя боты – хай усе вераць, што Савецкі Саюз – звышдзяржава.

Але ўсіх сваіх жаўнераў звышдзяржава скуранымі ботамі забяспечыць не была ў стане і дзякуючы гэтаму савецкі жаўнер па сваёй краіне хадзіў у ботах кірзавых. А гэта нязручна. У прамым сэнсе і ў пераносным. Асабліва нязручна, калі ўзнікае патрэба выканаць ганаравую інтэрнацыянальную задачу.

Летам 1968 мяне, маладога афіцэрыка, вайсковы лёс занёс у Карпаты на мяжу з брацкай сацыялістычнай Чэхаславакіяй. Контррэвалюцыя душыла краіну, і перад нашым доблесным Савецкім Войскам паўстала неабходнасць узяць удзел у справе і дапамагчы брацкаму народу, але ... У кірзаках няёмка. Проста не да твару ваяру-вызваліцелю таптаць Яўропу непаўнавартаснымі ботамі. Нязручна. Зразумела, у нас, афіцэраў, боцікі што трэба – са скрыпам і бляскам. Але нашы жаўнеры абутыя непрыстойна.

Знемагаем мы ў чаканні. Тыдзень у лясах чакаем, другі. Месяц чакаем, другі чакаем. А тым часам хутка жнівень. Надакучыла ў лясах. Ці б ужо адно рашэнне нашы правадыры прынялі, ці другое: ці вярнулі б нашы дывізіі ў лагеры і вайсковыя гарадкі, ці б далі загад здзейсніць інтэрнацыянальную дапамогу брацкаму народу ... Але рашэння няма і таму мы чакаем. На працягу ўсяго дня практыкаванні да дваццатага поту, а вечарам вячэра каля вогнішча і гадаем: пойдзем у Чэхаславакію ці не пойдзем ... І зноў практыкаванні з раніцы, а то і із вечара ... І зноў гадаем.

А потым неяк пад вечар на прасецы, уздоўж якой стаяў наш батальён, з'явіліся вялізныя аўтамабілішчы «Урал-375». На кожным добрых скураных ботаў па шмат тон: забірай! І вывальваюць тыя боты прама на прасеку, падобна таму як самазвалы кідаюць каменне ў бурлівую ваду, перакрываючы Енісей. Шмат ботаў. Без ліку. Існуе, вядома, злічэнне, але без асаблівай дакладнасьці: забірай, усім хопіць. Старшына, колькі ў цябе людзей? Сто дваццаць дзевяць? Вось 129 пар! Размеры? Разбярэцеся. З суседзямі памяняецеся. А ў цябе колькі? Дзьвесьце пяцьдзясят сем? Вось табе куча!

І па ўсіх прасеках адначасава звальваюцца на зямлю тысячы пар. Дзясяткі тысяч пар. Сотні тысяч. Усіх пераабуць за адну ноч! Дрэнныя кірзачы скінуць, добрыя скураныя абуць! У нашым лесе мы зусім не адны. Правей – батальён і лявей – батальён. Перад намі – нейкія артылерысты, за намі ў ельніку – яшчэ батальён, і яшчэ адзін, і так да бясконцасьці. І ўсе лясы як суседнія так і больш далёкія перапоўнены вайскоўцамі. А нас жа не батальёны, не палкі і не дывізіі, нас цэлыя арміі: 8-я гвардэйская танкавая армія пераабуваеццм, і 13-я армія, і яшчэ нейкая ззаду нас. Усім адразу ботаў падвезлі ладна. З запасам. З пераборам. І ўжо па ўсіх прасеках, па ўсіх палянах скрыпяць начымі боцікамі нашы жаўнеры. Прыемна паглядзець: скура ялавая. Вышэйшы клас. Любата. Із дзяржаўных рэзерваў.

Нашы памежныя лясы ўсе разам перапоўніліся скрыпам скураных ботаў, быццам бы шчабятаннем веснавых птушак. І гэты скрып наводзіў на разважанні і высновы.

Камандыр нашага батальёна склікаў афіцэраў. Мацёры быў такі камбацішча. Падпалкоўнік Пратасаў. Слоў лішніх не кідаў: «Таварышы афіцэры, – кажа, – трэба выпіць і закусіць. Хто яго ведае, што чакае нас за паваротам?»

Селі мы ў бронетранспарцёр – і ў суседнюю вёсачку. А там у карчме ўжо п'юць і артылерыйскія афіцэры, і сапёрныя, і палітычныя. Не праціснуцца.

Усім зразумела, што дарэмна наша шануемая Радзіма сваіх сыноў не песьціць. А калі так, трэба выпіць. Магчыма, апошні раз п'ем. Магчыма, давядзецца ваяваць за свабоду братняга народа Чэхаславакіі, і ў крывавай барацьбе супраць капіталістаў пакласьці галаву. Паднялі мы тады нашы фляжкі за Чэхаславакію, за яе вольналюбівы народ, жадаючы нашай дапамогі і якую мы яму дадзім. Дадзім безкарысліва. Мы добрыя. Мы ўсім дапамагаем. Калі просяць. Калі не просяць, таксама дапамагаем. Адным словам, сядзім, п'ем. Загаду пакуль няма, але ўжо ўсім зразумела: і нам, афіцэрам, і жаўнерам нашым, і буфетчыцы, якая нам падлівае, і старому, які прысланіўся ў куце з кружкай піва. Ёсць жаданне ў старога далучыцца да нашай кампаніі і сказаць вучонае слава, але нам у такой сітуацыі з грамадзянскім насельніцтвам не належыць мець стасункаў, каб ненарокам не выкрыць вайсковыя сакрэты, не выкрыць намеры нашага кіраўніцтва.

Сядзеў стары ў куце, сядзеў, увесь ізвёўся: такім моцным у яго было жаданне пагаварыць з намі... Не атрымлівалася ў яго. А калі мы ўжо сыходзілі, ён нібы між іншым, як быццам сам сабе, але так, каб усе чулі:

– Сапраўды, як у сорак першым годзе ...

Такога мы ніяк не чакалі і зразумець не маглі. А сказана было з выклікам, так, што патрэба было адказаць.

– Ты гэта, стары, пра што?

– Пра рыпенне. У чэрвені сорак першага, Чырвоная Армія ў гэтых месцах дакладна гэтак жа новенькімі скуранымі ботамі рыпела. Вось з таго самага моманту я і страціў спакой.

Пасля «вызвольнага паходу» у Чэхаславакію мне давялося служыць у тых жа месцах, у Карпатах. І давялося абхадзіць, абтаптаць, абкалясіць як Прыкарпацце, так і Закарпацце. І пры выпадку – да старых, да старажылаў, да жывых сведак: як, маўляў, справа была? І падмацавалася шматлікімі сведчаннямі: у 1941 годзе перад нямецкім нападам Чырвоную Армію ў памежных раёнах пераабулі ў скураныя боты. І не толькі на Украіне, але і ў Малдавіі, і на Беларусі, і ў Літве, і ў Карэліі. А, акрамя таго, у 1941 годзе ў памежныя раёны завезлі скураных ботаў на мільёны жаўнераў, якіх планавалася перакінуць із унутраных раёнаў краіны у далейшым.

Пад прыкрыццём Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 г. мільёны жаўнераў із унутраных раёнаў накіраваліся да межы, а скураныя боты для іх ужо выгружаліся – на чыгуначных станцыях паблізу мяжы.

На станцыі Жмерынка, напрыклад, на пачатку чэрвеня 1941 скураныя боты выгружалі із вагонаў і складвалі штабелямі каля чыгункі пад адкрытым небам. «Ці вялікай была куча? – пацікавіўся. – А да самога неба», – адказвала старая сялянка. «Як піраміда Хеопса», – адказваў школьны настаўнік. У Славуце куча ботаў да піраміды Хеопса не дацягвала, была проста вялікай, як палова піраміды Хеопса. У Залешыках ў траўні 41-га на разгрузку скураных ботаў сагналі ледзь ці не ўсё працаздольнае насельніцтва – у парадку прывучэння да дарэмнай камуністычнай працы. Горы ботаў памятаюць у Ковелі, Баранавічах, Гародні ...

Пачынаў размову здалёку: што, маўляў, на станцыях разгружалі перад вайной? «Танкі, – адказваюць, – гарматы, вайскоўцаў выгружалі, скрыні зялёныя

і ... боты». Не скажу, каб вельмі ўжо на боты напіралі: калі чалавек усё жыццё каля станцыі пражыў, то мог бачыць ўсё што заўгодна на шляхах, на платформах, на пляцоўках для выгрузкі. Ўсяго не запомніш. Але ўсё ж было нешта асаблівае, містычнае ў самім факце разгрузкі ботаў, што прымушала людзей звярнуць увагу і запомніць на ўсё жыццё.

Людзі запомнілі тыя боты, у асноўным, дзякуючы тром нагодам. Па-першае, ботаў было вельмі шмат. Незвычайна шмат. Па-другое, іх клалі непасрэдна на грунт. Часам, падсьцілалі брызент, а часам і без брызенту. Гэта было неяк незвычайна. Па-трэццяе, усё гэтае дабро захапілі немцы. А гэта менавіта той момант, які запамінаецца.

Ніхто із мясцавых жыхароў не ведаў і не мог ведаць, навошта ў 1941 годзе прывезлі столькі ботаў да самай мяжы. І мне была незразумелай мэта, дзеля якой у 1941 годзе савецкім жаўнерам каля мяжы наўзамен дрэнных кірзавых ботаў выдавалі добрыя скураныя. Пра 1968 год усё зразумела: мы ішлі вызваляць брацкую Чэхаславакію. А ў 1941 годзе нашы бацькі што мелі намер рабіць?

Дарэчы, мой бацька прайшоў вайну ад самага першага дня да самага апошняга, а потым прайшоў ад першага да апошняга дня кароткую лютую вайну супраць японскага войска ў Кітаі. Я запытаў, як ён пачаў вайну, дзе, калі, у складзе якой дывізіі, якога корпуса? У якіх ботах? Ён паведаміў. Яго паведамленні пазьней я праверыў па розных архівах.

Пасьля службы ў Карпатах вучыўся ў вайсковай акадэміі і меў магчымасць (і жаданне) капацца ў архівах. Матэрыялы пра вытворчасць ботаў, пра пастаўкі ў Чырвоную Армію, пра размяшчэнне запасаў ботаў і іншай маёмасьці былі ў тыя часы сакрэтнымі. Я меў доступ да сакрэтных матэрыялаў, але пасярод мільёнаў папер знайсьці адну патрэбную не ўдавалася. Даводзілася збіраць паведамленні па крупінках. Збіраў і не пераставаў дзівіцца: вайна даўно скончылася, ад моманту заканчэння вайны прайшло амаль 30 гадоў, а паведамленні пра захоўванне, перакідванне, страты жаўнерскіх ботаў за перыяд перадваенных гадоў як былі сакрэтнымі, так сакрэтнымі і застаюцца. Чаму?

У Англіі кажуць: «Цікаўнасць губіць ката». Я гэтай мудрасьці тады яшчэ не ведаў. А калі б і ведаў, то сваю працу не кінуў бы: ката цікаўнасць, магчыма, і губіць, але я ж не кот. Праз шмат гадоў зразумеў, што цікаўнасць губіць не толькі ката ...

Выявілася, што да мяжы адпаведна з загадам савецкага ўрада вывезлі не толькі мільёны пар скураных ботаў, але і мільёны камплектаў абмундыравання, дзясяткі тысяч тон запасных частак для танкаў, сотні тысяч тон вадкага паліва для самалётаў, танкаў і машын, мільёны скрынь снарадаў і патронаў. Усё гэта засталося каля мяжы, калі немцы нанесьлі ўдар.

І зноў пытанне: з якой мэтай усё гэта цягнулі да межаў, таму што да 1939 года ўсе гэтыя прыпасы захоўваліся далёка ад межаў. Дык хай бы там і ляжалі. Пачнецца вайна, наша войска наладзіць абарону, а із бяспечнай далечыні падвозіць патрэбных рэчаў роўна столькі, колькі патрэбна, не назапашваючы ў небяспечных раёнах непатрэбных лішкаў.

Было шмат пытанняў, адказаў не было. Працягваў шукаць. Вынікі пошукаў паведаміў у кнізе «Ледакол». «Дзень "М"» – другая кніга. Для тых, хто

чытаў «Ледакол», «Дзень "М"» – працяг. Але можна чытаць «Дзень "М"» і як асобную кнігу.

У «Ледаколе» наўмысна амаль не карыстаўся архіўнымі матэрыяламі. Мяне маглі папракнуць: то тое цытуеш, то гэта, а як нам праверыць ці правільна цытуеш, ды і ці існуе наогул такі дакумент у архіве? Зараз у архівы можна патрапіць і праверыць. Таму ў гэтай кнізе карыстаюся архіўнымі і адкрыта надрукаванымі матэрыяламі. Асноўны ўпор усё адно больш на адкрытыя матэрыялы, даступныя кожнаму. Хачу паказаць – глядзіце, слухайце, гэта не я прыдумаў. Гэта камуністы самі паведамляюць. Патрэбна толькі ўважліва іх слухаць.

Вывучаючы архіўныя матэрыялы і адкрытыя публікацыі, зрабіў для сябе выснаву, што перакідванне мільёнаў пар ботаў да мяжы, як і перакідванне боепрыпасаў, запасных частак, мільёнаў жаўнераў, тысяч танкаў і самалётаў – усё гэта не памылкі, не пралікі, а сьвядомая палітыка, гэта працэс, у якім удзельнічалі дзясяткі мільёнаў людзей.

Гэты працэс быў пачаты рашэннем савецкага кіраўніцтва грунтуючыся на рэкамендацыі Маршала Савецкага Саюза Б.М. Шапашнікава.

Гэты працэс меў на мэце падрыхтаваць прамысловасць, транспарт, сельскую гаспадарку, тэрыторыю краіны, савецкі народ і Чырвоную Армію да вядзення «вызваленчай» вайны на тэрыторыі Цэнтральнай і Заходняй Яўропы.

Гэты працэс называўся кароткім тэрмінам мабілізацыя. Гэта была таемная мабілізацыя. Савецкае кіраўніцтва рыхтавала Чырвоную Армію і ўсю краіну да захопу Няметчыны і ўсёй Заходняй Еўропы.

Захоп Заходняй Еўропы – вось галоўная мэта, дзеля якой Савецкі Саюз развязаў Другую Сусьветную вайну.

Канчаткавае рашэнне пачаць вайну Сталін прыняў 19 жніўня 1939 г.

# Глава II

## Чаму Сталін знішчыў сваю стратэгічную авіяцыю?

> «Калі ў наяўнасьці існуе массавае, здольнае да наступлення войска, асноўнай задачай паветранага вайска з’яўляецца – садзейнічаць прасоўванню гэтага войска наперад, для чаго павінны быць сканцэнтраваны ўсе магутнасьці».
> Камбрыг Аляксандр Лапчынскі. «Паветранае войска», Масква, 1939, с.144.

Сталін меў магчымасць папярэдзіць вайну. Адным росчыркам пяра.

Магчымасьцей існавала шмат. Вось адна із іх. У 1936 годзе ў Савецкім Саюзе быў створаны цяжкі хуткі вышынны бамбавоз ТБ-7. Гэта водгукі пра яго.

Генерал-маёр авіяцыі П. Стэфанаўскі, лётчык-выпрабавальнік ТБ-7: «Шматтонны карабель сваімі лётнымі магчымасьцямі пераўзыходзіў на дзесяцікіламятравай вышыні ўсе лепшыя еўрапейскія знішчальнікі той пары». (Трыста невядомых. С. 83).

Генерал-маёр авіяцыі В. Шуміхін: «На вышынях звыш 10 тысяч метраў ТБ-7 быў недасягальным для большасьці існаваўшых у той час знішчальнікаў, а вышыня 12 тысяч метраў рабіла яго недасягальнай і для зенітнай артылерыі». (Савецкая ваенная авіяцыя, 1917-1941. С. 218).

Авіяканструктар В. Шаўроў: «Выбітны самалёт». З дапамогай ТБ-7 ўпершыню, раней, чым у ЗША і Англіі, былі падняты пяцітонныя бомбы». (Гісторыя канструкцый самалётаў у СССР. 1938-1950. С. 162).

Прафесар Л. Кербер: «Машына мела моцнае абарончае ўзбраенне із 20-мм гармат і 12,7-мм цяжкіх кулямётаў. У вялікім бомбавым люку маглі падвешвацца бомбы самых буйных калібраў ... Недаступны на максімальнай вышыні свайго палёту ні для зенітных гармат, ні для знішчальнікаў таго часу, ТБ-7 быў самым моцным бамбавіком ў сьвеце». (ТУ – чалавек і самалёт. С. 143). «Эпахальны самалёт ... Цяпер мы маем усе падставы сцвярджаць, што ТБ-7 быў значна мацнейшым за знакамітае амерыканскае лятучае ўмацаванне Б-17». (След у небе. с. 202). Замежныя гісторыкі з такімі высновамі згодны. Джон В.Р. Тэйлар: «На вышынях 26250-29500 футаў яго хуткасць перавышала хуткасць нямецкіх знішчальнікаў Ме-109 і Хе-112». (Combat Aircraft of the World. Лондан, 1969, с. 592).

Вацлаў Немечэк: «У гэтай машыны было на дзіва доўгае жыццё. У пяцідзесятых гадах усё яшчэ можна было сустрэць асобныя ўзоры на палярных трасах, дзе іх выкарыстоўвалі для транспарціроўкі грузаў ". (History of Soviet Aircraft from 1918. Лондан, 1986, с.134), Няма патрэбы даводзіць, што доўга жывуць і доўга лётаюць толькі добрыя самалёты ...

Выдатныя якасьці ТБ-7 былі даведзены заходнім экспертам восенню 1941 года. Чакалася прыбыццё савецкай урадавай дэлегацыі на чале з В. М. Молатавым у Вялікабрытанію і ў ЗША. Меркавалася, што адзіна магчымым шляхам з'яўляецца шлях – праз Сібір і Аляску. Але Молатаў на ТБ-7 паляцеў із Масквы ў Брытанію непасрэдна над акупаванай Яўропай. Патрэбна згадаць, хто панаваў у небе Яўропы восенню сорак першага, каб ацаніць ступень даверу савецкага кіраўніцтва да гэтага самалёта. Калі б Молатаў патрапіў у лапы Гітлера то было б немагчыма пазбегнуць гучнага працэсу дзе-небудзь у Нюрнбергу. І адкрыліся б злачынствы інтэрнацыянал-сацыялізму, якія былі б у стане ўзрушыць сьвет на шмат стагоддзяў. І выкрылася б, што інтэрнацыянал-сацыялізм творыць не меншыя злачынствы, чым яго крывавы брат нацыянал-сацыялізм, што абодва цалкам заслугоўваюць нюрнбергскай лаўкі.

Але Молатаў не баяўся патрапіць на лаву падсудных. І Сталін, выпраўляючы Молатава, не баяўся працэсу над сваім рэжымам: Молатаў ляціць не на чым-небудзь, а на ТБ-7, чаго ж хвалявацца? І ТБ-7 не падвёў. Ён прайшоў над Яўропай, пабываў у Брытаніі, злятаў у Амерыку і вярнуўся тым жа шляхам, яшчэ раз беспакарана праляцеўшы над нямецкімі ўладаннямі.

У 1942 Молатаў зноў лётаў над Яўропай і зноў вярнуўся цэлым. Пасьля вайны савецкая ўрадавая камісія правяла аналіз дзеянняў нямецкай сістэмы СПА ў момант палёту Молатава. Высветлілася, што ў паласе пралёту знішчальнікі не падніmaліся для перахопу, на зянітных батарэях трывога не абвяшчалася, пастамі назірання пралёт ТБ-7 не быў зарэгістраваны. Прасьцей кажучы, нямецкія сродкі

СПА не толькі не змаглі перахапіць ТБ-7, але нават не змаглі выявіць яго прысутнасць у сваёй паветранай прасторы.

Палкоўнік (у тыя часы – капітан) Э. Пусон, шмат разоў вадзіўшы ТБ-7 над Няметчынай (не толькі з каштоўным целам Молатава, але і з іншымі грузамі), паведамляў: «зянітка дастае такую вышыню не вельмі прыцэльна, можна сказаць, амаль пры канцы лёту. Знішчальнік там таксама нападобе соннай мухі. Хто мне чаго зробіць?». (М.Галай. Трэцяе вымярэнне. М. Савецкі пісьменнік, 1973, с. 330). Такім чынам, задоўга да вайны ў Савецкім Саюзе быў створаны незнішчаемы бамбавік і падрыхтаваны загад аб выпуску тысячы ТБ-7 да лістапада 1940. Што заставалася зрабіць?

Заставалася пад загадам напісаць сем літар: І. СТАЛІН. У той час калі першыя ТБ-7 лёталі на недасягальных вышынях, канструктары іншых авіяцыйных дзяржаваў сьвету ўперліся ў нябачны бар'ер вышыні: у разрэджаным паветры праз недахоп кіслароду рухавікі гублялі магутнасць. Яны літаральна задыхаліся – як альпіністы на вяршыні Эверэста. Існаваў цалкам перспектыўны шлях павышэння магутнасьці рухавікоў: выкарыстоўваць выхлапныя газы для кручэння турбакампрэсара, падаючага ў рухавік дадатковае паветра. Проста ў тэорыі – складана на практыцы. Пры эксперыментах, на рэкордных самалётах атрымлівалася. На серыйных – не.

Дэталі турбакампрэсара працуюць у гарачай бруі атрутнага газу пры тэмпературы звыш 1000 градусаў, навакольнае паветра – гэта мінус 60, а потым – вяртанне на цёплую зямлю. Нераўнамерны нагрэў, рэзкі перапад ціску і тэмпературы пашкоджвае дэталі, і скрыгатанне турбакампрэсара заглушала роў рухавіка; ахоўваючыя лакі і фарбы выгаралі ў першым жа палёце, на зямлі вільгаць асядала на астываючыя дэталі, і карозія раз'ядала механізмы наскрозь. Асабліва даставалася падшыпнікам: яны плавіліся, як васковыя свечкі. Добра на рэкордным самалёце: із дзесяці спроб адзін раз не паламаць турбакампрэсар – вось табе і рэкорд. А як жа быць з серыйнымі самалётамі?

Шукалі ўсе, а знайшоў Уладзімір Петлякаў – стваральнік ТБ-7. Сакрэт Петлякава захоўваўся як надзвычайная дзяржаўная таямніца. А рашэнне было геніяльна простым. ТБ-7 меў чатыры шрубы і звонку здаваўся четырохматорным самалётам. Але ўнутры корпуса, ззаду кабіны экіпажа, Петлякаў усталяваў дадатковы пяты рухавік, які шрубы не круціў. На малых і сярэдніх вышынях працуюць чатыры асноўныя рухавікі, на вялікіх – уключаецца пяты, ён прыводзіць у дзеянне сістэму цэнтралізаванай падачы дадатковага паветра. Гэтым паветрам пяты рухавік сілкаваў сябе самаго і чатыры асноўныя рухавікі. Вось чаму ТБ-7 мог залазіць туды, дзе ніхто яго не мог дастаць: лётай над Яўропай, кідай бомбы на каго пажадаеш і не бойся за сваю бяспеку.

Маючы тысячу незнішчаемых ТБ-7, можна папярэдзіць якое заўгодна ўварванне. Для гэтага было дастаткова проста запрасіць ваенныя дэлегацыі пэўных дзяржаваў і ў іхнай прысутнасьці дзесьці ў Заволжскім стэпе высыпаць з бразгочучай вышынь ПЯЦЬ ТЫСЯЧЫ ТОНАЎ БОМБАЎ. І патлумачыць: да вас гэта дачыненне не мае, гэта мы рыхтуем сюрпрыз для сталіцы той дзяржавы, якая адважыцца на нас напасьці. Дакладнасць? Ніякай дакладнасьці. Адкуль ёй узяцца? Высыпаем бомбы з галавакружачай вышыні. Але адсутнасць дакладнасьці папоўнім паўторнымі налётамі. Кожны дзень па пяць тысяч тон на

сталіцу агрэсара, пакуль не дасягнем пажаданага выніку, а потым і іншым гарадам дастанецца. Пакуль праціўнік да Масквы дойдзе, ведаеце, што з яго гарадамі будзе? У паветры ТБ-7 амаль незнішчаемы, на зямлі праціўнік іх не дастане: нашы базы далёка ад мяжы і прыкрытыя, а стратэгічнай авіяцыі ў нашых верагодных праціўнікаў няма ... А цяпер, панаве, вып'ем за вечны мір ...

Так маглі б прамовіць сталінскія дыпламаты, калі б Савецкі Саюз меў тысячу ТБ-7. Але Сталін ад тысячы ТБ-7 адмовіўся ... Ці можна зразумець матывы Сталіна? Можна. Калі перавесьці тысячу ТБ-7 на маву шахмат, то гэта сітуацыя, калі можна абвясьціць шах непрыяцельскаму каралю яшчэ да пачатку гульні, а калі партнёр адважыцца пачаць гульню, – яму можна аб'вясьціць мат пасьля першага ходу.

Калі пяць тысяч тон бомбаў, якія ТБ-7 маглі даставіць адным рэйсам, перавесьці на маву сучаснай стратэгіі, то гэта – ПЯЦЬ КІЛАТОН. Гэта ўжо тэрміналогія ядзернага стагоддзя. Калі пяць кілатон недастаткова, то за два рэйсы можна даставіць дзесяць. А дваццаць кілатон – гэта тое, што без асаблівай дакладнасьці звалілася на Хірасіму.

Тысяча ТБ-7 – гэта як бы ядзерная ракета, наведзеная на сталіцу праціўніка. Магутнасць такая, што для патэнцыйнага агрэсара вайна губляе сэнс.

Такім чынам, адным росчыркам сталінскага пяра пад загадам пра серыйнае вырабніцства ТБ-7 можна было прадухіліць нямецкае ўварванне на савецкую тэрыторыю.

Я скажу больш: Сталін мог бы прадухіліць і ўсю Другую сусьветную вайну. Зразумела, у жніўні 1939 года ён не мог мець ўсю тысячу ТБ-7. Але дзьвесце, трыста, чатырыста і нават пяцьсот – мець мог. Адзін вылет двухсот ТБ-7 – кілатона. Маючы толькі дзьвесьце ТБ-7, пакт Молатава-Рыбентропа можна было не падпісваць. Маючы толькі дзьвесьце ТБ-7, можна было не звяртаць увагу на пазіцыю Вялікабрытаніі і Францыі.

Можна было проста запрасіць Рыбентропа (а то і самога Гітлера), прадэманстраваць тое, што ўжо ёсць, паведаміць, што будзе, а потым проста і выразна выказаць сваю пазіцыю: спадар міністр (ці – спадар канцлер), у нас стасункі з Польшчай не самыя лепшыя, але нямецкае прасоўванне на ўсход нас палохае. Непаразуменні Няметчыны з Польшчай не маюць да нас дачынення, вырашайце самі свае праблемы, але толькі не пачынайце вялікую вайну супраць Польшчы. Калі пачнеце, мы кінем у Польшчу пяць мільёнаў савецкіх добраахвотнікаў. Мы дадзім Польшчы ўсё, што яна папросіць, мы наладзім у Польшчы партызанскую вайну і пачнём мабілізацыю Чырвонай Арміі. Ну і ТБ-7 ... Кожны дзень. Пакуль 5000 тон у дзень забяспечыць ніяк не можам, гэта потым, але тысячу тон у дзень гарантуем.

Так можна было б размаўляць з Гітлерам у жніўні 1939 года, калі б Сталін у свой час падпісаў загад пра серыйнае вырабніцства ...

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што Сталін загад падпісаў ... Але потым яго адмяніў. І падпісаў зноў. І адмяніў. І зноў ... Чатыры разы ТБ-7 пачыналі выпускаць серыйна і чатыры разы з серыі здымалі. (Г. Возераў. Тупалеўская шарага. «Пасеў», Франкфурт-на-Майне, 1971, с. 47). Пасьля кожнага загаду прамысловасць паспявала зрабіць тры-чатыры ТБ-7, і загад адмяняўся. І зноў усё пачыналася і зноў абрывалася ... На 22 чэрвень 1941 г. ТБ-7

серыйна не выпускаюцца. За чатыры спробы авіяпрамыславасць паспела выпусціць і перадаць стратэгічнай авіяцыі не тысячу ТБ-7, а толькі адзінаццаць. Больш за тое, амаль усе із гэтых адзінаццаці не мелі самага галоўнага – дадаткавага пятага рухавіка. Без яго лепшы стратэгічны бамбавік сьвету ператварыўся ў звычайную пасрэднасць.

Пасьля нападу Гітлера ТБ-7 пусьцілі ў серыю. Але было позна ...

Узнікае пытанне: калі б Сталін даў загад пра вырабніцтва тысячы ТБ-7 і не адмяніў яго, змагла б савецкая прамыславасць выканаць сталінскі заказ? Змагла б да канца 1940 года вырабіць тысячу такіх самалётаў?

Стваральнік ТБ-7 авіяканструктар Уладзімір Петлякаў (Пасьля трагічнай гібелі Петлякава ТБ-7 быў пераназваны ў Пе-8) ні хвіліны ў гэтым не сумняваўся.

Аляксандр Мікулін, стваральнік рухавікоў для ТБ-7, быў цалкам упэўнены, што савецкая прамыславасць такі заказ магла выканаць. Намесьнік авіяканструктара А. Тупалева прафесар Л. Кербер, вядучыя эксперты авіяпрамыславасьці С. Егер, С. Лешчанка, Е. Стоман, галоўны канструктар завода, вырабляўшага ТБ-7, І. Незваль, галоўны тэхнолаг завода Е. Шэкуноў і шмат хто іншыя, ад каго залежала вырабніцтва ТБ-7, лічылі загад выканальным за прызначаны тэрмін.

Авіяканструктары В.Б. Шаўроў і А.М. Тупалеў лічылі, што тысяча ТБ-7 можа быць прыгатавана да лістапада 1940 года.

Упэўненасць канструктараў і лідэраў прамыславасьці зразумелая: ТБ-7 з'явіўся не на пустым месцы. Расія – радзіма стратэгічных бамбавікоў. Гэта я кажу з гонарам і без іроніі.

На пачатку стагоддзя, калі ўвесь свет лётаў на аднаматорны самалётах, Расія першай у сьвеце пачала будаваць самалёты двухматорныя. Сьвет яшчэ не паспеў як трэба ацаніць гэты крок, а вялікі рускі інжынер Ігар Янавіч Сікорскі ў 1913 годзе пабудаваў першы ў сьвеце четырохматорны цяжкі бамбавік «Ілля Мурамец». Ужо пад час выпрабаванняў «Мурамец» б'е сусветны рэкорд далёкасьці. Па далёкасьці, ўзбраенню і бомбавай нагрузцы на працягу некалькіх гадоў «Мурамец» не меў аналагаў ва ўсім сьвеце. Ён меў самае перадавое згодна з тым часам навігацыйнае абсталяванне, бамбавальны прыцэл і першы ў сьвеце электрычны бомбаскідальнік. Для самаабароны «Мурамец» меў восем кулямётаў, і была нават спроба ўсталяваць на ім 76-мм палявую гармату. У 1914 годзе Расія стала ПЕРШАЙ у сьвеце краінай, якая стварыла падраздзяленне цяжкіх бамбавікоў – эскадру паветраных караблёў.

Захапіўшы ўладу ў краіне, камуністы рэзка затармазілі тэхнічнае развіццё Расіі, знішчыўшы і выгнаўшы мільёны самых таленавітых, самых працавітых. Сярод выгнаннікаў выявіўся і Ігар Сікорскі.

І ўсё ж тэхнічны патэнцыял Расіі быў велізарным, развіццё працягвалася. Насуперак тэрору, насуперак камуністычнаму прыгнёту, Расія працягвала заставацца лідэрам у галіне цяжкіх бамбавікоў. У 1925 канструктарскім бюро А.М. Тупалева быў створаны ТБ-1, першы ў сьвеце суцэльнаметалічны бамбавік, ён жа – першы ў сьвеце бамбавік-монаплан з вольнанясучым крылом. Увесь астатні сьвет у тыя часы будаваў толькі драўляныя бамбавікі-біпланы. Ужо пад час выпрабаванняў ТБ-1 б'е два сусветныя рэкорды. На працягу кароткага

тэрміна было пабудавана 213 ТБ-1, і гэта таксама асобны рэкорд. Гэта ў некалькі разоў больш, чым цяжкіх бамбавікоў ва ўсіх астатніх краінах сьвету разам узятых. Па меры вырабніцтва самалётаў фармаваліся эскадрыллі, палкі, брыгады.

А Тупалеў у 1930 годзе стварае яшчэ больш магутны цяжкі бамбавік: ТБ-3 – першы ў сьвеце четырохматорны монаплан з вольнанясучым крылом. Сярод самалётаў сьвету, як вайсковых, так і грамадзянскіх, ТБ-3 быў самым вялікім. Такіх самалётаў ніхто ў сьвеце не меў не толькі на стадыі вытворчасьці, але нават у праектах. А Тупалеў ўжо ў 1933 годзе пачынае эксперыменты па дазапраўцы ТБ-3 ў паветры. На ТБ-3 было ўсталявана некалькі сусьветных рэкордаў, уключаючы вышынныя палёты з грузамі 5, 10 і 12 тон. Схема ТБ-3 зрабілася класічнай для гэтага класа самалётаў на шмат дзесяцігоддзяў наперад. Здзіўляе хуткасць выканання заказаў: вырабніцтва даходзіла да трох ТБ-3 у дзень. (Е. Рабчыкаў, А. Магід. Станаўленне. М., «Веды», 1978, с. 132).

Савецкая прамыслаўасць б'е свой уласны рэкорд – за кароткі тэрмін вырабляе 818 ТБ-3. Тут ужо не абмяжуешся палкамі і брыгадамі. 23 сакавіка 1932 г. Савецкі Саюз першым у сьвеце пачынае стварэнне цяжкіх бамбавальных карпусоў. У студзені 1936 ствараецца першая ў свеце авіяцыйная армія, у сакавіку – другая, крыху пазьней – трэццяя. Ніхто ў сьвеце тады не меў ні авіяцыйных армій, ні нават карпусоў стратэгічнай авіяцыі.

Флот роўны тысячы цяжкіх бамбавікоў – гэта мара стратэгаў, і яна ўпершыню была ўвасоблена ў Савецкім Саюзе. Генералы і палітыкі ўсіх краін спрачаліся наконт дактрыны генерала Д. Дуэ. А Сталін не спрачаўся ...

Але гэта не ўсё: планавалася пераўзброіць тры авіяцыйныя арміі больш новымі бамбавікамі і дадаткова стварыць яшчэ тры арміі ў Беларускім, Кіеўскім і Ленінградзкім вайсковых акругах. (В. Шуміхін. Савецкая ваенная авіяцыя, 1917-1941. с. 185).

Пакуль ТБ-3 вучыўся лётаць, пакуль яго толькі «ставілі на крыло», каля дзясятка канструктарскіх бюро ўжо пачалі жорсткае спаборніцтва за больш новы стратэгічны бамбавік, які потым павінен замяніць тысячу тупалеўскіх ТБ-1 і ТБ-3.

Сам Тупалеў прапануе васьміматорны «Максім Горкі». Самалёт з'яўляецца на парадах, палохаючы натоўп сваімі памерамі, і толькі нешматлікія ведаюць яго сапраўдную назву – ТБ-4.

Павел Сухі прапануе аднаматорны звышдалёкі бамбавік ДБ-1 з неверагодна вялікім размахам крылаў. Самалёт (пад іншым імем) здзейсніў некалькі палётаў праз Паўночны полюс у Амерыку. Амерыка з захапленнем сустракала савецкіх герояў-лётчыкаў, не здагадваючыся, што ідуць выпрабаванні эксперыментальнага бамбавіка.

А Сяргей Казлоў прапануе дванаццаціматорны «Гігант», здольны падымаць некалькі дзясяткаў тон бомбаў або перакідваць ў тыл праціўніка дэсантныя падраздзяленні з якім заўгодна цяжкім узбраеннем, уключаючы і танкі.

Здзіўляюць праекты К.А. Калініна.

Віктар Балхавітынаў прапануе цяжкі бамбавік ДБ-А. На знешні выгляд і згодна з характарыстыкамі – гэта навы самалёт, але гэта проста карэнна

перапрацаваны тупалеўскі ТБ-3. Гэта класічны прыклад таго, як з мінімальнымі выдаткамі грунтуючыся на базе старога самалёта стварыць новы. ДБ-А б'е адразу чатыры сусьветныя рэкорды. Гэта – цалкам новы самалёт, але яго ў стане вырабляць тыя ж заводы, якія вырабляюць ТБ-3, без перабудовы вытворчага цыклу, без замены абсталявання, без парушэння звыклых тэхналагічных працэсаў, без перанавучання працаўнікоў і інжынераў, без звычайнага ў такіх выпадках зніжэння колькасьці вырабляемых самалётаў і нават без перанавучання лётчыкаў, тэхнікаў і інжынераў стратэгічнай авіяцыі. Калі час падціскаў, існавала магчымасць пусціць ДБ-А ў серыю, і да пачатку Другой сусьветнай вайны цалкам абнавіць флот стратэгічнай авіяцыі. Але тут з'явілася сапраўднае цуда – ТБ-7 Петлякова.

ТБ-7 зацямніў ўсіх.

Да моманту з'яўлення ТБ-7 вытворчасць цяжкіх бамбавікоў у Савецкім Саюзе была наладжана, як вытворчасць аўтамабіляў у Генры Форда. Замена мадэлі – працэс балючы, але гэта прасьцей, чым ствараць новую справу на пустым месцы. Краіна пад час жахлівых гадоў, калі мільёны паміралі ад голаду, была лідэрам у галіне цяжкіх бамбавікоў, а калі эканамічная сітуацыя рэзка палепшылася, тая ж краіна добраахвотна адмовілася ад першынства. Калі ніхто краіне не пагражаў, яна забірала кавалак хлеба ў паміраючых дзяцей, але цяжкія бамбавікі будавала, але вось з'явіўся побач Гітлер, запахла вайной, а цяжкія бамбавікі больш не вырабляюцца.

І пытанне не ў тым: ці паспелі б вырабіць тысячу ТБ-7 да пачатку вайны ці не. Пытанне ў іншым: чаму не спрабавалі?

Да моманту з'яўлення ТБ-7 у Савецкім Саюзе былі створаны канструктарскія бюро, здольныя ствараць самалёты апераджаючыя свой час, прамысловасць, здольную ажыццяўляць масавы выпуск у колькасьцях, перавышаючых патрэбы мірнага часу, адкрыты акадэміі, лётныя і тэхнічныя школы, распрацавана тэорыя баявога выкарыстання і набыты баявы вопыт у лакальных войнах і на грандыёзных вучэннях, пабудаваны аэрадромы, базы, навучальныя цэнтры, палігоны, створаны фарміраванні, падрыхтаваны кадры ад камандуючага арміяй да бартавога стрэлка, ад інжынера па навігацыйнаму абсталявання да фотадэшыфравалька буйных авіяцыйных штабоў, навучаны лётчыкі, штурманы, бортінжынеры, тэхнікі, матарысты, метэаролагі, радысты, авіяцыйныя медыкі і інш. і інш. Склаліся калектывы і нарадзіліся традыцыі, выхаваны тэарэтыкі і практыкі.

І вось пасьля ўсяго гэтага краіна, якая была адзіным лідэрам у галіне стратэгічнай авіяцыі, далучаецца да Другой сусьветнай вайны без стратэгічнай авіяцыі. Загадам Сталіна ў лістападзе 1940 авіяцыйныя арміі былі расфармаваны. На 22 чэрвеня 1941 савецкая стратэгічная авіяцыя ў сваім складзе больш армій не мела. Засталіся толькі пяць карпусоў і тры асобныя дывізіі. Асноўнае іхнае ўзбраенне – ДБ-3ф. Гэта цудоўны бамбавік, але гэта не стратэгічны бамбавік. Яшчэ заставаліся на ўзбраенні ТБ-3. Іх можна было выкарыстоўваць у якасьці транспартных самалётаў, але як бамбавікі яны састарэлі.

А ТБ-7, як мы ўжо ведаем, было толькі адзінаццаць. Гэтай колькасці было недастаткова нават для таго, каб укамплектаваць адну эскадрыллю.

Без ТБ-7 стратэгічная авіяцыя перастала быць стратэгічнай. Мала таго, вясной 1941 Сталін наладзіў сапраўдны разгром. Да гэтага вышэйшы кіруючы састаў стратэгічнай авіяцыі камплектаваўся толькі із тых, хто паказаў сябе ў баях, хто ў небе Кітая, Гішпаніі, Манголіі даказаў сваё права кіраваць. Усе камандуючыя авіяцыйнымі арміямі – Героі Савецкага Саюза. У тыя часы гэтае званне мела значна большую вагу, чым пасьля вайны. Камандуючы 2-й арміяй С. Г. Дзянісаў меў не адну, а дзьве Залатыя зоркі. У тыя гады такіх людзей можна было пералічыць па пальцах адной рукі. Вясной 1940 года Сталін ўводзіць генеральскія званні, але зоркамі не раскідваецца: начальнік Галоўнага ўпраўлення ВПС – генерал-лейтэнант авіяцыі, начальнік Штаба ВПС – генерал-маёр авіяцыі. Пры такой сваёй скупасьці камандуючых авіяцыйнымі арміямі Сталін не крыўдзіць – ён ім дае званні генерал-лейтэнантаў авіяцыі. Камандуючыя авіяцыйнымі арміямі згодна са сваім вайсковым званнем прыраўноўваліся да самага высокага авіяцыйнага кіраўніцтва і перавышалі некаторых із яго намесьнікаў, уключаючы і начальніка Штаба ВВС. Сталін верыць лідэрам стратэгічнай авіяцыі: камандуючы 3-яй арміяй генерал-лейтэнант авіяцыі ІІ. Праскураў прызначаецца кіраўніком ГРУ перад тым, як прыняць пад кіраванне ўсю стратэгічную авіяцыю.

Але вось Сталін на нешта адважыўся, і пачынаецца разгром. Гэтая тэма заслугоўвае асобнага дасьледавання. А зараз толькі два прыклады для ілюстрацыі: генерал-лейтэнанта авіяцыі С. П Дзянісава Сталін накіраваў у Закаўказзе кіраваць авіяцыяй другараднай акругі. Далей ён будзе служыць на пасадах, не адпавядаючых яго званню: вышэй камандыра дывізіі не паднімецца. Генерал-лейтэнант авіяцыі ІІ Праскураў у красавіку 41-га быў арыштаваны, аддадзены на жахлівае катаванне і ліквідаваны ў кастрычніку. А камандавацьстратэгічнай авіяцыяй быў прызначаны палкоўнік Л. А. Гарбацэвіч. (М. Н. Кажэўнікаў. Кіраўніцтва і штаб ВПС Савецкай Арміі., М., «Навука», 1977, с.26). Палкоўнік нідзе раней не вызначыўся (і не вызначыўся ў будучым), але Сталіну не былі патрэбнымі не толькі ТБ-7, але і камандыры, якія даказалі ўменне выкарыстоўваць цяжкія бамбавікі.

Здаецца, не існуе такой сітуацыі, у якой ТБ-7 мог бы выявіцца непатрэбным.

Калі Сталін мае намер прадухіліць Другую Сусьветную вайну, ТБ-7 патрэбны.

Калі Сталін вырашыў дазволіць Гітлеру развязаць Сусьветную вайну, а сам разлічвае заставацца нейтральным, то тады ТБ-7 вельмі патрэбныя, як гарантыя нейтралітэту.

Калі Сталін плануе абарончую вайну, то патрэбна не ламаць ўмацаваныя раёны на «Лініі Сталіна», а ўзмацняць іх. Патрэбна войску даць загад закапацца ў зямлю, як гэта было пазьней зроблена пад Курскам. Патрэбна было адгарадзіцца неперэадольнымі міннымі палямі ад мора да мора, і, пакуль праціўнік прагрызае нашу абарону, хай ТБ-7 лётаюць на недасягальных вышынях, хай падрываюць нямецкую эканамічную магутнасць.

У абарончай вайне ТБ-7 патрэбны. Рэсурсы Сталіна неабмежаваны, а рэсурсы Гітлера абмежаваны. Таму, калі вайна пачнецца, Сталіну выгадна яе зацягнуць: вайна на знясіленне для Нямеччыны смяротная. А каб рэсурсы знікалі

сакрэтнай. Яе часткова апублікавалі толькі ў 1969 годзе. (КПСЗ пра Узброенае Войска Савецкага Звязу. Дакументы. М., 1969, с. 296-297).

У адпаведнасьці з гэтай пастановай «адказныя працаўнікі апарата ЦК ВКП (б) знаходзяцца на персанальным ўліку Наркамата абароны і Наркамата Ваенна-Марскога Флоту і мабілізуюцца для працы ў РСЧВ[3] і РСЧФ[4] рашэннем ЦК ВКП (б) адпаведна са спісамі Наркамата абароны, Наркамата Ваенна-Марскога Флоту і ўпраўлення кадрамі ЦК ВКП (б)...». Чацьвёрты пункт пастановы даваў даручэнне Наркамату абароны «правесьці пераатэставанне і прысвоіць вайсковыя званні працаўнікам партыйных камітэтаў». Генерал арміі Епішаў паведамляе, што за год перападрыхтоўку прайшло каля 40 тысяч партыйных працаўнікоў. (Партыя і войска. М., ІПЛ, 1980, с. 163).

Рабілася гэта ціха, без агалоскі. Вынік: УВЕСЬ кіруючы склад партыі прайшоў перападрыхтоўку, пераатэстацыю з прысваеннем воінскіх званняў; уся наменклатура была пастаўлена на персанальны вайсковы ўлік. Якога заўгодна партыйнага кіраўніка, пачынаючы ад «адказных працаўнікоў ЦК», у любы момант маглі забраць у Чырвонае Войска, праўда, запытаўшы дазволу ў таварыша Сталіна. Таварыш Сталін не адмаўляў.

Наменклатурных працаўнікоў па аднаму, малымі і сярэднімі згуртаваннямі забіраюць у войска. З боку не відаць: там аднаго забралі, тут аднаго забралі. Потым раптам – пастанова Палітбюро ад 17 чэрвеня 1941 года: «Пра адбор 3700 камуністаў на палітычную працу ў РСЧВ». Ідзе размяшчэнне савецкага войска на межах Няметчыны і Румыніі, дакладна як у жніўні 1939 года на межах Польшчы. У 1939 годзе, праз 19 дзён пасьля пастановы аб прызыве наменклатуры ў РСЧВ, Чырвонае Войска нанесла ўдар.

Сцэнар паўтараецца. Калі ад даты новай пастановы адлічым 19 дзён, то як раз патрапім на 6 ліпеня 1941 года. Гэтую дату я называў раней. У гэты дзень Чырвонае Войска павінна была нанесьці ўдар па Нямеччыне і Румыніі. 19 дзён – не супадзенне. Планы загадзя складзены на ўсе папярэднія і наступныя дні. Адлік часу запушчаны, як перад стартам ракеты. Адпаведна з загадзя распрацаваным графікам праводзяцца сотні розных дзеянняў і аперацый, і для кожнага дзеяння ў графіку дакладна вызначаны час. Адпаведна з іхнымі разлікамі і планамі пад час дня «М-19» (гэта азначае 17 чэрвеня 1941 г.) патрэбна накіраваць наменклатуру ў войска. Гэты механізм адліку дзён адпрацаваны на вучэннях і пры папярэдніх "Вызваленнях». У чэрвені 1941 года ён зноў запушчаны. Дэтанатар міны, закладзеную пад Яўропу, ужо адлічваў дні...

Пастанава, як усе падобныя ёй, была сакрэтнай. Пра яе існаванне стала вядома праз шмат гадоў пасьля заканчэння вайны. Ды і то, назва апублікавана, а тэкст схаваны. Але пра гэты набор вядома некалькі больш, чым пра набор 4-ох тысяч камуністаў у жніўні 1939 года. Напрыклад, вядома, што ў гэтым наборы быў сакратар Днепрапятроўскага абкама па вайсковай прамысловасьці Леанід Брэжнеў.

У войска Брэжнеў папрасіўся раніцай 22 чэрвеня 1941. Яго прашэнне было неадкладна задаволена. Для задавальнення такога прашэння было неабходна, як мінімум, рашэнне ЦК. Сумнеўна, каб ЦК пад час нядзельнай раніцы, 22 чэрвеня,

---

[3] Рабоча Сялянскае Чырвонае Войска. (РККА)

[4] Рабоча Сялянскі Чырвоны Флот. (РККФ)

прымаў рашэнні хутка і аператыўна. Хуткасць, з якой вызначыўся лёс Брэжнева, тлумачыцца толькі тым, што пытанне было вырашана загадзя. 22 чэрвеня Брэжневу толькі загадалі: дзейнічай адпаведна з раней атрыманымі загадамі. Брэжнеў трапляе ў распараджэнне вайсковай рады Паўднёвага фронту.

Рашэнне пра стварэнне Паўднёвага фронту зацверджана Сталіным 21 чэрвеня 1941 года, а ўся папярэдняя праца праводзілася загадзя. Паўднёвы фронт мяне асабліва цікавіў. Ён ствараўся для нанясення ўдару па Румыніі, для захопу нафтавых радовішчаў Плоешці. Кіраваць фронтам Сталін прызначыў таго ж Яна Цюленева, з якім Хрушчоў у верасні 1939 года на новай германскай мяжы дзяліўся думкамі пра будучыню Яўропы. Летам 1941 года Цюленеў ужо меў пяць генеральскіх зорак. У Польшчы падчас «вызваляючага паходу» ён паказаў сябе добра, і вось новае даручэнне – Румынія.

Падрыхтоўка Чырвонага Войска да «вызваляючых паходаў» ў 1939 і 1941 гадах праводзілася адпаведна з адзінай праграмай. Праўда, у 1941 годзе Гітлер нанёс апераджаючы ўдар, і паход не адбыўся. У 1941 годзе, як і ў 1939-м, пры вайсковых радах франтоў із партыйных бюракратаў былі створаны згуртаванні асобнага прызначэння – Аспрыз. Задача – правядзенне саветызацыі. Пасьля германскага нападу некалькі месяцаў згуртаванні асобнага прызначэння заставаліся ў бяздзейнасьці (на сваёй тэрыторыі ў абарончай вайне яны не былі патрэбнымі). Калі стала канчаткова зразумела, што «вызваленчая» вайна сарвана, згуртаванні асобнага прызначэння скасавалі. Партыйным адміністратарам знайшлі іншую працу ў войску.

Згуртаванні саветызацыі мяне цікавілі асабліва, і вось у архіве я знайшоў спіс згуртавання асобнага прызначэння пры вайсковай радзе Паўднёвага фронту. У згуртаванні сярод іншых – Леанід Ільіч Брэжнеў, будучы Генеральны сакратар і Маршал Савецкага Звязу. Да слёз было крыўдна: копію ў архіве зняць нельга, таму што знаходка не адпавядала тэме майго дасьледавання, якое я праводзіў для адводу пільных вачэй. Узнамерыўся вырваць старонку: маё сумленне ў той сітуацыі не пратэставала – усё роўна ў архіўным пылу дакумент праляжыць незапатрабаваным гадоў сто, а потым нікому не будзе патрэбны, а я, магчыма, данясу яго да людзей. Але я не вырваў тую старонку і шмат гадоў шкадаваў, лаяў сябе за баязлівасць і нерашучасць. А калі паведаміць, што Брэжнеў быў у згуртаванні адказных працаўнікоў, якім было наканавана ўсталёўваць шчаслівае жыццё ў Румыніі, але не даць доказаў, дык хто ж паверыць? Сам Брэжнеў на пачатку 70-х як быццам бы мемуараў пісаць не меў намеру, а калі б і меў намер, не даводзілася спадзявацца, што ён згадае пра згуртаванне Аспрыз.

Потым мемуары Брэжнева з'явіліся. Схапіў кнігу з надзеяй: магчыма, пра згуртаванне асобнага прызначэння згадае? Не. Не згадаў.

Прайшло яшчэ 4 гады, і з'явілася маляўнічая кніга «Васямнаццатая ў змаганнях за Радзіму. Баявы шлях 18-й арміі». Кніга падрыхтавана Інстытутам ваеннай гісторыі з відавочным намерам дагадзіць Брэжневу. Кніга была выдадзена пры жыцці Брэжнева. Прайшла кніга і ваенную цэнзуру, і цэнзуру ЦК. І ў кнізе чорным па беламу на старонцы 11: «Да сярэдзіны верасня 1941 года Леанід Ільіч уваходзіў у згуртаванне асаблівага прызначэння пры вайсковай радзе Паўднёвага фронту».

Брэжнеў хутка памёр. Старонку 11 мала хто прачытаў. І сама кніга – далёка не бэстсэлер: і без яе надакучыла біяграфія дарагога Леаніда Ільіча. А, на мой погляд, нават і ў такой шэрай біяграфіі можна адшукаць цікавыя моманты.

У ангельскай мове існуе выказванне: «апрануцца для забойства». Яно ўжываецца ў пераносным сэнсе. Для апісання Камуністычнай партыі Савецкага Звязу пад час перадваеннага года гэты выраз можна выкарыстоўваць у прамым сэнсе.

Камуністычная партыя была пераўтворана із напаловувайсковай у чыста вайсковую арганізацыю. Правадыры партыі верхняга, сярэдняга і нізкага узроўняў, уключаючы і Сталіна, і Хрушчава, і мала каму тады вядомага Брэжнева, усе былі мабілізаваны на «вызваленчую» вайну.

# Глава VIII

## Да самага заканчэння

«Сталін выявіўся рэдкім стратэгам, плануючым гісторыю, фенаменальным тактыкам, арганізуючым перамогі пад чужым сьцягам і чужымі рукамі».
А.Автарханаў. «Паходжанне партакратыі», с.356

Быў толькі адзін чалавек, якога Сталін называў па імені і па бацьку. Імя гэтага чалавека было Барыс Міхайлавіч Шапашнікаў, вайсковае званне – Маршал Савецкага Звязу, пасада – Кіраўнік Генеральнага штаба.

Ўсіх астатніх было прынята называць: таварыш Яжаў, таварыш Берыя, таварыш Маленкоў, таварыш Жданаў.

Выключнасць становішча Шапашнікава падкрэслівалася Сталіным і раней, калі Шапашнікаў яшчэ не меў маршальскага звання, калі ён яшчэ не быў кіраўніком Генеральнага штаба. Маршалаў Сталін называў: таварыш Тухачэўскі, таварыш Блюхер, таварыш Ягораў. А Шапашнікава, які яшчэ на такой вышыні не стаяў, называў па-сяброўску, па-чалавечы.

Адмірал Флота Савецкага Звязу Н.Г. Кузняцоў апісвае гэта так: «Сталін нікога не называў па імені і па бацьку. Нават у прыватных абставінах ён называў сваіх гасьцей па прозвішчу і абавязкова дадаваў слова "таварыш". І да яго таксама звярталіся толькі так: "Таварыш Сталін". Калі ж чалавек, які не ведаў гэтай яго звычкі, спасылаючыся, будзем лічыць, на А.А. Жданава, казаў:

– Вось Андрэй Аляксандравіч мае такое меркаванне... І.В. Сталін, вядома, здагадваючыся, пра каго ідзе гаворка, абавязкова пытаўся:

– А хто такі Андрэй Аляксандравіч? Выключэнне было толькі для Б.М. Шапашнікава. Яго ён заўсёды называў Барыс Міхайлавіч». (Напярэдадні. с. 280).

Кіраўнік Генеральнага штаба Маршал Савецкага Звязу Б.М. ШАПАШНІКАЎ.

Выключнасць становішча Шапашнікава тлумачылася проста. Ён быў аўтарам кнігі «Мозг войска». Гэтая кніга пра тое, як працуе Генеральны штаб. Апошняя, трэццяя частка надрукавана ў 1929 годзе, і пакуль існавала Савецкае Войска, гэтая кніга была падручнікам для кожнага савецкага афіцэра і генерала. На стале Леніна заўсёды ляжала кніга «Псіхалогія натоўпу», а на стале Сталіна

стаяў макет маленькага серабрыстага самалёта з надпісам «Сталінскі маршрут» і ляжала кніга Шапашнікава «Мозг войска».

Поспех кнігі Шапашнікава тлумачыцца выразнасьцю выкладання матэрыялу, крышталёвай зразумеласьцю доказаў, уменнем тлумачыць самыя складаныя праблемы простымі, зразумелымі кожнаму словамі. Самая моцная частка кнігі – трэццяя, завяршаючая. У трэццяй частцы Шапашнікаў разглядае пытанні мабілізацыі.

Няўдзячны занятак – пераказваць чужыя працы, тым больш працы выбітнога ваеннага тэарэтыка. Але мне даводзіцца гэта рабіць, таму што ў тэорыі Шапашнікава – ключ да разумення наступных падзей, уключаючы Другую Сусьветную вайну і ўсе яе наступствы.

Тэорыя была простай, зразумелай, лагічнай і, без сумневаў, – правільнай. Сталін зразумеў яе, ацаніў і палажыў у грунт сваёй стратэгіі. Вось чаму, чытаючы працы Шапашнікава, яго паплечнікаў і апанентаў, разумеючы ход іхнай думкі, мы пачынаем разумець дзеянні Сталіна, якія, на першы погляд, здаюцца незразумелымі і нетлумачальнымі.

Калі ўзяць із тэорыі мабілізацыі самае галоўнае і растлумачыць яе чалавеку з вуліцы, то сутнасць яе вось у чым:

1. Для перамогі ў вайне неабходны намаганні не толькі ўсяго войска, але і ўсёй краіны, усяго насельніцтва, прамысловасьці, транспарту, сельскай гаспадаркі і г.д.

2. Краіна не ў стане знаходзіцца ў пастаяннай і поўнай гатоўнасьці да вайны, як чалавек не ў стане ўвесь час трымаць у кожнай руцэ па пісталету. Калі ён іх пастаянна трымае, гэта азначае, ён не можа рабіць нічога іншага. Так і краіна не можа знаходзіцца ў пастаяннай гатоўнасьці да вайны і ўсе свае намаганні марнаваць на падрыхтоўку да вайны. Пастаянная канцэнтрацыя намаганняў грамадства на падрыхтоўку вайны руйнуе краіну. Таму ў мірны час войска і ваенная прамысловасць павінны з'ядаць мінімум. Аднак патрэбна рыхтаваць краіну, яе народ, апарат кіравання, прамысловасць, транспарт, сельскую гаспадарку, сістэму сувязі, ідэалагічны апарат і г.д. да максімальна хуткага і максімальна поўнага пераходу ад рэжыму мірнага жыцця да рэжыму вайны.

3. Мабілізацыя – гэта перавядзенне ўсёй краіны ад мірнага становішча да ваеннага. Мабілізацыя незварачальная і не пераменяючая накірунак. Вобразна кажучы, мабілізацыя – гэта прыкладна тое ж самае, што рэзка апусьціць руку ўніз, разшпіліць кабуру, выхапіць пісталет і навесьці яго на праціўніка, адначасова ўзводзячы курок.

4 Мабілізацыя і вайна непадзяляемы. Калі вы выхапілі пісталет, навялі на праціўніка і ўзвялі цынгель, то патрэбна страляць. Таму што як толькі вы пачалі мабілізацыю, праціўнік пачынае сваю мабілізацыю. Вы выхапілі пісталет і наводзіце на яго, і ён хапаецца за пісталет і наводзіць на вас, спрабуючы апярэдзіць вас хаця б на долю секунды. Калі вы спазніцеся на тую ж самую долю секунды, ён вас заб'е.

5. З мабілізацыяй нельга гуляцца, калі вы будзеце часта хапацца за пісталет і наводзіць яго на суседзяў, ўзводзячы цынгель, гэта дрэнна скончыцца для вас.

6. Адважыўшыся на мабілізацыю, патрэбна цьвёрда ісьці да канца – пачынаць вайну.

7. Мабілізацыя не можа быць частковай. Мабілізацыя – гэта працэс падобны на цяжарнасць. Жанчына не можа быць трошкі цяжарнай. Пытанне ставіцца: так ці не. Менавіта так ставіцца пытанне і ў дзяржаве: пераводзім увесь дзяржаўны апарат, прамысловасць, транспарт, войска, насельніцтва і ўсе рэсурсы дзяржавы на патрэбы вайны ці не пераводзім.

Гэтыя думкі ў розна́й пасьлядоўнасьці выказаны рознымі аўтарамі. Б.М. Шапашнікаў адрозніваецца ад усіх папярэднікаў толькі тым, што выказваўся вельмі выразна, коратка, катэгарычна: «Мабілізацыя з'яўляецца не толькі прыкметай вайны, але і самой вайной. Загад урада пра абвяшчэнне мабілізацыі фактычна з’яўляецца абвяшчэннем вайны». «У сучасных умовах дзяржава абвяшчаючая мабілізацыю павінна загадзя прыняць цьвёрдае рашэнне пра вядзенне вайны». «Пад агульнай мабілізацыяй разумеецца такі факт, калі ўжо немагчыма вяртанне да мірнага становішча». «Мы лічым маючым сэнс відам мабілізацыі толькі агульную, як напружанне ўсіх магутнасьцей і сродкаў, неабходных для дасягнення перамогі».

Кніга завяршаецца рашучай заявай: «Мабілізацыя ёсць вайна, і іншага разумення яе мы не маем».

Сталін не проста падзяляў погляды Шапашнікава, Сталін меў тыя ж самыя погляды. Сталін не рабіў адрознення паміж працэсам захопу ўлады ў сваёй краіне і ў краіне суседняй. Ён ведаў, як патрэбна здабываць уладу ў сваёй краіне і рыхтаваўся захапіць яе і ў суседніх краінах. Сталін не трымаў свайго майстэрства ў таямніцы. Наадварот, сваё майстэрства ён рабіў здабыткам мас.

У кнізе «Пра аснавы ленінізму» Сталін даказвае, што ў справе захопу ўлады гульні недапушчальны. Або бярэм уладу, або не. Узяўшыся за справу, патрэбна ісьці да канца. Гэта адпавядае ідэям Нікола Макіявелі: ці наносім сьмяротны ўдар ці не наносім ніякага, г. азн. ідзём да канца, ніякіх прамежкавых рашэнняў у палітыцы і стратэгіі быць не можа.

Гэта сугучна ідэям Шапашнікава: ці не праводзім мабілізацыю наогул, ці праводзім поўную мабілізацыю і пачынаем вайну – ніякіх частковых, прамежкавых становішчаў быць не можа.

Чалавек на Дзікім Захадзе, не чытаўшы Макіявелі, таксама ведаў, што дзеля жарту нельга хапацца за пісталет: ці ён у кабуры, ці яго патрэбна выхапіць і біць да сьмерці. Вось чаму Сталін не проста кажа, што, вырашыўшыся на вялікую справу, патрэбна ісьці да канца, але ў тэксце яшчэ і падкрэслівае гэтыя словы.

Не толькі на славах, але і ў кожнай справе Сталін ішоў да канца. Доўгі час Сталін як бы абыякава глядзеў на росквіт расійскай вёскі, якая багацела і выходзіла із-пад кантролю. Заможны – азначае, незалежны. Сталіну як быццам бы і справы да гэтага не было. А потым ён адважыўся на вялікую справу: паставіць вёску на калені, нават калі пры гэтым давядзецца пераламаць хрыбет. Ён паставіў. Ён хрыбет пераламаў. І той год афіцыйна назваў годам вялікага пералому.

Доўгі час Сталін як бы не цікавіўся справамі войска. А потым вырашыў войска падпарадкаваць. І ішоў у гэтай справе да канца. Далей нават і няма куды.

Калі Сталін прыняў рашэнне знішчыць апазіцыю, то давёў справу да канца, завяршыўшы вынішчэнне палітычных ворагаў пераможным ударам ледасека па чэрапу Троцкага. Пасьля Вялікай чысткі галоўная цікавасць Сталіна – па-за мяжой. У жніўні 1939 г. Сталін на нешта адважыўся.

# Глава IX

## Самы выгадны варыянт

«Патрэбна, каб эфект нечаканасьці быў настолькі
ашаламляючым, каб праціўнік быў пазбаўлены
матэрыяльнай магчымасьці арганізаваць сваю абарону.
Іншымі словамі, ўступленне ў вайну павінна набыць
характар аглушальнага пераважаючага ўдару».
Камбрыг Т.С.Ісерсон. 1940 г.

У мірны час колькасць войска кожнай дзяржавы не можа перавышаць аднаго адсотка ад агульнай колькасьці насельніцтва. Калі мы наблізімся да гэтага фатальнага рубяжа або пераскочым яго, то эканоміка пачне прабуксоўваць, тэмпы развіцця знізяцца, дзяржава будзе бяднець, слабець і, у канчатковым выніку, яе адціснуць ад вядучай ролі ў сусветных справах.

Перад пачаткам Першай сусьветнай вайны колькасць насельніцтва Расійскай імперыі складала 180 мільёнаў чалавек. Колькасць войска мірнага часу 1.423.000 чалавекі. Самае вялікае ў сьвеце войска мірнага часу. Патрэбна аддаць належнае ўраду – ён разумеў небяспеку далейшага павелічэння войска.

Войска не проста забірае із эканомікі паўтары мільёна здаровых і моцных працаўнікоў, але, акрамя таго, і гэта галоўнае, ператварае іх із працаўнікоў у спажыўцоў. Жаўнера патрэбна карміць і апранаць, жаўнеру патрэбна плаціць грошы, яго патрэбна лячыць і забаўляць, для яго патрэбна будаваць казармы, а галоўнае – патрэбна узбройваць. За кожнай тысячай жаўнераў – шмат тысяч стваральнікаў зброі, навукоўцаў, канструктароў, тэхнолагаў, металургаў і металістаў, гарнякоў, працаўнікоў транспарту і сувязі, аратых і жывёлаводаў. На мільённае войска працуюць шматлікія мільёны людзей па-за войскам. Усе яны адрываюцца ад працэсу стварэння і працуюць на разбурэнне. Але ўсіх іх таксама патрэбна карміць і апранаць, іх патрэбна забяспечыць транспартам і жыллём, ім патрэбна плаціць заробкі і пенсію.

Такім чынам, маючы ў войску мільён жаўнераў, мы садзім на шыю грамадства шмат мільёнаў едакоў, працуючых на патрэбы вайны.

Самы выгадны варыянт ўступлення ў вайну – нанясенне раптоўнага забіваючага ўдару. Але для ўдару па моцнаму суперніку магутнасьці войска мірнага часу недастаткова, хай нават яго колькасць і складае амаль паўтара мільёны жаўнераў і афіцэраў. Удар можа атрымацца раптоўным, але не забіваючым. Калі перад вайной мы правядзём мабілізацыю і павялічым колькасць войска, то напалохаем суперніка. Ўдар атрымаецца магутным, але момант раптоўнасьці будзе страчаны. А калі ў мірны час мы будзем пастаянна ўтрымліваць войска роўнае чатыром-пяці мільёнам, то зруйнуем дзяржаву і «самі сябе пераможам».

Перад пачаткам Першай сусьветнай вайны генералы кожнага войска ламалі галаву над тым, як жа пагадніць усё гэта: і мець вялікае войска, і не знясіліць дзяржаву, і праціўніка не напалохаць.

У канчатковым выніку ніхто не здолеў пагадніць усё разам. Ўступленне ў вайну асноўных еўрапейскіх дзяржаў праходзіла прыкладна па аднолькавай схеме:

1. Урад абвяшчаў мабілізацыю і стан вайны.

2. Войска мірнага часу размяшчалася на мяжы і сваёй прысутнасьцю прыкрывала мабілізацыю. (Часам прыкрыванне мабілізацыі ажыцця́ўлялася наступленнем з абмежаванымі мэтамі або кавалерыйскімі рэйдамі па блізкім тылах праціўніка).

3. Пасьля абвяшчэння ўсеагульнай мабілізацыі войска набракае, колькасць ваяроў павялічваецца ў некалькі разоў, і праз два-тры тыдні асноўная частка адмабілізаванага войска пачынае першыя памежныя бітвы.

Менавіта так пачало Першую сусьветную вайну і Рускае войска. Праз тры тыдні пасьля абвяшчэння ўсеагульнай мабілізацыі яго колькасць дасягнула 5338000 жаўнераў і афіцэраў. Але момант раптоўнасьці быў страчаны. У ходзе вайны прызываліся ўсё новыя мільёны пад сьцягі, і колькасць войска паступова павялічвалася.

У Нямеччыне, Аўстра-Венгрыі, Брытаніі, Францыі працэс мабілізацыі адрозніваўся ў дэталях, але ў прынцыпе ні адна краіна не здолела нанесьці раптоўны руйнуючы ўдар па свайму суперніку: мабілізацыя паглынула каштоўныя тыдні пачатковага перыяду вайны, а разам з імі раптоўнасць.

Зараз уявім сябе ў гулкіх калідорах штаба РСЧВ недзе ў 1925 годзе. Перад стратэгамі стаіць задача падрыхтоўкі новай сусьветнай вайны з мэтай, як выказваўся таварыш Фрунзе, «завяршэння задач сусветнай рэвалюцыі». Задача стратэгам пастаўлена няпростая: ўлічыць памылкі войска усіх краін пад час пачатковага перыяду Першай сусьветнай вайны і падрыхтаваць новую вайну так, каб дзяржаву не агаліць, суперніка не напалохаць і каб войска разгарнуць такое, удар якога будзе і раптоўным, і знішчаючым.

І быў распрацаваны прынцыпава новы план пачатку вайны. Вось каротка яго змест.

1. Працэс мабілізацыі падзяліць на два этапы: таемны і адкрыты.

2. Першы таемны этап – да пачатку вайны. На гэтым этапе на рэжым ваеннага часу перавесьці дзяржаўны апарат, карныя установы, прамысловасць, сістэмы урадавай, дзяржаўнай і вайсковай сувязі, транспарт, войска павялічыць да 5 мільёнаў жаўнераў.

3. З мэтай маскіроўкі першага таемнага этапу мабілізацыю расцягнуць ў часе на два гады, акрамя таго, таемную мабілізацыю маскіраваць лакальнымі канфліктамі: паказаць справу так, што лакальныя канфлікты – асноўная і адзіная нагода перавядзення краіны на рэжым ваеннага часу.

4. Этап таемнай мабілізацыі завяршыць раптоўным руйнуючым ударам па праціўніку і адначасова пачаць другі адкрыты этап мабілізацыі, падчас якога на працягу некалькіх дзён забраць у Чырвонае Войска яшчэ 6 мільёнаў для папаўнення страт і дакамплектавання новых дывізій, карпусоў і армій, якія

ўводзіць у вайну па меры гатоўнасьці. Потым, на працягу вайны, забіраць у войска ўсё новыя мільёны.

5. Прыкрыццё мабілізацыі Другога, Трэццяга і наступных стратэгічных эшалонаў ажыццяўляць не пасіўным стаяннем на мяжы, а руйнуючымі ўдарамі Першага стратэгічнага эшалона і рашучым уварваннем на тэрыторыю праціўніка.

У гэтай схеме усё зразумела і проста.

За выключэннем аднаго. Як пачынаць таемную мабілізацыю за два гады да пачатку вайны, калі момант пачатку будучай вайны нам не вядомы?

Савецкія стратэгі і на гэтае пытанне знайшлі адказ: патрэбна не ісьці за падзеямі, не чакаць, калі вайна ўзнікне стыхійна, сама сабой, пад час невядомага для нас моманту, а планаваць яе, ПРЫЗНАЧЫЦЬ момант яе пачатку.

Калі мы ведаем час пачатку вайны, а праціўнік не ведае, то мы можам праводзіць мабілізацыю не пад час пачатковага перыяду вайны, а загадзя. Таемна. Максімальна магчымую колькасць мабілізацыйных мерапрыемстваў мы маем магчымасць правесьці пад час перадваеннага перыяду так, каб пасьля пачатку баявых дзеянняў мабілізацыя не пачыналася, а завяршалася.

Галоўная кузня кіруючых кадраў Чырвонага Войска – Ваенная акадэмія імя М.В. Фрунзэ. Цікава нагадаць погляды таго, чыё імя яна носіць: «Я лічу, што напад заўсёды дзейнічае на псіхалогію суперніка тым, што ўжо адным гэтым выяўляецца воля больш магутная». «Бок, трымаючы ініцыятыву, бок, маючы ў сваім распараджэнні момант раптоўнасьці, часта знішчае волю суперніка і гэтым самым стварае больш спрыяльныя для сябе ўмовы». «Сам напад ўзмацняе атакуючы бок і дае яму больш шанцаў на поспех". (М.В. Фрунзэ. Абраныя творы. т. 2, с. 47-49). Гэта цытаты на выбар, на ўскідку, толькі на трох старонках шматпудовага твору. Кожны пры жаданні можа набраць некалькі кошыкаў падобных заяваў не толькі ў Фрунзэ, але і ў Леніна, Троцкага, Сталіна, Зіноўева, Каменева, Бухарына, Варашылава, Шапашнікава. І калі ў гэтых творах і гаварылася пра абарону, то толькі пра адмысловую абарону – раптоўным ударам знішчыць суперніка на яго ўласнай тэрыторыі і гэтым абараніць сябе і справу сусьветнай рэвалюцыі.

# Глава X

## Дзе будаваць парахавыя заводы?

Агульныя страты боепрыпасаў на канец 1941 года складалі каля 25 000 вагонаў.

Развіццё тылу Савецкага Ўзброенага Войска, с. 119

Сталінскі Наркамат боепрыпасаў пачаў працаваць адразу і на поўную моц. Вось лічбы. На працягу 1939 года было выраблена 936000000 вінтовачных патронаў, 2240000 мінамётных стрэлаў, снарадаў малога калібру – 5.208.000, вялікага калібру – 6.034.000 Не будзем спяшацца з высновамі і сцвярджаць, што гэта мала: 1939 год – гэта год станаўлення. Усе гэтыя снарады і патроны зроблены на старых заводах, існаваўшых раней. Ідэя Наркамата боепрыпасаў ў тым і заключалася, каб на працягу кароткага тэрміну акрамя ўжо існуючых магутнасьцей стварыць новыя, якія не проста дапоўняць існуючыя, але

шматкроць іх перавысяць. І паўстала пытанне: дзе новыя патронныя, парахавыя, снарадавыя, гільзавыя заводы размяшчаць.

Пытанне пра размяшчэнне вытворчасьці боепрыпасаў – гэта пытанне пра характар будучай вайны.

Калі Сталін мае намер весьці сьвятую абарончую вайну, калі ён мае намер аберагаць свае рубяжы, то ў гэтым выпадку новыя заводы боепрыпасаў патрэбна размяшчаць за Волгай. Там яны будуць у поўнай бяспецы – танкі праціўніка туды не дойдуць, і самалёты не даляцяць.

Калі Сталін не ўпэўнены у сваёй моцы, калі Сталін, як нас запэўніваюць, баяўся Гітлера, калі існавалі асьцярогі, што Чырвонае Войска не здолее абараніць мяжу і будзе адыходзіць, то ў гэтым выпадку новыя заводы Наркамата боепрыпасаў патрэбна будаваць не за Волгай, а яшчэ далей – на Ўрале: там ёсць сыравіна, там дастатковая індустрыяльная і энергетычная база, там заводы будуць у абсалютнай бяспецы. Хай праціўнік захопіць велізарныя тэрыторыі, але наша індустрыяльная база застанецца цэлай – вось тады Гітлер даведаецца, што такое паранены мядзведзь.

Але ні першы, ні другі варыянты нават тэарэтычна не абмяркоўваліся. Не было патрэбы. Чырвонае Войска не збіралася адыходзіць, як не збіралася і абараняць рубяжы сваёй краіны.

Калі б інтарэсы Сталіна зводзіліся толькі да абароны сваёй тэрыторыі, то ён мог бы проста не пачынаць Другую сусьветную вайну.

Адпаведна са сталінскім планам Чырвонае Войска павінна была пайсьці ў абліваючуюся крывёю, аслабленую вайной Яўропу. Чырвонае Войска пойдзе наперад праз мяжу, а заводы боепрыпасаў, а таксама і ўсе іншыя заводы: танкавыя, артылерыйскія, зброевыя будуць заставацца ўсё далей і далей у тыле. Уявім сабе, што Чырвонаму Войску патрэбна даставіць невялікую колькасць боепрыпасаў, напрыклад, сто тысяч тон або, скажам, дзвесьце тысяч тон. Як перакінуць іх ад Урала да заходняй мяжы? Стандартны вайсковы эшалон бярэ 900 тон. Прыкінем, колькі патрэбна эшалонаў, колькі вагонаў, колькі паравозаў. Прыкінем, колькі рабочых дзён спатрэбіцца выдаткаваць машыністам і ўсяму чыгуначнаму люду, колькі вугалю спаліць. Прыкінем, колькі патрэбна аховы на шмат дзён.

Акрамя ўсяго, не адны ж снарады па чыгунках дастаўляюцца. Чыгунка будзе перапоўнена войскам, рамонтнымі і санітарнымі цягнікамі, цыстэрнамі і г.д. і г.д. Адным словам, калі мы рыхтуем наступленне, то перамяшчэнне соцень тысяч тон боепрыпасаў і ўсяго астатняга патрэбна рабіць таемна, а таемнасць, акрамя іншых захадаў, дасягаецца шляхам скарачэння перавозак. Ідэальнай з'яўляецца сітуацыя, калі заводы знаходзяцца каля мяжы. У гэтым выпадку эшалон патрэбна будзе гнаць не шмат дзён праз усю краіну, а некалькі гадзін. У гэтым выпадку патрэба ў транспарце зніжаецца: адзін эшалон абарачаецца некалькі разоў. Гэта вызваляе ўнутраныя чыгункі для іншых вайсковых перавозак.

І было вырашана будаваць новыя снарадныя заводы не за Волгай, і не на Урале, а бліжэй да мяжы. Настолькі блізка, наколькі дазваляе металургічная база. І размясьцілі: у Запарожжы, Днепрапятроўску, Днепрадзяржынску, Харкаве, Крывым Розе, Ленінградзе.

Заводы боепрыпасаў давалі ўсё больш прадукцыі, пражорлівы Наркамат боепрыпасаў паглынаў дзяржаўныя запасы каляровых металаў: свінцу, медзі, нікелю, хрому, волава, ртуці. Чым больш каляровых металаў ішло на боепрыпасы, тым менш іх заставалася для ўсіх астатніх галін прамысловасьці. І ўзнікала пытанне: як доўга гэта можа працягвацца?

Яшчэ пытанне: што з боепрыпасамі рабіць? У школе кожны із нас рашаў задачы тыпу: «у некаторы рэзервуар праз адну трубу наліваецца вадкасць, адначасова праз другую трубу яна выліваецца». Такія задачы сустракаюцца і ў падручніках матэматыкі мінулых стагоддзяў. Яны ёсць нават у знакамітым падручніку Магніцкага, з дапамогай якога вучылі дзяцей у часы Кацярыны і раней. Як Сталін, так і вайсковыя лідэры, палітыкі, эканамісты таксама ў свой час былі школьнікамі і рашалі задачы тыпу: «праз адну трубу наліваецца, праз другую выліваецца».

У 1939 годзе паўстала як раз падобная задача: Чырвонае Войска спажывае некаторую колькасць боепрыпасаў на баявую падрыхтоўку, на «вызваленчыя» паходы; акрамя таго, боепрыпасы выдаткуюцца на аказанне «інтэрнацыянальнай дапамогі» Гішпаніі, Манголіі, Кітаю. Калі вытворчасць боепрыпасаў будзе раўняцца выдаткаванню боепрыпасаў, то праблемы няма, але калі вытворчасць будзе большай чым выдаткаванне, то хутка ўсе ёмістасьці перапоўняцца. Ёмістасць артылерыйскіх складоў вядомая, выдаткаванне вядома. Простым арыфметычным дзеяннем лёгка падлічыць, калі наступіць перапаўненне. Што ж рабіць далей? Ствараць новыя ёмістасьці для захоўвання? Гэта не так ужо і проста.

Уявіце сабе, што вам паставілі задачу пабудаваць ёмістасьці для захоўвання, напрыклад, аднаго мільёна тон снарадаў. Калі на складах і сховішчах вільготнасць хоць трохі вышэй патрэбнай, пачнецца карозія, а порах адсырэе. Што з вамі ў гэтым выпадку зробяць таварыш Сталін і яго верны вучань таварыш Берыя? А калі тэмпература крыху вышэй, паветра хоць трохі сушэй, іскрынка ад жаўнерскай падкоўкі і... Блізка адзін да аднаго склады размяшчаць немагчыма, паблізу гарадоў і заводаў немагчыма, патрэбна удалечыні, а там ніякіх дарог няма. Адным славам, сховішчы – гэта не вырашэнне праблемы. І колькі іх ні будуй, яны перапоўняцца, калі ўліваецца больш, чым выліваецца. А ўліваецца ўсё больш і больш: акрамя прадпрыемстваў Наркамата боепрыпасаў да вытворчасьці элементаў для страляння былі далучаны 235 заводаў іншых наркаматаў. (Гісторыя Другой Сусьветнай вайны, М., т.2, с.190). Акрамя ўсяго гэтага і незалежна ад Наркамата боепрыпасаў (ён быў і так вялізным) у студзені 1941 было створана Галоўнае кіраўніцства будавання парахавых, патроных, гільзавых і снарадных заводаў – Глаўбоепрыпасбуд. Гэтая пачвара аб'ядноўвала пад сваім кантролем 23 буйнейшыя трэсты. Пазначым: гэта было арыентавана не на будаўніцтва сховішчаў, а на будаўніцтва новых прадпрыемстваў.

Глаўбоепрыпасбуд ударнымі тэмпамі будаваў усё новыя магутнасьці і перадаваў іх Наркамату боепрыпасаў. І патрэбна было думаць пра выдаткаванне прадукцыі.

У красавіку 1941 года із Галоўнага артылерыйскага кіраўніцтва Чырвонага Войска паступіла распараджэнне: прадукцыю Наркамата боепрыпасаў вывозіць да заходняй дзяржаўнай мяжы і складаваць на грунт.

Запытайце ў франтавікоў, што гэта азначае.

Крамлёўска-лубянскія гісторыкі вымушаны прызнаць, што Сталін рыхтаваў агрэсію, Сталін рыхтаваў заняволенне Яўропы. Але, кажуць яны, Сталін быў у стане здзейсніць агрэсію толькі ў 1942 годзе. Давайце запытаем у гэтых гісторыкаў, ці можна пакінуць пад адкрытым небам на восеньскія дажджы, на снежную зіму і на вясновы бруд некаторую колькасць боепрыпасаў, скажам, пяцьсот тысяч тон? Гэтага рабіць немагчыма. Нам гэта зразумела. Дык няўжо Сталін быў дурнейшым за нас?

Складаванне боепрыпасаў на грунт у 1941 годзе азначала рашэнне пачаць вайну ў 1941 годзе. І ніякага іншага тлумачэння гэтаму факту прыдумаць немагчыма.

А яшчэ снарады знаходзіліся каля мяжы ў чыгуначных эшалонах. Вельмі дарагі спосаб захоўвання і вельмі ненадзейны: як у таварным вагоне падтрымліваць тэмпературу і вільготнасць? Калі савецкія генералы намышлялі абараняць мяжу, то патрэбна было разгрузіць вагоны і размяркаваць запасы па войску. Калі планавалі адыходзіць, тады патрэбна было прычапіць паравозы і адцягнуць эшалоны з боепрыпасамі далей ад мяжы. А на мяжы пакінуць самы мінімум. Але калі камуністы планавалі ісьці наперад, то тады так і патрэбна было дзейнічаць: снарады патрэбна было трымаць у вагонах, і мець каля мяжы 170 тысяч жаўнераў-чыгуначнікаў і адпаведную тэхніку для перашыўкі заходнееўрапейскай каляіны на шырокі савецкі стандарт. Усё гэта на мяжы было: і жаўнеры-чыгуначнікі, і адпаведная тэхніка для перашыўкі. Падчас вайны Чырвонае Войска мела самую магутную артылерыю ў сьвеце. Артылерыя выкарыстоўвалася правільна, гэта азначае таемна канцэнтравалася масамі на вузкіх участках прарыву і раптоўна праводзіла агнявую падрыхтоўку. У Сталінградзкай аперацыі Данскі фронт пад кіраваннем генерал-лейтэнанта К.К. Ракасоўскага прарываў абарону на вузкім участку – усяго 12 кіламетраў. Тут акрамя танкаў абарону рвалі 24 стралковыя палкі, іх падтрымлівалі 36 артылерыйскіх палкоў. Ракасоўскі засяродзіў па 135 гармат на кожным кіламетры, а на накірунку галоўнага ўдару шчыльнасць складала 167 гармат на кіламетр.

На працягу вайны канцэнтрацыя артылерыі, танкаў, пяхоты, авіяцыі пастаянна павялічвалася. Пад канец вайны пры разліках магутнасьці артылерыйскага ўдару ў савецкіх штабах ў якасьці адзінкі вымярэння пачалі карыстацца кілатонамі. Савецкая артылерыя загаварыла мовай ядзернага стагоддзя.

Пры Вісла-Одэрскай аперацыі савецкае камандаванне выкарыстала 34500 гармат і мінамётаў. Іх не размяркоўвалі раўнамерна па ўсяму фронту, а канцэнтравалі на участках прарыву. У паласе 3-яй гвардэйскай арміі, напрыклад, была дасягнута шчыльнасць – 420 гармат на кіламетр. Працягласць артпадрыхтоўкі пастаянна скарачалася, але магутнасць павялічвалася. У той жа аперацыі; у паласе 5-й ударнай арміі, працягласць артпадрыхтоўкі планавалася роўнай 55 хвілін. Яна пачалася добра, але праз 25 хвілін была спынена. За 25

хвілін было выдаткавана 23 тысячы тон боепрыпасаў. На кожны кіламетр фронту прарыву было выдаткавана па 15.200 снарадаў сярэдняга і буйнога калібраў. У прарыў пайшлі штрафныя батальёны, не сустракаючы ніякага супраціўлення. Іхныя дзеянні пераканалі кіраўніцтва: працягваць артпадрыхтоўку няма сэнсу – ніхто больш не супраціўляецца. Эканомія: 30 хвілін часу (што вельмі важна на вайне) і 30 тысяч тон снарадаў.

Яшчэ больш артылерыі было выкарыстана ў Берлінскай аперацыі – больш за 42 тысяч гармат і мінамётаў. На участках прарыву маршалы Р.К. Жукаў і І.С. Конеў засяродзілі не толькі ўражваючую колькасць артылерыі, але і ўражваючую колькасць боепрыпасаў. Конеў прарываў фронт на ўчастку 36 кіламетраў, дзе засяродзіў 8626 гармат і мінамётаў. Жукоў засяродзіў менш гармат – 7318, але прарываў фронт на ўчастку роўным 30 кіламетрам, таму артылерыйская шчыльнасць ў яго была большай. На гэтых жа адрэзках былі сканцэнтраваны асноўная частка танкавага і паветранага войска і адпаведная колькасць пяхоты.

Рэкорд быў усталяваны ў паласе 381-й стралковай дывізіі 2-й ударнай арміі ў ходзе Усходне-Прускай аперацыі: 468 гармат і мінамётаў на адзін кіламетр фронту, не лічачы «Кацюш», – рэактыўных установак залпавага агню.

У ходзе вайны Чырвонае Войска выдаткавала 427000000 снарадаў і артылерыйскіх мін і 17 мільярдаў патронаў. Аматары матэматыкі, падзяліце гэта на колькасць германскіх жаўнераў і вылічыце, колькі прыпадала на аднаго. Да гэтага патрэбна дадаць ручныя гранаты, сапёрныя міны, авіяцыйныя бомбы. Хто б мог выстаяць перад гэтай магутнасьцю?

І вось тут патрэбна нагадаць, што за час вайны Савецкі Звяз выкарыстоўваў толькі 15 адсоткаў даваенных магутнасьцей Наркамата боепрыпасаў. Усё астатняе было страчана на працягу пачатковага перыяду вайны. Раптоўным ударам Гітлер знішчыў не толькі кадравыя дывізіі Чырвонага Войска і авіяцыю, не толькі захапіў стратэгічныя запасы, але захапіў і тэрыторыі, на якіх знаходзіліся навейшыя заводы Наркамата боепрыпасаў. Пры адыходзе Чырвонае Войска знішчала свае ўласныя заводы або проста іх кідала. Сёе-тое было вывезена, але паспрабуйце перавезьці на тысячу кіламетраў хоць б адну доменную печ. Паспрабуйце із памежнага лесу перацягнуць да чыгуначнай станцыі хаця б адну тысячу тон снарадаў, пагрузіць іх у вагоны і вывезьці пад агнём.

Чырвонае Войска страціла пад час пачатковага перыяду вайны не толькі 500 тысяч тон снарадаў, але і прамысловасць, якая магла вырабляць новыя снарады.

У прыгранічных раёнах Чырвонае Войска страціла 25000 вагонаў артылерыйскіх снарадаў. Чаму снарады захоўвалі ў вагонах? Куды іх збіраліся везьці? Калі рыхтавалася абарона, патрэбна было снарады раздаць вайсковым часткам. Калі рыхтавалася адступленне, то не было патрэбы снарады трымаць у памежных раёнах.

Ад жніўня па лістапада 1941 г. германскае войска захапіла 303 савецкіх парахавых, патронавых, снарадавых заводаў, меўшых гадавую вытворчасць – 101000000 снарадных карпусоў, 32 мільёны карпусоў артылерыйскіх мін, 24 мільёны карпусоў авіябомбаў, 61 мільёны снарадных гільзаў, 30 мільёнаў

ручных гранат, 93 600 тон пораху, 3600 тон трацілу. Гэта складала 85 адсоткаў усіх магутнасьцей Наркамата боепрыпасаў. (Н.А. Вазнясенскі. Вайсковая эканоміка ЗССР за перыяд Айчыннай вайны. М., 1947, с. 42). У дадатак да ўсяго, на снарадных заводах былі сканцэнтраваны мабілізацыйныя запасы самай каштоўнай сыравіны: паркалю, латуні, легіраванай сталі. Усё гэта дасталася Няметчыне і было выкарыстана супраць Чырвонага Войска.

Але перадваенны патэнцыял Сталіна быў такім вялізным, што ён здолеў наладзіць на працягу вайны новую вытворчасць боепрыпасаў за Волгай, на Ўрале, у Сібіры і вырабіць усё тое, што потым абрынулася на германскае войска.

Гітлер нанёс Сталіну раптоўны ўдар, і Сталін адбіваўся, выкарыстоўваючы 15-ць адсоткаў магутнасьцей Наркамата боепрыпасаў. Вынікі вайны вядомы ўсім. Паспрабуем уявіць сабе, што магло б здарыцца, калі б Гітлер прамарудзіў з ударам і сам патрапіў пад руйнуючы сталінскі ўдар. У гэтым выпадку Сталін выкарыстоўваў бы ў вайне не 15 адсоткаў магутнасьцей Наркамата боепрыпасаў, а ўсе 100. Якім бы тады было заканчэнне Другой Сусьветнай вайны?

У 1942 годзе Чырвонае Войска таемна падрыхтавала і правяло контрнаступленне пад Сталінградам. Лічыцца, што менавіта пачынаючы з гэтага часу Савецкі Звяз стаў звышдзяржавай. Але сцвярджаць такое можа толькі той, хто не ведае пра сапраўдны размах сталінскай падрыхтоўкі да вайны. Так, Сталінград – знакамітая аперацыя, у ёй бралі ўдзел шмат пяхоты, авіяцыі, артылерыі і танкаў. Яе праводзілі сапраўдныя майстры стратэгіі. Але Сталінград блякне ў параўнанні з тым, што рыхтавалася ў 1941 годзе.

Сталінград – гэта ў асноўным рэзервісты. Гэта імправізацыя. А ў 1941 годзе да наступлення рыхтавалася кадравае Чырвонае Войска ды яшчэ і мільёны рэзервістаў.

Сталінград – гэта раптоўны ўдар двух флангавых згуртаванняў. А ў 1941 рыхтавалася тое ж самае, але флангавыя згуртаванні былі непараўнальна больш магутнымі і пагражаюча блізкімі да Берліна. Сталінград – гэта Жукаў, Ракасоўскі, Васілеўскі, Маліноўскі, Ватуцін. У 1941 годзе гэтыя ж генералы рыхтавалі тое ж самае, што яны потым здзейснілі пад Сталінградам.

На мой погляд, Савецкі Звяз ужо быў звышдзяржавай у 1941 годзе. Летам 1941 года Гітлер гэтую звышдзяржаву раптоўным ударам паламаў. Усё, што потым Сталін выкарыстаў у вайне пад Сталінградам і Курскам, пад Масквой і Берлінам, – гэта толькі аскепкі і рэшткі першапачатковай савецкай магутнасьці.

# Глава XI

## Крылаты Чынгісхан.

«Логіка падказвала, што нам не варта чакаць, калі праціўнік выкарыстае ўсю сваю авіяцыю, а патрэбна самім перахапіць ініцыятыву ў паветры і першымі нанесьці масіраваныя ўдары па яго аэрадромах».

Галоўны Маршал авіяцыі А. Новікаў, ВГЖ, 1969 №1, с.62

Назва самалёта «Янаў» мела і яшчэ адно значэнне «Сталін сфармуляваў задачу так: самалёт павінен быць вельмі простым ў вырабніцстве, каб можна

было вырабіць столькі яго асобнікаў, колькі ў нас у краіне людзей з прозвішчам Янаў». (Л.М. Кузьміна. Генеральны канструктар Павел Сухі. М., «Маладая гвардыя», 1983, с. 57).

Трыццатыя гады – залатая эпоха савецкіх авіяцыйных рэкордаў. Нагадаем, колькі намаганняў і сродкаў было выдаткавана на іх ўсталяванне. Лётчыкі, пабіўшыя сусьветныя рэкорды, былі нацыянальнымі героямі. Сталін ведаў толк у вышыні, у хуткасьці, у далёкасьці, у карыснай (бомбавай) нагрузцы. У самы разгар рэкордна-авіяцыйнага псіхозу Сталін ставіць задачу стварыць «Янаў» – асноўны самалёт для будучай вайны. Але дзіўная справа: ад стваральнікаў самалёта «Янаў» Сталін не патрабуе ні рэкорднай хуткасьці, ні рэкорднай вышыні, ні рэкорднай далечыні палёту і нават небывалай бомбавай нагрузкі не патрабуе. Выдатныя характарыстыкі не задаюцца, Сталін патрабуе толькі прастаты і надзейнасьці. Сталінская задума: стварыць самалёт, які можна выпускаць у колькасьцях, перавышаючых ўсе баявыя самалёты ўсіх тыпаў ва ўсіх краінах сьвету разам узятых. Асноўная серыя "Янава" планавалася ў колькасьці 100-150 тысяч самалётаў.

Вось мы і падышлі да галоўнага.

Сталін плануе выпусьціць самалёт самай вялікай у гісторыі чалавецтва серыяй. Але гэта не зьнішчальнік. Гэта не самалёт для абарончай вайны. Гэта – самалёт-агрэсар.

Узнікае пытанне: калі мы вырабім 100-150 тысяч лёгкіх бамбавікоў, то ці не напалохаем усіх сваіх суседзей? Давайце не задаваць такіх пытанняў. Давайце не будзем сябе лічыць разумнейшымі за Сталіна. Давайце аддадзім належнае сталінскаму падступтству.

Сталін зусім не меў намеру пачынаць массавую вытворчасць «Янава» у мірны час. Зусім не. Мабілізацыя падзялялася на два перыяды: таемны і адкрыты. На працягу таемнай мабілізацыі планавалася вырабіць малую (адпаведна з савецкімі разуменнямі) серыю – усяго некалькі соцень гэтых самалётаў. Прызначэнне гэтай серыі – наладзіць вытворчасць, набыць вопыт, аблятаць самалёты, выпрабаваць у дробных канфліктах. Гэтыя першыя некалькі соцень можна выкарыстаць у першым удары, асабліва на другарадных накірунках ці сьледам за самалётамі з больш высокімі характарыстыкамі. А пасьля нашага ўдару пачнецца масавы выпуск "Янава" дзесяткамі тысяч. «Янаў» – гэта як бы нябачны мабілізацыйны рэзерв. Гэта як з аўтаматам ППШ. Аўтамат Шпагіна – ППШ – створаны перад вайной, апрабаваны, ухвалены. Грымнула вайна, і неадкладна кожная майстэрня па вытворчасьці ложкаў, кожная арцель па вытворчасьці скабяных тавараў, кожны дробны заводзік пачынае вырабляць самую простую, самую надзейную, вельмі магутную зброю ў колькасьцях неверагодных.

Самалёт з адносна нізкімі лётнымі якасьцямі можа быць жахлівай зброяй. Глянем на Гітлера. У яго таксама быў свой уласны крылаты шакал – Ю-87. Гэта аднаматорны самалёт, больш падобны на зьнішчальнік, чым на бамбавік. Экіпаж – два чалавекі. Абарончае ўзбраенне слабое – адзін кулямёт для абароны задняй паўсферы. Бомбавая нагрузка – менш тоны. Ю-87 быў старэйшым за «Нікадзіму» Б-5Н і «Янава», і таму яго лётныя характарыстыкі былі ніжэйшымі.

Ён належаў да таго пакалення самалётаў, у якіх шасі ў палёце не прыбіраліся. АЛЕ!

Але згуртаванні ў складзе дзесяткаў Ю-87 наносілі раптоўны ўдар па «спячых» аэрадромах і гэтым ударам ачышчалі для сябе неба. Пасьля першага ўдару па аэрадромах яны лёталі над тэрыторыяй праціўніка цалкам спакойна і рэкордная хуткасць ім не патрабавалася – ад каго ў паветры збягаць, за кім ганяцца? Ю-87 панавалі ў небе Польшчы, Нарвегіі, Францыі. А ў Брытаніі яны сустрэлі адпор. Задушыць брытанскія аэрадромы раптоўным ударам было немагчыма – умоваў для нанясення раптоўнага ўдару не было. Пасьля ўдзелу ў некалькіх рэйдах страты Ю-87 былі такімі вялікімі, што быў аддадзены загад: над Брытанскімі выспамі іх не ўжываць.

Вясна 1941 года – Югаславія і Грэцыя. Ю-87 наносяць раптоўны ўдар, і зноў яны паспяховыя і паважаемыя. У траўні – удар па Крыту. Тут брытанскае войска, але ўдар атрымаўся раптоўным, і Ю-87 зноў – сімвал «бліцкрыгу», поспеху і перамогі. У чэрвені – раптоўны ўдар па савецкіх аэрадромах. Прыгожым сонечным ранкам германская авіяцыя забяспечыла сабе чыстае неба і магла ўжываць самалёты любых тыпаў – баяцца не было каго.

Савецкія генералы прызнаюць, што яны расцэньвалі Ю-87 як састарэлы, а ён прынёс ім незлічоныя бедствы. Панаванне Ю-87 працягвалася да таго часу, пакуль савецкая авіяцыя не набрала магутнасьці. На працягу другога перыяду вайны Ю-87 на савецка-германскім фронце выкарыстоўваліся ўсё радзей, пакуль не зніклі наогул. «Падчас Усходняй кампаніі страта перавагі ў паветры ў хуткім часе паставіла пад пытанне мэтазгоднасць прымянення параўнальна малахуткасных і непаваротлівых пікіруючых бамбавікоў Ю-87» (Э. Мідэльдорф. Тактыка у рускай кампаніі с. 225). «Янаў» ствараўся пазьней, чым Ю-87. Таму характарыстыкі «Янава» былі больш высокімі, і канструктыўна два самалёты моцна адрозніваліся. Але адпаведна з духам і задумай, са спосабам выкарыстання і прызначаемай ролі Ю-87 і «Янаў» – блізняты. А самалёту «Нікадзіма» Б-5Н «Янаў» – родны брат не толькі адпаведна з задумай і духам, але і адпаведна з асноўнымі характарыстыкамі. Самалёт з параўнальна невялікай хуткасьцю можа быць небяспечны дзякуючы таму, што для сумленнага паядынку патрэбна доўгая шпага, а забіць спячага можна і без доўгай шпагі – хопіць кароткага нажа. Самалёты раптоўнага ўдару не мелі патрэбы ў рэкордных характарыстыках. Сталінская логіка простая і зразумелая: калі раптоўным ударам мы накрыем варожыя аэрадромы і тым ачысьцім неба ад яго самалётаў, то нам спатрэбіцца самалёт просты і масавы з магутным узбраеннем; галоўнае яго прызначэнне – падтрымка нашых насоўваючыхся танкавых лавін і паветраных дэсантаў, паветраны тэрор над безабароннымі тэрыторыямі. Менавіта такі самалёт Сталін і замовіў сваім канструктарам.

З моманту з'яўлення авіяцыі няўхільна павышаецца яе роля ў вайне наогул, і ў прыватнасьці – у аперацыях сухапутнага войска. На прыканцы стагоддзя ў ходзе вайны ў Пярсідзкім заліве авіяцыя выканала 80 адсоткаў агнявой задачы. Гэтую тэндэнцыю Ёсіф Сталін выразна зразумеў яшчэ пад час трыццатых гадоў.

У максімальнай ступені сталінскія патрабаванні выканаў авіяканструктар Павел Восіпавіч Сухі. Ён быў пераможцам конкурсу. У жніўні 1938 «Янаў»

Сухога пад маркай ББ-1 (блізкі бамбавік першы) пусьцілі ў серыю адразу на двух заводах. Затым яго пачалі вырабляць на трэццім: будаваўся гіганцкі чацьвёрты завод, а акрамя таго заводы, вырабляўшыя іншыя тыпы самалётаў, былі прыгатаваны, адпаведна з загадам, пераключыцца на вытворчасць «Янава». У верасні 1939 года згуртаванне Сухога ў якасьці заахвочвання была выдзелена ў самастойнае канструктарскае бюро. У 1940 годзе, пасьля наладжвання новай сістэмы індэксацыі, «Янаў» Сухога ў гонар свайго стваральніка атрымаў назву Су-2. Гэта быў першы серыйны самалёт аднаго із самых вялікіх авіяцыйных канструктараў XX стагоддзя. Да 22 чэрвеня самалётамі Су-2 былі цалкам укамплектаваны 13 авіяцыйных палкоў, у кожным па 64 самалёты.

Су-2, як і «Івановы» іншых канструктараў, быў шматмэтавым: лёгкі бамбавік, тактычны выведнік, штурмавік. Канструкцыя была выключна простай і рацыянальнай. Су-2 падыходзіў да масавай вытворчасьці больш, чым які б то ні было іншы самалёт у сьвеце. Ён нёс 400-600 кг. бомбаў, 5 кулямётаў ШКАС з рэкорднай адпаведна з тым часам хуткастрэльнасьцю і да дзесяці рэактыўных снарадаў калібрам 82 мм. або 132 мм. Хуткасць – 375 км/г каля зямлі, 460 – на вышыні. Кіраванне Су-2 было падвойным – і для лётчыка, і для седячага за ім штурмана-стралка. Таму не было патрэбы ў стварэнні навучальнага варыянту самалёта: кожны баявы Су-2 мог быць вучэбным, а кожны вучэбны – баявым. Гэта палягчала массавую падрыхтоўку лётчыкаў. Су-2 быў даступным для лётчыкаў якой заўгодна кваліфікацыі: грамадзянскаму пілоту із ГПФ і дзяўчынцы із аэраклуба. Ад лётчыкаў не патрабавалася ні валодання прыёмамі вышэйшага пілатажу, ні ўмення лётаць ноччу, ні ўмення добра арыентавацца на мясцавасьці і ў прасторы. Ім прызначалася лёгкая праца: паднімаемся ў паветра на досвітку, далучаемся да вялікага згуртавання, ляцім па прамой, заходзім на цэль.

Узнікае пытанне пра знішчальнікі прыкрыцця. Бамбавік ў баі, асабліва блізкі бамбавік дзейнічаючы над полем бою і ў самым бліжнім тылу праціўніка, павінен быць прыкрыты знішчальнікамі. Калі б разам з Су-2 была замоўлена адпаведная колькасць знішчальнікаў прыкрыцця, то была б магчымасць выкарыстоўваць Су-2 у якіх заўгодна сітуацыях, напрыклад, для нанясення контрудараў па агрэсару, напаўшаму на Савецкі Звяз. Але знішчальнікі ў такіх колькасьцях не былі замоўлены, таму існавала толькі адна магчымасць выкарыстання Су-2 у вайне – зрабіць напад на праціўніка першымі і нейтралізаваць яго авіяцыю. Без гэтай умовы выкарыстаць неабароненыя Су-2 немагчыма. Вось чаму рашэнне пра вытворчасць мінімум СТА ТЫСЯЧ лёгкіх бамбавікоў Су-2 было раўназначным рашэнню ПАЧЫНАЦЬ ВАЙНУ РАПТОЎНЫМ УДАРАМ ПА АЭРАДРОМАХ ПРАЦІЎНІКА.

Да пачатку 1941 года Сталін падрыхтаваў усё неабходнае для нанясення раптоўнага ўдару, для падаўлення германскай авіяцыі на аэрадромах. Для такіх дзеянняў у Сталіна існавала колькасная і якасная перавага.

У Сталіна быў унікальны браніраваны штурмавік Іл-2. Гаворка ідзе не пра бранявыя пліты, дадаваемыя да каркаса самалёта, а пра чыста бранявы корпус. Гэта быў адзіны ў гісторыі бранявы самалёт, сапраўдны лятаючы танк. Акрамя бранявой абароны, унікальнай для самалёта жывучасьці і шыкоўных лётных

– Ваша дывізія вунь у тым куце, забірайце. Падымаю з падлогі апячатаны мех з біркай «200 с.д. Паштавая скрыня 1508». Змяшчалася ў мяшку няшмат чаго. Нехта нават пажартаваў:

– Ці не шапка Манамаха...

Тэрмін фарміравання новай дывізіі быў жорсткім». (Я.І. Люднікаў. Дарога даўжынёю ў жыццё. с.3).

Палкоўнік ва ўзросьце 38 гадоў праз чатыры гады стане генерал-палкоўнікам. Ён цалкам выканаў пастаўленую задачу ў 1941 годзе, як выконваў усе задачы на працягу вайны. Пачаўшы з нуля, із аднаго напалову пустога мяшка, Люднікаў сфармаваў дывізію, правёў баявыя зборы падраздзяленняў, частак, штабоў і тылавых устаноў, і да пачатку чэрвеня 200-я стралковая дывізія «была ўкамплектавана асабістым складам адпаведна са штатамі ваеннага часу і мела ўсе сродкі ўзбраення». (ВГЖ, 1966, №9, с. 66-67). Гэта азначае, што ў 200-й с.д. было 14438 жаўнераў і афіцэраў, сотні гармат і мінамётаў, 558 аўтамабіляў, танкі, бронеаўтамабілі і г.д., і г.д.

Гісторыя мабілізацыі здзіўляе кожнага, хто яе вывучаў, дакладнасьцю і зладжанасьцю працэсу падрыхтоўкі Чырвонага Войска да нападу. Спачатку, пачынаючы са жніўня 1939 года, асноўныя намаганні накіраваны на падрыхтоўку афіцэрскіх кадраў, затым датэрміновы выпуск, фарміраванне другой і трэццяй хваляў рэзервовых дывізій, перакіданне частак із Далёкага Усходу, із Забайкалля, Сібіры, із Сярэдняй Азіі, із Каўказа і Закаўказзя.

У гэтым патоку быў і 31-й стралковы корпус, перакідаемы із Далёкага Усходу, у склад якога павінна была ўвайсьці 200-я стралковая. І грыміць Паведамленне ТАСЗ ад 8 траўня 1941 года пра тое, што ніякіх войсковых частак з Далёкага Ўсходу мы не перакідаем. А яны прыбываюць, сярод іх і 31-ы стралковы корпус, 200-я стралковая палкоўніка Люднікава ўваходзіць у яго склад, праводзіць апошнія вучэнні.

І нарэшце – паведамленне ТАСЗ ад 13 чэрвеня. І вось дывізія паднятая па баявой трывозе, атрымала загад: за некалькі начных пераходаў, старанна маскіруючыся ў лясах у дзённы час, здзейсніць марш да памежнага горада Ковеля... «Праводзіць дывізію выйшла ўсё насельніцтва гарадка. Самыя гарачыя запэўніванні, што мы ідзём на вучэнні, не маглі супакоіць нашых маці і жонак. Прадчуванне блізкай бяды не падманула іх.

Цалуючы жонку і сыночкаў, я амаль не сумняваўся, што іду на вайну». (Я.І. Люднікаў. Дарога даўжынёю ў жыццё. с.4). А потым сьледам наступіў раптоўны напад. Мяне заўсёды здзіўляла гэтая неадпаведнасць: мільёны людзей ведалі, што ідуць на вайну, і жанчыны іхнія ведалі, і маці, і бацькі, і дзеці ведалі, але германскага нападу ніхто не чакаў. Ён для ўсіх быў раптоўным.

Генерал-палкоўнік Я.І.Люднікаў – разумны камандыр. У 1945 годзе ён прадэманструе вышэйшы клас майстэрства пры разгроме японскіх дывізій, нападу не чакаўшых. Але як пагадніць факты: у сакавіку 1941 Люднікава выклікаюць у мабілізацыйны аддзел штаба памежнай акругі і даюць загад фармаваць дывізію з нумарам, які ўдвая большы за самы вялікі; ён фармуе дывізію «адпаведна са штатамі ваеннага часу» з разуменнем, што «вялікіх падзей чакаць нядоўга»; калі 200-я дывізія пайшла да мяжы, Люднікаў і ўсе навокал

разумеюць, што ідуць на вайну, – і пры ўсім гэтым германскага нападу ніхто не чакаў, ён для ўсіх быў раптоўным...

А ўсё проста: усе ведалі, што вайна будзе, усе чакалі вайну, але... без германскага нападу. Да загадкавага прадчування вайны, якое адчувалі дзясяткі мільёнаў савецкіх людзей, ёсць сэнс вярнуцца асобна. А зараз – да нашых дывізій. Больш дакладна, да дывізій, карпусоў, армій і франтоў.

Калі ствараюцца дзясяткі (і сотні) дывізій, то імі патрэбна кіраваць. Некаторыя дывізіі заставаліся асобнымі, г. азн. непасрэдна падпарадкоўваліся штабам армій або вайсковых акруг, але ў большасьці выпадкаў дзьве, тры, чатыры дывізіі ўтваралі стралковы корпус. Вось чаму разам з колькасьцю дывізій павялічвалася і колькасць стралковых карпусоў. Да лета 1939 года ў Чырвоным Войску было 25 стралковых карпусоў, восенню іх колькасць падвоілася. Нумары стралковых карпусоў папаўзлі ўверх і хутка перавысілі лічбу 50, а потым і 60.

Але і карпусамі патрэбна кіраваць. І таму верасень 1939 багаты на ўраджай новых армій.

Ва ўсёй гэтай гісторыі мяне зацікавіла іншая, на першы погляд, зусім дробная дэталь. Савецкія дывізіі і карпусы ў масавым парадку былі ўтвораны ў верасні 1939 года. Днём нараджэння палка, дывізіі, корпуса ў Чырвоным Войску лічыцца дзень ўручэння баявога сьцяга. Але сьцяг немагчыма ўручыць пустому месцу. Гэта як на баявым караблі: у яго гісторыі запісаны дзень, калі быў упершыню падняты ваенна-марскі сьцяг. Але каб сьцяг падняць, патрэбна папярэдне карабель пабудаваць. А будаўніцтва пачынаецца з закладкі, а калі быць да канца дакладным – з праекта. Так і з дывізіяй: перш чым ёй ўручыць баявы сьцяг, патрэбна яе сфармаваць, а фарміраванне пачынаецца з прызначэння камандыра. Мяне зацікавіў не момант ўручэння баявога сьцяга, а момант, калі ў дывізіі з'явіўся самы першы чалавек – камандыр, якому загадана із нічога стварыць дывізію.

Дывізіі ў тыя часы раслі густа, нястрымна і хутка – як бамбукавыя парасткі пасьля трапічнага ліўня. Із усіх дывізій, пра якія вядома, што яны былі сфарміраваны ў верасні 1939 года, я выбраў адну з самым вялікім нумарам – 186-ю і пачаў шукаць дзень першага яе згадвання ў дакументах, дзень, калі дывізіі яшчэ не было, але камандыр быў прызначаны, атрымаў худы апячатаны мех з біркай «186 с.д.» і загад на фарміраванне.

Камандырам 186-й стралковай дывізіі быў палкоўнік (з 4 чэрвеня 1940 года – генерал-маёр) М.Я. Бірукоў. Заставалася вызначыць дату, калі яго прызначылі камандырам. На пошук даты выдаткаваў 3 гады. Час не прапаў дарэмна: шукаў адно, а адначасова знаходзіў шмат іншага. Таксама цікавага.

Нарэшце знайшоў і тое што шукаў: загад пра фарміраванне 186-й стралковай дывізіі і прызначэнне камандыра быў падпісаны 19 жніўня 1939 года.

У тую ноч не спаў да світання – спяваў песні, глядзеў у неба, чытаў старыя вершы. Гэта была радасць самотнага альпініста, падняўшагася на вяршыню, «на якой ніхто не бываў». Магчыма, нікому мае знаходкі не патрэбны, магчыма, мяне не зразумеюць, але для сябе асабіста я зрабіў хай маленькае, але адкрыццё.

А раніцай патрэбна было пачынаць новую працу: здагадку падмацаваць або адкінуць. Магло ж быць такое, што ўзяў Сталін і загадаў 19 жніўня 1939 г. стварыць ўсяго толькі адну дывізію, адразу скокнуўшы ад нумара 100 да 186.

Давялося праверыць шматлікія іншыя дывізіі і паслужныя спісы маршалаў і генералаў, якія ў жніўні 1939 яшчэ не былі ні маршаламі ні генераламі, а былі ўсяго толькі перспектыўнымі палкоўнікамі. Ды і наогул у 1939 годзе генералаў у Чырвоным Войску не было, а былі камбрыгі, камдывы, камкоры.

Праверыць формулу лягчэй, чым яе вывесьці. Праверыў. Пацмацавалася: у верасні 1939 ствараліся дзясяткі новых дывізій і карпусоў, а рашэнне пра іх стварэнне і прызначэнне камандыраў было прынята 19 жніўня 1939 года. Вось некалькі прыкладаў. Кожны жадаючы можа набраць іх дзясяткамі.

Камбрыг П.С. Пшэннікаў (у будучым генерал-лейтэнант) 19 жніўня 1939 года прызначаны камандырам 142-й стралковай дывізіі. Дывізіі пакуль яшчэ не існавала, але камандыр быў прызначаны і да фарміравання прыступіў.

Палкоўнік Я. Г. Крэйзер (у будучым генерал арміі) у той дзень быў прызначаны камандырам 172-й стралковай дывізіі.

Камбрыг І.Ф. Дашычаў (у будучым генерал-маёр) быў прызначаны камандырам 47-га стралковага корпуса.

Камкора Ф.І. Голікаў (у будучым Маршал Савецкага Звязу) у жніўні 1939 атрымаў загад сфарміраваць і ўзначаліць 6-ю армію.

Не толькі дывізіі і корпуса фармаваліся ў той момант, але і арміі.

Палкоўнік С.С. Бірузоў (у будучым Маршал Савецкага Звязу) 19 жніўня 1939 года быў прызначаны камандырам неіснуючай пакуль 132-й стралковай дывізіі.

Камбрыг А.Д. Бярэзін (з 5 чэрвеня 1940 г. генерал-маёр) у той дзень прызначаны камандырам 119-й стралковай дывізіі. Дату можна прачытаць цалкам адкрыта, напрыклад, у «Ваенна-гістарычным часопісе» (1986, №2, с.86). І дата гэтая – 19 жніўня 1939 г..

Спіс можна працягваць невыносна доўга. Думаю, і гэтых прыкладаў дастаткова, каб зразумець: 19 жніўня 1939 Сталін загадаў колькасць стралковых дывізій падвоіць. Іх і так было больш, чым у якім заўгодна войску сьвету. Падвоіць – азначала, што перадмабілізацыйны перыяд закончаны і пачынаецца мабілізацыя.

І тады, як і праз 50 гадоў факт пачатку мабілізацыі хаваўся, таму што гэта была таемная мабілізацыя. Для маскіроўкі 2-ога верасня была абвешчана «частковая мабілізацыя». Калі яна была частковай, то патрэбна было аднойчы абвясьціць пра яе заканчэнне і дэмабілізацыю, але «частковую» мабілізацыю ніхто не спыняў і дэмабілізацыю не абвяшчаў. І яна працягвалася, набіраючы магутнасць і хуткасць. Таемная мабілізацыя праводзілася пад кіраўніцтвам кіраўніка Генеральнага штаба Маршала Савецкага Звязу Б.М. Шапашнікава, таго самага, які разумеў сам і пераканаў Сталіна, што частковай мабілізацыі быць не можа, яна можа быць толькі ўсеагульнай, і што мабілізацыя з’яўляецца не крокам да вайны, а самой вайной. 19 жніўня 1939 г. Яўропа яшчэ жыла мірным жыццём, а Сталін ужо прыняў рашэнне і запусьціў машыну мабілізацыі ў неабарачальны рух, што ва ўсякім выпадку і пры якім бы то ні было міжнародным раскладзе рабіла Другую сусьветную вайну цалкам непазбежнай.

Шмат хто із гісторыкаў лічаць, што спачатку Сталін вырашыў падпісаць з Гітлерам мір, а потым вырашыў рыхтаваць раптоўны напад на Нямеччыну. А мне раптам адкрылася, што не было двух розных рашэнняў. Падпісаць мір з Няметчынай і канчаткова прыняць рашэнне на непазбежнае ўварванне ў Няметчыну – гэта адно рашэнне, гэта дзьве часткі адзінай задумы.

1 верасня 1939 года Гітлер напаў на Польшчу, і гэтая дата лічыцца пачаткам Другой Сусьветнай вайны. Няхай жа гэты трагічны дзень так і застанецца афіцыйнай датай пачатку Другой Сусьветнай вайны. Гітлер – злыдзень і пачвара. Але давайце не будзем забывацца, што на сьвеце існавала і другая больш хітрая пачвара на імя – Сталін.

Не ведаю, калі Гітлер меў намер пачынаць Другую сусьветную вайну. Але ў верасні 1939 года Няметчыне нападаць на Польшчу было нельга. Нельга, таму што гэта магло пацягнуць за сабой вайну і марскую блакаду з боку Брытаніі і Францыі. Менавіта так і здарылася. І Гітлер павінен быў прадбачыць і разлічыць наступствы сваіх дзеянняў. Для вайны на моры Нямеччына павінна была мець магутны флот. У 1939 годзе Няметчына яго не мела. Нямецкая караблебудаўнічая праграма прадугледжвала ўвесьці ў склад флоту 6 лінкораў да 1944, 4 цяжкіх крэйсеры да 1943-га і яшчэ 4 да 1945 года, 4 лёгкіх крэйсеры да 1944-га і яшчэ 13 да 1948 года, 2 авіяносцы да 1941 года і яшчэ 2 да 1947-ага. Такія ж тэрміны адводзіліся і на будаўніцтва падводнага флоту. Пры якім заўгодна раскладзе Гітлер павінен быў адтэрмінаваць напад на Польшчу да 1944 – 1945 года.

Без мяне даказана, што ў 1939 годзе Гітлер не меў намеру пачынаць еўрапейскую, тым больш сусьветную вайну. Без мяне даказана, што прамысловасць Няметчыны ў 1939 годзе працавала ў рэжыме мірнага часу, што не існавала намераў і планаў пераводзіць яе на рэжым ваеннага часу. Даказана і тое, што 3 верасьня 1939 года Гітлер быў вельмі здзіўлены, даведаўшыся, што Брытанія і Францыя абвясьцілі яму вайну. Гітлер такога абароту падзей не прадугледжваў.

А Сталін 19 жніўні 1939 г. прыняў такія рашэнні, якія ўжо нельга было адмяніць, якія не пакідалі Савецкаму Звязу ніякай іншай магчымасьці – акрамя вайны.

Таму я лічу 19 жніўня мяжой вайны, пасьля якой пры якім бы то ні было раскладзе Другая Сусьветная вайна павінна была адбыцца. І калі б Гітлер не пачаў яе 1 верасня 1939 года, Сталін павінен быў бы шукаць іншую магчымасць ці нават іншага выканаўцу, які б штурхнуў Яўропу і ўвесь сьвет у вайну. У гэтым сутнасць майго маленькага адкрыцця.

23 жніўня 1939 года ў Крамлі быў падпісаны пакт Молатава-Рыбентропа. Гэта была захапляючая, хвалюючае падзея, і яе ўдзельнікі не маглі меркаваць, што безстаронняя камера захавае больш, чым было пажадана арганізатарам гэтай справы. А камера захавала выяву: Молатаў і Рыбентроп падпісваюць дамову, а за іхнымі спінамі як два змоўшчыкі шэпчуцца Сталін і Шапашнікаў.

Ім ёсць пра што шаптацца. Савецкі Звяз ужо прайшоў таемны перадмабілізацыйны перыяд і ўступіў у перыяд таемнай мабілізацыі, што само па сабе ўжо з'яўляецца вайной. Сталін і Шапашнікаў ведаюць, што стварылі

такую сітуацыю, калі, адпаведна са славамі самога Шапашнікава, «вяртання да мірнага часу быць не можа».

У Савецкім Звязе ўжо фарміруюцца стралковыя дывізіі з нумарамі больш за сто. У Савецкім Звязе ўжо рыхтуюцца дзесяткі тысяч пілотаў на самалёт «Янаў». А распрацоўка самалёта завершана, і ён гатовы да сапраўды массавай вытворчасьці. У Савецкім Звязе ўжо фармуюцца дзесяткі новых вайсковых вучэльняў для падрыхтоўкі афіцэраў сотнямі тысяч. У Савецкім Звязе ўжо вядзецца такое будаўніцтва парахавых і снарадных заводаў, якое робіць вайну непазбежнай ў бліжэйшыя гады.

Сталін і Шапашнікаў шэпчуцца за спіной Рыбентропа, яны ведаюць, што Савецкі Звяз ужо ў стане вайны, хоць гарматы яшчэ і не страляюць.

# Глава XIV

## Калі была створана 112 танкавая дывізія?

«Напярэдадні вайны А.Л.Гетман быў прызначаны камандырам 112-й танкавай дывізіі».

Генерал арміі І.І.Гусакаўскій, ВГЖ, 1973, N10, с.117.

Апошні міністр абароны ЗССР і апошні Маршал Савецкага Звязу Д. Т Язаў ў сваіх кнігах і артыкулах, публічных выступленнях паведамляў пра тое, што за няпоўныя два перадваенныя гады ў Савецкім Звязе было сфарміравана 125 новых дывізій. Згадку пра 125 новых дывізій мы сустракаем, напрыклад, таксама ў яго кнізе «Вярныя абавязку» (с. 178).

Параўнаем: у разгар «халоднай вайны» ў войску ЗША было 16 дывізій, у войску Брытаніі – 4. Сфарміраваць адну новую дывізію ў дэмакратычнай краіне – гэта адных парламенцкіх дэбатаў на год. А Сталін, адпаведна са сведчаннем маршала Язава, за няпоўныя два гады сфармаваў 125 дывізій у дадатак да тых, якія ў яго былі раней. Ці можна гэтаму верыць? Гэтаму верыць немагчыма.

Кожны, хто сам збірае сведчанні пра савецкія дывізіі, ведае, што маршал Язаў, мякка кажучы, хітраваў. І таму я напісаў ліст галоўнаму гісторыку Савецкага Войска генерал-палкоўніку Зьміцеру Ваўкагонаву: адвага жаўнера ў тым, каб ісьці на варожыя штыкі, адвага ваеннага гісторыка ў тым, каб публічна запярэчыць старэйшаму начальніку, калі той адступае ад гістарычнай праўды. Не ведаю, атрымаў генерал-палкоўнік Ваўкагонаў мой ліст ці не, але ён мог бы пратэставаць і без майго ліста. Але не пратэставаў.

Заявы Язава чулі ўсе савецкія ваенныя гісторыкі, але ніводны з іх не знайшоў адвагі запярэчыць. І тады я напісаў ліст самому Язаву: таварыш Маршал Савецкага Звязу, вы не ўсё паведамляеце ці... не ўсё ведаеце.

Паслухаем іншыя меркаванні пра колькасць новых дывізій. Маршал Савецкага Звязу К.С. Маскаленка: «З верасня 1939 г. па чэрвень 1941 было сфарміравана 125 новых стралковых дывізій». (На паўднёва-заходнім накірунку. с. 9).

Маршал Савецкага Звязу І.Х. Баграмян: «фарміравалася 125 новых стралковых дывізій і шмат злучэнняў і частак іншых родаў войска». (Так ішлі мы да Перамогі. с.39).

Адчуваеце розніцу? Язаў кажа пра 125 новых дывізій, а Маскаленка і Баграмян пра 125 новых стралковых дывізій. Маршал Язаў сьвядома ці дзякуючы няведанню прапусьціў слова «стралковых». А згубленне аднаго слава перамяняе сэнс, таму што акрамя 125 новых стралковых дывізій Сталін фарміраваў і іншыя дывізіі, напрыклад, мотастралковыя і матарызаваныя. Пачынаючы з верасня 1939 года па чэрвень 1941 было сфарміравана 30 новых матарызаваных дывізій. Стралковыя, мотастралковыя і матарызаваныя дывізіі мелі агульную сістэму нумарацыі, таму ўжо ў сакавіку 1941 года ў гэтай сістэме з'явіліся нумары 250, 251, 252 і г.д. І ўсё пропускі ў сістэме нумароў былі запоўненыя.

Акрамя таго, фармаваліся танкавыя дывізіі. Толькі за год, з чэрвеня 1940 па чэрвень 1941, было сфармірвана 61 новая танкавая дывізія. Танкавыя дывізіі мелі сваю ўласную сістэму нумароў ад 1 да 69. Існаванне пропускаў паказвала на тое, што працэс фарміравання дывізій працягваецца.

За няпоўны год, з ліпеня 1940 г. па чэрвень 1941 года, было сфарміравана 79 новых авіяцыйных дывізій. І для Сталіна гэта была не мяжа: нумары раслі ўсё вышэй і вышэй. У красавіку 1941 года ў раёне Смаленска ўжо фармавалася 81-я дальнебамбавальная авіяцыйная дывізія... А можа, савецкія дывізіі былі малюсенькімі? Зусім не – нямецкія танкавыя дывізіі ў чэрвені 1941 года мелі розную арганізацыйную структуру і розную колькасць танкаў: ад 147 ў 13-ай да 299 у 7-й танкавых дывізіях. Танкі – лёгкія і сярэднія. Цяжкіх танкаў у Нямеччыны наогул не было. Савецкая танкавая дывізія 1941 года – 375 лёгкіх, сярэдніх і цяжкіх танкаў. Часам дывізіі былі не цалкам ўкамплектаваны, напрыклад, 1-я танкавая дывізія пачала вайну маючы 370 танкаў і 53 бронемашыны. (Генерал-лейтэнант У.І. Баранаў. ВГЖ, 1988, №9, с.18).

Нямецкія матарызаваныя дывізіі 1941 года танкаў у сваім складзе не мелі. А савецкая матарызаваная дывізія 1941года – 275 танкаў.

Адзіная германская кавалерыйская дывізія танкаў не мела, савецкія кавалерыйскія дывізіі мелі па 64 танкі кожная.

Нямецкія пяхотныя дывізіі танкаў не мелі, стандартныя савецкія стралковыя дывізіі мелі па 16 танкаў. Некаторыя савецкія стралковыя дывізіі мелі па 60-70 танкаў. Напрыклад, 4-я стралковая імя Нямецкага пралетарыяту дывізія пачала вайну, маючы 64 танкі. (Генерал-лейтэнант І.П. Рослы. Апошні прывал у Берліне. с. 32).

Савецкія авіяцыйныя дывізіі мелі і па 200 самалётаў, і па 300. Бывала і па 400. Прыклад: 9-я змешаная авіяцыйная – на 21 чэрвеня мела 409 баявых самалётаў.

Агульны вынік: за няпоўныя два гады – не 125 новых дывізій як паведамляе маршал Язаў, а 295 новых дывізій...

Калі, вядома, не лічыць новых мотастралковых дывізій НКВД.

Але і 295 новых дывізій – не канец гісторыі. Аднойчы выпала пабываць у музеі 8-й гвардэйскай Рэжыцкай ордэна Леніна, Чырванасьцяжнай, ордэна Суворава мотастралковай дывізіі імя Героя Савецкага Звязу генерал-маёра І. В. Панфілава. Дывізія адна із самых знакамітых. Яе гісторыю кожны із нас вывучаў яшчэ ў дзяцінстве: сфарміравана ў ліпені 1941 як 316-я стралковая; першы камандыр – генерал-маёр І.В. Панфілаў; у кастрычніку перакінута пад Маскву;

знакаміты бой 28 герояў-панфілаўцаў... Там, пад Масквой, дывізія вызначылася і была ператворана ў 8-ю гвардэйскую стралковую. Усё гэта мне было вядома да наведвання музея, але інстынкт паляўнічай сабакі патрабаваў абнюхаць кожны куст двойчы, тройчы, чатыры разы. І пашанцавала.

Сярод шматлікіх дакументаў і рэліквій пабачыў жоўты лісточак з дробнымі літаркамі – загад пра фарміраванне дывізіі. Да мяне гэты загад чыталі тысячы наведвальнікаў музея. А магчыма, глядзелі і не чыталі. А магчыма, чыталі, але на самае галоўнае увагу не звярнулі. З першага погляду – загад як загад: сфармаваць, прызначыць і г.д. і г.д. Але дата!

Дата – 12 чэрвеня 1941 года. На наступны дзень – 13 чэрвеня ТАСЗ перадае ў эфір «дзіўнае» паведамленне пра тое, што ЗССР не збіраецца нападаць на Няметчыну. А ў гэты час нумары савецкіх стралковых дывізій ўжо праскочылі лічбу 300.

І не верылася, каб перад тым была створана стралковая дывізія з нумарам 252 і раптам пасьля яе адразу – 316. Не магло такога быць. І таму пачаў правяраць іншыя нумары і знайшоў, што 261-я, 272-я, 289-я, 291-я, 302-я і шмат якія іншыя з імі былі сфарміраваны ў ліпені 1941, але загады аб іх фарміраванні былі аддадзены ДА ГЕРМАНСКАГА НАПАДУ.

Таму патрэбна гаварыць пра тое, што Сталін за няпоўныя два гады сфармаваў 125 новых стралковых, 30 новых матарызаваных, 61 танкавую, 79 авіяцыйных дывізій, а акрамя таго, да германскага ўварвання прыступіў да фарміравання яшчэ не менш за 60 стралковых, мотастралковых і матарызаваных дывізій.

Праверыў і танкавыя дывізіі. У Сталіна іх была 61. Афіцыйна. А на справе ўжо ў сакавіку 1941 нумары савецкіх танкавых дывізій пераскочылі лічбу 100, і іх панесла ўсё вышэй і вышэй. І няма патрэбы закопвацца ў вельмі сакрэтныя архівы для таго, каб гэта давесьці. Дастаткова зірнуць у кнігу «Вялікая Айчынная вайна». Энцыклапедыя, (с. 206). Гэтая кніга прайшла дзяржаўную і ваенную цэнзуру, яе рэдагавалі генерал арміі М.М. Казлоў, генерал-палкоўнік ГВ. Сярэдзін, генерал-лейтэнант П.А. Жылін і яшчэ шмат хто са знакамітых генералаў, прафесароў, дактароў навук, сябраў-карэспандэнтаў і інш. З гэтай навуковай працы мы даведваемся, што генерал арміі А.Л. Гетман (у 1941 годзе – палкоўнік) стаў камандырам 112-й танкавай дывізіі ў сакавіку 1941 года. існуюць і іншыя паведамленні на гэты конт.

Калі нехта із ваенных гісторыкаў сумняваецца, то патрэбна проста праверыць паведамленні пра ўсе іншыя танкавыя дывізіі з трохзначнымі нумарамі, напрыклад, пра 111-ю танкавую дывізію. Яна знаходзілася ў Забайкаллі. 22 чэрвеня пасьля паведамлення пра германскі напад паўсюдна праходзілі мітынгі насельніцтва, а таксама асабістага складу вайсковых частак у тылавых раёнах. Гісторыя Забайкальскай ваеннай акругі (Ордэна Леніна Забайкальская, с. 96) паведамляе, што 22 чэрвеня 1941 «мітынгі асабістага складу прайшлі ў частках 36-й і 57-й мотастралковых, 61-й і 111-й танкавых дывізій». Не маглі адбыцца мітынгі абураных ваяроў у 111-й танкавай дывізіі, калі б яна не існавала.

Хай кожны аматар гісторыі загляне ў свае калекцыі матэрыялаў па гісторыі савецкіх дывізій і падтрымае мяне: на 21 чэрвеня 1941 ўжо існавалі

мінімум наступныя танкавыя дывізіі – 101 палкоўніка Г.М. Міхайлава, 102-я палкоўніка І.Д. Іларыёнава, 104-я палкоўніка В.Г. Буркова, 106-я палкоўніка А.М. Пярвушына, 107-я палкоўніка П.Н. Дамрачова.

Запярэчаць, што не ўсе яны былі цалкам укамплектаванымі. Маршал Савецкага Звязу І.С. Конеў, напрыклад, паведамляе, што ў верасні 1941 107-я танкавая дывізія мела ўсяго толькі 153 танкі. (ВГЖ, 1966, №10, с.56). Гэта сапраўды так, але гэта тое што засталося пасьля жорсткай Смаленскай бітвы. Рэштка роўная 153 танкам – не так мала. На пачатку верасня 1941 із усіх германскіх танкавых дывізій на Усходнім фронце толькі дзьве маглі параўнацца па колькасці спраўных танкаў: 6-я – 188 і 8-я – 155 танкаў.

Зараз нагадаем, што ў верасні 1939 года Гітлер пачаў Другую сусьветную вайну, маючы ШЭСЦЬ танкавых дывізій. У пераважаючай большасьці танкі былі лёгкімі. Ва ўсім германскім войску на 31 жніўня 1939 года існавала 211 сярэдніх танкаў. Цяжкіх танкаў не існавала ні на ўзбраенні войска, ні ў распрацоўцы, і пытанне пра распрацоўку цяжкіх танкаў у Няметчыне не ўзнімалася. Падвергнуўшы гэта навуковаму аналізу, некаторыя гісторыкі прыйшлі да высновы: раз у Гітлера 6 дывізій лёгкіх танкаў, то гэта азначае, ён мае намер заваяваць увесь сьвет.

Вясной 1941 года «нейтральны» Сталін фармаваў танкавых дывізій больш, чым іх існавала ва ўсе часы ва ўсіх краінах сьвету разам узятых, як у часы Сталіна, так і пасьля яго. Савецкі Звяз у 1941 годзе быў адзінай краінай сьвету, якая мела цяжкія танкі на ўзбраенні свайго войска.

І ўзнікае пытанне да гісторыкаў: калі 6 дывізій лёгкіх танкаў – гэта бясспрэчнае сведчанне імкнення пачаць вайну і захапіць увесь сьвет, то пра што сведчыць стварэнне 61 танкавай дывізіі за адзін год і пачатак разгортвання яшчэ такой жа колькасьці танкавых дывізій?

Утрымліваць 60 танкавых дывізій ні адна краіна сьвету не ў стане. Пра сто і больш танкавых дывізій я не кажу. Акрамя танкавых дывізій, у Сталіна былі стралковыя і матарызаваныя дывізіі ў колькасьці больш за 300. І гэтай колькасьці дывізій ні адна краіна свету ўтрымліваць не ў стане. Я не кажу пра авіяцыйныя і ўсе астатнія дывізіі. Нават і ў скарочаным выглядзе ўтрымліваць іх немагчыма. А іх трымалі не ў скарочаным выглядзе – яны хутка напаўняліся жаўнеравамі і ўзбраеннем. І гэта азначала толькі рашучасць ваяваць. Ваяваць ужо ў 1941 годзе. Ваяваць яшчэ да таго, як усе дывізіі будуць поўнасьцю ўкамплектаваны.

Калі ўсё гэта цалкам укамплектаваць, то эканоміка абваліцца неадкладна.

Вось чаму геніяльны Карл фон Клаўзэвіц лічыў, што «адпаведна самой прыродзе вайны немагчыма дасягнуць поўнай адначасовай гатоўнасьці усіх магчымасьцей для неадкладнага, адначасовага ўвядзення іх у справу».

Вось чаму Сталін падрыхтаваў магутнае войска, але акрамя таго – невычэрпны рэзерў дывізій, толькі пачаўшых фармаванне. У ходзе вайны завяршыць фарміраванне лягчэй, чым фарміраваць новыя дывізіі, пачынаючы з нуля.

У Гітлера гэтага не было. Ён кінуў супраць Сталіна 17 танкавых дывізій, якія былі не цалкам укамплектаванымі і ўзмацніць іх не было чым. Усе германскія танкі на Ўсходнім фронце былі размеркаваны па чатырох танкавым

згуртаваннях. У кожным танкавым згуртаванні ад 8 да 15 дывізій, у тым ліку 3-5 танкавых, 2-3 матарызаваных, астатнія пяхотныя. На 4 верасня 1941 г. ў 2-м танкавым згуртаванні генерал-палкоўніка Г. Гудэрыяна заставалася 190 спраўных танкаў. Танкавае згуртаванне ператварылася ў недаукамплектаваную танкавую дывізію, а танкавыя дывізіі ў яе складзе ператварыліся па сутнасьці ў танкавыя батальёны: у 3-й танкавай дывізіі 41 спраўны танк, у 4-й – 49, а 17-й – 38, у 18-й – 62. На дадатак – катастрафічны недахоп запасных частак і паліва для танкаў. Усё гэта да восені, да праліўных дажджоў і бруду, да бездарожжа і да пачатку рускай зімы, да снегу, да марозу, пра якія таксама варта было памятаць як Гітлеру, так і яго генералам.

Гісторыкі да гэтага часу спрачаюцца пра тое, што павінен быў рабіць Гітлер на пачатку верасня 1941 году: кінуць танкавую групу Гудэрыяна ў абыход Кіева або пайсьці прама на Маскву. Мяне гэтыя спрэчкі здзіўляюць: пасьля таго, як у танкавым згуртаванні засталося чвэрць ад першапачатковай колькасці танкаў, яе патрэбна кідаць не супраць Кіева і не супраць Масквы, а выводзіць на перафарміраванне і даўкамплектаванне. А замест яе ўводзіць у бітву свежыя танкавыя дывізіі, корпусы і згуртаванні. Але пра гэта Гітлер не паклапаціўся. А Сталін паклапаціўся.

Акрамя цалкам укамплектаваных танкавых дывізій, у яго былі дывізіі другой хвалі, укамплектаваныя не цалкам, і трэццяй хвалі, і чацьвёртай. Пасьля нанясення першых удараў і абвяшчэння адкрытай мабілізацыі танкавыя дывізіі можна было укамплектаваць, і па меры гатоўнасьці дзесяткамі ўводзіць у бітву.

Галоўнае ў тым, што Ленінградзкі і Харкаўскі заводы давалі столькі танкаў, што іх цалкам хапіла б (пры ўмове, што мы нападаем) і для папаўнення страт у існуючых дывізіях, і для даўкамплектавання фарміруемых. Гэта давала магчымасць Сталіну папаўняць страты ў дывізіях, вядучых вайну, і пастулава ўводзіць у бітву новыя танкавыя дывізіі, даводзячы іхную колькасць на палях бітваў да ста і больш.

Сваім самагубчым нападам, маючы ўсяго 17 танкавых дывізій, Гітлер не дазволіў Сталіну разгарнуць савецкую танкавую моц. Харкаў быў страчаны, Ленінград блакаваны.

Вытворчасць танкаў у Горкім, Чэлябінску, Ніжнім Тагіле, Сталінградзе – імправізацыя. Але нават і гэтая імправізаваная танкавая вытворчасць дазволіла Савецкаму Звязу выпускаць танкі ў вялікіх колькасьцях пры лепшай якасьці і завяршыць вайну ў Берліне.

Калі б Сталін нанёс ўдар першым, то вытворчасць танкаў у Савецкім Звязе магла б набыць жахлівыя памеры. Менавіта гэта і мелася на ўвазе, калі ў сакавіку 1941 года быў аддадзены загад пра фарміраванне танкавай дывізіі з нумарам 112.

# Глава XV

## Пра артылерыйскія палкі.

«Наша артылерыя – артылерыя наступальнага дзеяння.
Ураганам уварвецца Чырвонае Войска ў варожую зямлю і
забойным артылерыйскім агнём змяце ворага з твару зямлі».

Т.І.Летунаў. Выступленне на XVIII з'ездзе партыі, 18 сакавіка 1939 года

У чэрвені 1939 года ў складзе палявой артылерыі Чырвонага Войска існавала 144 артылерыйскія палкі. У кожным палку па 24-36 гармат. Гэта шмат. Удакладню: мы гаворым толькі пра артылерыйскія палкі і толькі ў складзе палявой артылерыі. Мы не гаворым пра зянітна-артылерыйскія палкі, пра артылерыйскія палкі ўмацаваных раёнаў, пра берагавую артылерыю флоту; зараз мы не бяром да ўвагі артылерыйскія часткі ўваходзіўшыя ў склад стралковых батальёнаў і палкоў, злучэнняў і частак кавалерыі, паветрана-дэсантных частак, частак НКУС; мы прапускаем асобныя батарэі і дывізіёны артылерыі вялікай і выключнай магутнасьці. 144 палкі палявой артылерыі размяркоўваліся проста:

– у падначаленні кожнага камандыра стралковай (мотастралковай) дывізіі па аднаму артылерыйскаму палку (152-мм і 122-мм гаўбіц); усяго 95 палкоў;

– у падначаленні кожнага камандыра стралковага корпуса па аднаму артылерыйскаму палку (152-мм гаўбіцы-гарматы і 122-мм гарматы); усяго 25 палкоў;

– у падначаленні Галоўнага камандавання Чырвонага Войска 24 артылерыйскія палкі (203-мм гаўбіцы, 152-мм гарматы і гаўбіцы-гарматы); гэта Рэзерв Галоўнага Камандавання – РГК. 19 жніўня 1939 г. Сталін прыняў рашэнне павялічыць колькасць стралковых дывізій. Кожнай новай дывізіі патрабуецца артылерыйскі полк. Для кіравання дывізіямі ствараліся кіраванні стралковых карпусоў. Кожнаму камандыру стралковага корпуса таксама патрабуецца уласны артылерыйскі полк. Для колькаснага і якаснага ўзмацнення дывізій і карпусоў на галоўных напрамках патрабуюцца палкі РГК. Такім чынам, патрэбна павялічваць і іх колькасць.

Адным словам, 19 жніўня 1939 года было вырашана колькасць палкоў палявой артылерыі павялічыць з 144 да 341. І іх стала больш, чым ва ўсіх войсках сьвету разам узятых.

У звычайнай стралковай дывізіі 1 артылерыйскі і 3 стралковых палкі. Летам 1939 года спецыяльна для адпраўкі на Халхін-Гол былі сфармаваны дзьве новыя стралковыя дывізіі незвычайнай арганізацыі: у кожнай па 2 артылерыйскіх і па 3 стралковых палкі. Дывізіі новай арганізацыі ў раптоўным ўдары паказалі сябе з лепшага боку. І Жукаў прапанаваў распаўсюдзіць наваўвядзенне на ўсё Чырвонае Войска: кожнаму камандыру дывізіі – па два артылерыйскія палкі. Ды яшчэ і кожнаму камандыру стралковага корпуса – па два.

13 верасня 1939 года Сталін зацверджвае прапанову і пачынаецца фарміраванне новых артылерыйскіх палкоў. Колькасць дывізій і карпусоў расьце, а колькасць артылерыйскіх палкоў у іхным складзе расьце ўдвая хутчэй: іх зараз патрабуецца 577. Дзіўнай атрымалася арганізацыйная структура стралковага корпуса. Раней у корпусе стандартнай арганізацыі (3 дывізіі) агульная колькасць палкоў была такой: 9 стралковых і 4 артылерыйскіх, а з верасня 1939 – 9 стралковых і 8 артылерыйскіх. Такі корпус толькі па назве стралковы, па сутнасьці корпус стаў стралкова-артылерыйскім. Гэтая папраўка тым больш слушная, што ў складзе артылерыйскіх палкоў толькі артылерыя, а ў складзе стралковых палкоў – пяхота і артылерыя.

Калі ў корпусе мы палічым ўсе стралковыя роты і артылерыйскія батарэі, то са здзіўленнем заўважым, што артылерыйскіх батарэй амаль у паўтара разы больш, чым стралковых рот. У параўнанні з пяхотнымі карпусамі замежных войскаў савецкі стралковы корпус быў самым невялікім па колькасці жаўнераў (асабліва ў тылавых падраздзяленнях), але рэзка перавышаў які заўгодна замежны корпус па агнявой моцы.

Акрамя павелічэння колькасьці артылерыйскіх палкоў існавалі іншыя шляхі, карыстаючыся якімі ішло насычэнне войска артылерыяй. Да восені 1939 года ў складзе кожнай стралковай дывізіі было па 18 супрацьтанкавых 45-мм гармат. Пасьля Халкін-Гола іх колькасць у кожнай дывізіі павялічылася да 54. Вонкава тая ж дывізія, а супрацьтанкавых гармат ўтрая больш.

Над 45-мм супрацьтанкавай гарматай некаторыя гісторыкі смяюцца. Аднак гэтая гармата вызначалася выдатнай манеўранасьцю, дзякую таму што была лёгкай. У гэтай гарматы быў нізкі сілуэт, што дазваляла яе лёгка маскіраваць ў супрацьтанкавых засадах. Самае галоўнае патрабаванне да супрацьтанкавай гарматы – здольнасць прабіваць які заўгодна танк праціўніка.

У 1941 годзе савецкая 45-мм гармата такой здольнасцю валодала. Акрамя яе, была створана 57-мм супрацьтанкавая гармата. Яе не выраблялі проста таму, што для яе не было годных цэляў. Як толькі выведка паведаміла пра з'яўленне цяжкіх танкаў у германскім войску, 57-мм гармату пусьцілі на паток і яна да канца вайны цалкам спраўлялася з пастаўленымі задачамі, тым больш што неўзабаве ёй на дапамогу пачалі вырабляць звышмагутную 100-мм супрацьтанкавую гармату.

Стралковыя часткі насычаліся і мінамётамі. Восенню 1939 года колькасць мінамётаў ў кожным стралковым батальёне была павялічана. Кожны камандыр палка атрымаў ўласную мінамётных батарэю. Акрамя таго, камандыры некаторых дывізій атрымалі па тры мінамётных батарэі.

Але зараз мы гаворым пра артылерыйскія палкі. Акрамя стралковых дывізій фармаваліся матарызаваныя і танкавыя дывізіі. Для кожнай із гэтых дывізій сфармавалі па аднаму артылерыйскаму палку.

А потым было прынята рашэнне колькасць стралковых дывізій павялічыць да 300 і вышэй, танкавых да 100 і вышэй. І фармаваць для іх артылерыйскія палкі. А яшчэ былі створаны дзесяць артылерыйскіх брыгад РГК. У кожнай па два артылерыйскія палкі (па 66 гармат у кожным палку, уключаючы 107-мм гарматы). Але гэта не ўсё.

Акрамя дывізій былі створаны стралковыя брыгады. Іхная стандартная арганізацыя: асобны танкавы батальён, два стралковыя і адзін артылерыйскі полк. Прыклады: у склад 3-яй стралковай брыгады (камандыр палкоўнік П.М. Гаўрылаў) ўваходзілі танкавы батальён, 41-ы, 156-ы стралковыя палкі і 39-ы артылерыйскі полк; у склад 8-й стралковай брыгады (камандыр палкоўнік М.П. Сіманяк) ўваходзілі танкавы батальён, 270-ы і 335-ы стралковы палкі і 343-ці артылерыйскі полк.

Акрамя стралковых карпусоў, былі сфармаваны 29 механізаваных карпусоў. Як правіла, камандыр мехкорпуса сваёй уласнай артылерыі не меў. Але гэта правіла. А ў правіле выключэнні. У раёне Львова, акрамя іншых частак, ўдар па Няметчыне рыхтаваў 4-ы мехкорпус генерал-маёра А.А. Уласава. Дзьве

танкавыя і адна матарызаваная дывізія гэтага корпуса мелі свае артылерыйскія палкі, акрамя таго, у прамым падначаленні камандыра корпуса знаходзіліся 441-ы і 445-ы корпусныя артылерыйскія палкі.

Яшчэ прыклад. На прыканцы траўня-пачатку чэрвеня із Забайкалля на Украіну перакідаецца 16-я армія. У яе складзе – 5-ы мехкорпус генерал-маёра І. П. Аляксеенка. Кожны камандыр дывізіі меў свой артылерыйскі полк, акрамя таго, сам камандыр корпуса меў у сваім прамым падпарадкаванні 467-ы і 578-ы корпусныя артылерыйскія палкі.

І гэта не ўсё: акрамя Чырвонага Войска, фармаваліся мотастралковыя дывізіі Аспрыз НКВД. Кожная такая дывізія ў сваім складзе мела гаўбічны артылерыйскі полк. Гісторыкі прапануюць часткі НКВД у разлік не браць. Матывуецца гэта тым, што гэта былі адборныя дывізіі, меўшыя самае сучаснае ўзбраенне і персанальна выбраных людзей да апошняга жаўнерава ўключна. Раз яны лепшыя, кажуць гісторыкі, гэта азначае, іх не лічым. Не будзем спрачацца. Але нават калі НКВД не браць у разлік, то і тады колькасць артылерыйскіх палкоў у складзе Чырвонага Войска яшчэ да германскага ўварвання пераваліла за 900. Павелічэнне працягвалася.

Цалкам апраўдана сумнявацца: а можа, Сталін гуляў у тую ж гульню, што і Гітлер? Гітлер ствараў усё новыя танкавыя дывізіі... за кошт скарачэння колькасьці танкаў у старых дывізіях. У 1939 годзе Гітлер меў 6 танкавых дывізій, у 1940 – 10, у 1941 – 20; колькасць танкаў пры гэтым істотна не змянілася.

Не, Сталін у такія гульні не гуляў. Колькасць танкавых злучэнняў павялічвалася, але і колькасць танкаў у кожным злучэнні павялічвалася. Адпаведна так жа павялічвалася колькасць артылерыйскіх палкоў, але павялічвалася і колькасць гармат у кожным палку. Напрыклад, у палках РГК, узброеных 152-мм гаўбіцамі-гарматамі, колькасць гармат ўзрасла з 36 да 48. А ў супрацьтанкавых палках – да 66.

У гэты ж час павялічвалася палявая артылерыя і ў Няметчыне. Але звернем увагу на назвы гармат і гаўбіц: у большасьці выпадкаў у іхных пазначэннях прысутнічаюць лічбы «13» ці «18». Гэта год стварэння гарматы. Няметчына валодала добрай артылерыяй, але ў пераважнай большасці выпадкаў на ўзбраенні палявой артылерыі былі ўзоры, створаныя ў ходзе Першай сусьветнай вайны. Акрамя таго, германская артылерыя папоўнілася трафейнымі гарматамі із дзевяці захопленых краін. Усяго на ўзбраенні германскай артылерыі былі гарматы і гаўбіцы, створаныя ў дзесяці розных краінах, выкарыстоўвалася 28 розных калібраў, што вельмі ўскладняла праблему забеспячэння боепрыпасамі. Шмат трафейных гармат было створана ў папярэднім стагоддзі і мела узрост да 50 гадоў.

Стварэнне савецкіх артылерыйскіх палкоў ішло на базе новых узораў, створаных у 1938 годзе, прынятых на ўзбраенне ў 1939 годзе, выробленых прамысловасьцю ў 1940-1941 гадах.

Пачынаючы з 1939-га да чэрвеня 1941 года Чырвонае Войска атрымала 82 тысячы навейшых артылерыйскіх гармат і мінамётаў. Амаль усе савецкія гарматы ў 1941 па якасьці былі лепшымі ў сьвеце і такімі заставаліся да заканчэння вайны. Сярод іх 122-мм гаўбіца М-30 – распрацаваная ў 1938 годзе,

праверана на Халхін-Голе, прынятая на ўзбраенне ў верасні 1939 года, была на ўзбраенні некаторых войскаў свету да канца XX стагоддзя.

Як дрэнна ўсё гэта пагадняецца са звыклымі ўяўленнямі пра тое, што Сталін Гітлеру верыў, што Сталін да вайны не рыхтаваўся.

Той, хто вывучаў ваенную гісторыю, запярэчыць, што савецкія артылерыйскія палкі не былі поўнасцю забяспечаны цягай. Акрамя таго, у артылерыі выкарыстоўваўся магутны, але ціхаходных трактар. Заўвага правільная.

Аднак гэтая акалічнасць не такая ўжо і жудасная, як можа здацца з першага погляду. Вопыт вайны паказаў, што ў выпадку, калі савецкаму войску ставілася задача абараняцца, і войска закопвалася ў зямлю, што азначае капалі траншэі поўнага профілю, абсталёўвалі бліндажы, агнявыя пазіцыі для танкаў і артылерыі, прыкрывалі пярэдні край супрацьтанкавымі равамі, міннымі палямі, драцянымі і іншымі загародамі, то суперніку такую абарону прарваць не ўдавалася. Прыклады: Ленінград, Масква, Сталінград, Курск.

Усе стратэгічныя прарывы германскага войска на працягу вайны мелі поспех толькі тады, калі савецкаму войску забаранялі закопвацца ў зямлю і рыхтаваць абарону. Прыклады: чэрвеня 1941 – па ўсёй мяжы, Харкаў – у траўні 1942 года, Крымскі фронт – у тым жа месяцы. У 1941 Чырвонае Войска мела выдатную магчымасць стварыць непрыступную абарону ад мора да мора.

Пасьля падпісання пакта з Гітлерам у Сталіна было два гады, абарону можна было будаваць не ў чыстым полі, як на Курскай дузе, а абапіраючыся на жалезабетонныя фарты «Лініі Сталіна». І вось туды, у гэтую абарону патрэбна было паставіць 500-600 артылерыйскіх палкоў, абсталяваўшы для кожнай гарматы па некалькі агнявых пазіцый, старанна іх замаскіраваўшы і загарадзіўшы. А артылерыю РГК, як і прызначана, трымаць у рэзерве і перакідваць туды, дзе вораг мацней напірае. У гэтым выпадку трактароў і аўтамабіляў хапіла б спаўна: боепрыпасы нарыхтаваны загадзя і накрыты ў бліндажах непадалёку ад агнявых пазіцый, артылерыйскаму цягачу ўсяго толькі і працы: начамі то адну, то другую гармату перацягваць із адной агнявой пазіцыі на другую.

Але савецкіх генералаў і маршалаў абарончы варыянт вайны не цікавіў. Яны рыхтавалі наступленне. Але і для наступлення трактары і аўтамабілі таксама не патрэбны ўсе адразу.

І патрэбна зразумець чаму.

Пры падрыхтоўцы наступальных аперацый артылерыя ніколі не перамяшчалася ўсёй масай: па-першае, таму, што яшчэ да наступлення напалохаеш праціўніка і пакажаш яму накірунак галоўнага ўдару; па-другое, таму, што проста немагчыма падцягнуць адначасова, скажам, па 200 гармат на кожны кіламетр фронту прарыву і адпаведную колькасць боепрыпасаў. Таму перад наступленнямі для гармат начамі рыхтавалі схованкі і патроху сцягвалі артылерыю і ўсе боепрыпасы да ўчасткаў будучага прарыву. Перад раніцай усё старанна маскіруецца, а на наступную ноч усё паўтаралася. Для такой працы зусім няма патрэбы мець цягач на кожную гармату.

Наступленне пачынаецца працай артылерыі, пасьля чаго ў прарыў ішлі танкі і пяхота, а асноўная маса артылерыі заставалася на месцы. Рухомыя

злучэнні мелі для падтрымкі толькі параўнальна невялікую колькасць артылерыі. Праз некалькі дзён ці тыдняў далёка ў глыбіні абароны праціўніка наступленне выдыхалася, войска спынялася, замацоўваліся рубяжы, пераходзілі да абароны. А кіраўніцтва выбірала новы ўчастак прарыву, і ўсё пачыналася спачатку: да гэтага месца на працягу шматлікіх начэй запар падцягвалі артылерыю і падвозілі боепрыпасы. У наступальнай вайне савецкую артылерыю кожны раз перакідвалі не ўсю разам, а перакатамі.

Акрамя таго, пад час Дня «М», пасьля абвяшчэння адкрытай мабілізацыі, із народнай гаспадаркі ў войска планавалася перадаць 240 тысяч аўтамабіляў і 43 тысячы трактароў. Гэтага цалкам хапала, каб дапоўніць сродкі цягі там, дзе іх не хапала.

Разгром адбыўся таму, што германскае войска нанесла раптоўны ўдар у той самы момант, калі савецкую артылерыю начамі перакідалі да мяжы. Разам з артылерыяй – адпаведную колькасць боепрыпасаў. Да вядзення абарончай вайны артылерыя не рыхтавалася, а пачынаць наступленне 22 чэрвеня не магла: артылерыя ўжо на мяжы, а пяхота яшчэ не падышла. І ўзнікла неабходнасць УСЮ масу савецкай артылерыі АДНАЧАСОВА адводзіць ад мяжы. І вось толькі ў гэтай сітуацыі недахоп трактароў і іх ціхаходнасць абярнулася катастрофай: артылерыя загінула ці дасталася суперніку разам з боепрыпасамі...

Катастрофы можна было пазбегнуць, калі б артылерыю і боепрыпасы не сабралі каля мяжы. Нават за тыдзень да вайны (калі б Сталін сапраўды баяўся Гітлера) яшчэ была магчымасць адвесьці артылерыю. Але ішоў адваротны працэс.

Маршал Савецкага Звязу К.К. Ракасоўскі: «Войску было загадана выправіць артылерыю на палігоны, якія знаходзіліся ў памежнай зоне». (Жаўнерскі абавязак. М., Ваенвыдат, 1968, с.8). Дзіўна, чаму артылерыя павінна займацца баявой падрыхтоўкай каля мяжы, хіба Савецкі Звяз малы, хіба немагчыма знайсьці больш прыдатнае месца? Мы абураемся, што нейкі ідыёт ў Генеральным штабе аддае дурныя загады. Але не будзем абурацца. Загады аддаваў не ідыёт, а вялікі непераможны Р.К. Жукаў. Менавіта так ён рабіў перад раптоўным ударам на Халхін-Голе: пяхота і танкі ў асноўнай сваёй масе трымаюцца ў глыбіні, каб не паказаць прыкмет падрыхтоўкі да наступлення і не выдаць напрамкі галоўных удараў. Яны прыдуць на пярэдні край пад час самай апошняй ночы, а ціхаходную артылерыю на пярэдні край Жукаў перамясьціў загадзя.

Гэта правільна – для агрэсіўнай вайны. Але тое ж самае мела б катастрафічныя наступствы, перайдзі японцы ў наступленне. Менавіта гэта здарылася 22 чэрвеня 1941: савецкая артылерыя ўжо каля мяжы, а пяхоты і танкаў яшчэ няма.

У памежныя раёны перакідалася артылерыя вайсковых частак, але акрамя таго, у памежных раёнах ішло фарміраванне новых артылерыйскіх частак. 900 артылерыйскіх палкоў – гэта зусім не мяжа. Ствараліся ўсё новыя і новыя палкі, асабліва – цяжкія палкі РГК. Генерал-палкоўнік Л.М. Сандалаў, як пра нешта не маючае значэння, у трох радках паведамляе, што ў тыл 4-й арміі падвезлі 480 152-мм гармат і пачалі фарміраванне дзесяці новых артылерыйскіх палкоў РГК.

Палкі не паспелі сфармаваць, немцы напалі, а жаўнераў каля гармат няма. (А недзе жаўнеры засталіся без гармат).

За Дняпром і за Волгай існуюць палігоны для баявой падрыхтоўкі і навучальныя цэнтры для фарміравання новых частак. Здавалася б, лепш сфармаваць палкі на Ўрале, навучыць іх, правесьці вучэнні і баявыя стрэльбы, а потым пагрузіць у эшалоны і перакінуць на заходнюю мяжу. Чаму гарматы падвезлі, а людзей няма? Чаму палкі фарміруюць ў памежных раёнах, там, дзе яны могуць патрапіць пад удар да таго, як іх паспеюць укамплектаваць жаўнерамі? Усё гэта здаецца суцэльным ідыятызмам. Але калі згадаць, што гэта – падрыхтоўка да наступлення, то тыя ж падзеі ўспрымаюцца інакш. Усё разумна.

Калі сфарміраваць і ўкамплектаваць артылерыйскі полк РГК далёка ад мяжы, а потым перакінуць яго да мяжы, то гэта без увагі не застанецца. Прыбыццё нават аднаго палка РГК наводзіць на разважанні. Прыбыццё дзесяці палкоў РГК выклікае ў праціўніка паніку. Таму гарматы начамі невялікімі партыямі без жаўнераў (у войску кажуць – россыпам) перакідалі да мяжы. А недзе ў іншым месцы рыхтуюцца камандыры і жаўнеры.

У апошні момант у памежныя раёны прыбываюць тысячы жаўнераў і афіцэраў, але без цягачоў, без гармат, без боепрыпасаў. На іхнае прыбыццё не звяртаецца асаблівай увагі: шмат людзей без гармат – падобны на пяхоту. А гарматы, цягачы, боепрыпасы ўжо схаваныя ў памежных лясах. Жаўнеры атрымліваюць свае гарматы, шчышчаюць з іх змазку – і дзесяць палкоў да бою падрыхтаваныя.

Уявіць 480 гармат на адным полі я магу. Генерал-палкоўнік Л.М. Сандалаў не ўдакладняе, пра якія менавіта гарматы ідзе гаворка. Але гаворка можа ісьці толькі пра 152-мм гаўбіцы-гарматы, МЛ-20 або 152-мм гарматы Бр-2. Гаўбіца-гармата МЛ-20 важыла больш за 7 тон, а гармата Бр-2 – больш за 18 тон. 480 гармат – гэта шэрагі за гарызонт.

Цяжка ўявіць іншае ў памежных раёнах: на кожную гармату было назапашана па 10 боекамплектаў снарадаў. Адзін боекамплект – 60 снарадаў, 10 боекамплектаў – 600. Адзін снарад для МЛ-20 важыць 43,6 кг, для Бр-2 – 48,8 кг. Кожны снарад запакаваны ў асобную скрыню. На 480 гармат – 288 тысяч скрынь. Але гарматы такога калібра маюць не ўнітарнае зараднае прыстасаванне, а раздзельнае. Спачатку зараджаем снарад, а потым асобна – гільзу з зарадам. Гільзы з зарадамі пакуюцца ў асобныя скрыні. Гэта яшчэ столькі ж скрынь. Уявім.

Гэта толькі дзесяць новых палкоў РГК, яны таемна ствараюцца па-за баявымі парадкамі 4-й арміі. Але 4-я армія – не на галоўным накірунку. – На галоўных – 10-я армія Заходняга фронту ў Беластоцкім выступе, 6-я армія Паўднёва-Заходняга фронту ў Львоўскім выступе і 9-я армія Паўднёвага фронту на румынскай мяжы. Ці можна ўявіць, што рабілася ў іхных тылах? Ці можна ўявіць усе 900 палкоў ўжо сфармаваных і невядомую колькасць таемна фарміруемых? Ці можна ўявіць горы зялёных скрынь са снарадамі для ўсіх гэтых палкоў?

Толькі той, хто здолее ўсё гэта ўявіць (у мяне не атрымліваецца), здолее да канца зразумець сэнс слоў Маршала Б.М. Шапашнікава: мабілізацыі – ГЭТА

ВАЙНА. Спачатку Сталін стварыў Наркамат боепрыпасаў, лагічным следствам гэтага – выбухападобны працэс фарміравання артылерыйскіх палкоў, здольных выдаткаваць ўсю прорву снарадаў.

А следствам стварэння артылерыйскіх палкоў магла быць толькі вайна. Пры гэтым, ужо ў 1941 годзе, таму што не маглі савецкія генералы доўга трымаць пад адкрытым небам дзесяць боекамплектаў на 900 артылерыйскіх палкоў. НЕ МАГЛІ.

# Глава XVI

## Пра мудрую Вярхоўную Раду

«Патрэбна выкарыстоўваць непагадненні і супярэчнасьці
паміж двума сістэмамі капіталістычных дзяржаў,
нацкоўваючы іх адзін на аднаго».
У.Ленін.

Да 1939 года ўсеагульнага вайсковага абавязку ў Савецкім Звязе не было. У войска бралі не ўсіх, а на выбар. Гэта зразумела: мы людзі мірныя.

Прызыўны ўзрост – 21 год. Вось гэта незразумела. Не б забіраць пасьля школы ў 18 гадоў або ў 19, хай хлопец адслужыць і вольны. А так да 21 года чалавек мог працу знайсьці і сям'ю завесьці, а наперадзе нявызначанасць: возьмуць ці не возьмуць.

І ніхто толкам растлумачыць не можа, чаму патрэбна забіраць у войска ва ўзросьце 21, а не раней.

Вялікі сэнс быў закладзены ў гэтую сістэму. Яна была як бы запрудай на рацэ, праз яе прапускалі не ўсіх, толькі некаторых, а астатнія назапашваліся. У патрэбны момант можна было ўвесьці ўсеагульны вайсковы абавязак (толькі падставу прыдумаць) і ўсіх, хто раней у войску не служыў, заклікаць пад сьцягі. За шмат гадоў іх вунь колькі назбіралася.

Момант наступіў – 1 верасня 1939 года. У гэты дзень быў уведзены ўсеагульны вайсковы абавязак. І ўсіх, хто раней не служыў, пачалі заграбаць.

У кожным асобным выпадку забіранне сталага мужчыны ў войска не выклікала падазрэнняў наконт таго, што рыхтуецца вялікая вайна: забіраюць у войска, плача сям'я, але ўсе разумеюць: нашаму Яну ўжо 30, але раней-та ён не служыў, пара і яму...

А каб гэтае забіранне было цалкам зразумелым, патрэбны былі малыя, але рэгулярныя вайны на мяжы. Добра, калі яны мелі добрае заканчэнне, але не бяда, калі дрэннае.

Прызыў у ходзе канфліктаў і малых войнаў тлумачэнняў не патрабуе. І пайшлі канфлікты чарадой, быццам бы іх нехта па замове арганізаваў – ад самага Хасана да дэльты Дуная і векавых лясоў Фінляндыі. Маладых і не вельмі маладых хлопцаў забіраюць – рыхтуецца «вызваленчы» паход у Польшчу. А пасьля паходу да хаты не пускаюць. Потым «вызваленне» Фінляндыі – новых набіраюць. Потым «вызваленне» Эстоніі, Літвы, Латвіі, Бесарабіі. І зноў наборы: час трывожны...

У Сталіна быў яшчэ рэзерў: адпаведна з новым законам пра ўсеагульны воінскі абавязак прызыўны ўзрост быў зніжаны з 21 да 19 гадоў, а для некаторых

катэгорый – да 18. І адразу загрэблі ўсіх тых, каму 21, і ўсіх, каму 20, і каму 19, а ў некаторых выпадках – і 18. У гэтым наборы быў і мой бацька, яму тады споўнілася 18.

Наша шматгадавая схільнасць да міру і штучна завышаны ўзрост прызыву дазволілі сабраць, як за плацінай, энергію мільёнаў. Зараз Сталін адкрыў шлюзы і назапашаную энергію выкарыстаў адначасова.

Кожнае напружанне мае абмежаваны час. Чым больш напружанне, тым хутчэй знікае моц. Давайце запытаем у самага моцнага чалавека ў сьвеце, ці доўга можна на выцягнутых руках трымаць над галавой штангу вагой роўную 200 кг? Калі яму не паверым, можам самі паспрабаваць. Я гэта пра тое, што аднавчасовы прызыў адразу трох узростаў (ніколі раней такога не бывала), і, акрамя таго, прызыў усіх, хто раней не служыў, лёг на краіну падвойным цяжарам. З аднаго боку, эканоміка страціла ўсіх гэтых працаўнікоў, з другога боку – усіх іх патрэбна апрануць, абуць, карміць, паіць, – утрымліваць, недзе размяшчаць (паспрабуйце размясьціць на пустым месцы хаця б адзін мільён новых жаўнераў).

Чырвонае Войска зусім нядаўна праскочыла сваю мільённую мяжу, а тут раптам стала шматмільённым. Новым дывізіям патрэбны казармы, штабы, стрэльбішчы, палігоны, склады, сталовыя, клубы. І шмат яшчэ чаго. Паспрабуйце ўладкаваць хаця б адну дывізію колькасцю 13 тысяч жаўнераў. Але галоўнае – усе гэтыя дывізіі, корпусы і арміі патрэбна узброіць.

Набор 1939 быў вялізным. Другі раз такі трук паўтарыць было немагчыма. На працягу наступных гадоў маглі быць толькі звычайныя прызывы людзей аднаго ўзросту. Увядзеннем закона восенню 1939 года Сталін ствараў добрую сітуацыю на лета 1941: за два гады усіх закліканых ператвораць у сапраўдных жаўнераў. Акрамя таго, яшчэ будуць заклікі ў 1940-м і 1941 гадах.

Вось менавіта гэтае кадравае войска і можа пачаць вайну. Пасьля пачатку вайны ўсе тэрміны будуць адменены і ўсіх закліканых можна трымаць у войску да перамогі, дапаўняючы і ўзмацняючы мільёнамі рэзервістаў, якія прайшлі праз войска пад час папярэднічаўшых гадоў і маладымі хлопцамі па меры паспявання.

І не мог Сталін і яго генералы не разумець таго, што восенню 1941 года небывалы прызыў 1939 патрэбна будзе распусьціць па хатах. Адпаведна з законам ад 1.09. 39г. тэрмін сапраўднай вайсковай службы для самых масавых катэгорый ваеннаслужачых – для радавых і малодшых камандыраў сухапутнага войска – прызначаны роўным двум гадам. Такім чынам вялікі прызыў 1939 года павялічваў войска тэрмінам на два гады, але восенню 1941 года гэтая моц павінна была ператварыцца ў вялікае памяншэнне. Прызыў 1939 года адпрацаваў сваё, як вада, выпушчаная із запруды, і на змену яму прыйдзе звычайны прызыў. Затрымліваць адслужыўшых у войску немагчыма: знізіцца дысцыпліна. Толькі вайна дазваляе трымаць у войску мільёны ўжо адслужыўшых і патрабаваць ад іх падпарадкавання. І калі Чырвонае Войска не пачне вайну да восені 1941 года, то прызыў 1939 года адпрацуе ўхаластую, на яго ўтрыманне будуць патрачаны сродкі, а пасьля жаўнеры раз'едуцца па дамах. Сабраць іх разам зноў не атрымаецца без вялікага шуму і шматлікіх пытанняў.

Такім чынам, праводзячы масавы прызыў восенню 1939 года, Сталін прызначаў для сябе максімальна магчымы тэрмін ўступлення ў вайну – на лета

1941 года. Калі б Сталін планаваў напад на 1942 год, то масавы прызыў ён прызначыў бы на 1940 год.

Увесь назапашаны шматгадовы запас прызыўнікоў Сталін выкарыстаў адразу і цалкам. І тлумачэнне гэтаму адно: да 1 верасня 1939 года Сталін прыняў рашэнне ваяваць і ўсталяваў тэрмін пачатку вайны – да 1 верасня 1941 года.

Закон быў прыняты 1 верасня, але пазачаргаўую сесію для прыняцця закона Сталін загадаў сабраць у жніўні, у той самы момант, калі ў Крамлі паціскаў руку Рыбентропа і паднімаў тост за здароўе Адольфа Гітлера.

Тут самы час мяне абарваць абуранымі ўсклікannямі. 1 верасня 1939 года – гэта пачатак Другой Сусьветнай вайны. Мудрая камуністычная партыя і савецкі ўрад усімі захадамі імкнуліся вайну папярэдзіць, але на ўсякі выпадак рабілі неабходныя захады...

Цалкам згодны з мудрымі захадамі. Але бянтэжыць іншае. Зараз мы ведаем, што ў той дзень пачалася Другая сусветная вайна. Але тады гэтага ніхто не ведаў.

Сам Гітлер 1 верасня не меў ніякага ўяўлення пра тое, што пачалася Другая сусветная вайна. 3 верасня Брытанія і Францыя абвясцілі Гітлеру вайну. Але і тады ні Гітлер, ні ўрады Францыі і Брытаніі таксама пра Другую сусьветную вайну не думалі. Я не паленаваўся падняць брытанскія газеты таго часу, пачынаючы з «Таймс», праверыў і амерыканскія газеты, уключаючы «Нью-Ёрк таймс». Вынік ўсюды адзін. Сьвет таго часу не ўспрымаў падзеі ў Польшчы як пачатак Другой сусьветнай вайны.

Гэта нашмат пазьней напад на Польшчу пачалі лічыць пачаткам Другой Сусьветнай вайны, а тады ўсе газеты (уключаючы савецкія) пісалі пра германа-польскую вайну. Абвяшчэнне вайны Брытаніяй і Францыяй усімі ўспрымалася як палітычная дэкларацыя. 5 верасня 1939 года ўрад ЗША абвясьціў пра свой нейтралітэт у пытанні германа-польскай вайны. Урад ЗША нават і пасьля афіцыйнага ўступлення ў вайну Брытаніі і Францыі не лічыў вайну не тое што сусьветнай, але нават агульнаеўрапейскай.

1 верасня ні ў адной сталіцы сьвету, няхай гэта будзе Варшава ці Берлін, Вашынгтон, Парыж або Лондан не падазравалі, што пачалася Другая сусветная вайна.

Гэта ведалі толькі ў Маскве і прымалі адпавядаючыя моманту рашэнні.

# Глава XVII

## Пра перманентную мабілізацыю

«Злучаныя Штаты сьвету (а не Яўропы) з'яўляюцца той дзяржаўнай формай аб'яднання і свабоды нацый, якую мы звязваем з сацыялізмам».

У. Ленін, 23 жніўня 1915 г.

Колькасць насельніцтва Савецкага Звязу перад пачаткам Другой Сусьветнай вайны была меншай чым колькасць насельніцтва Расійскай імперыі перад пачаткам Першай сусьветнай вайны. Аднак мабілізацыйны патэнцыял краіны быў непараўнальна больш высокім. Розніца паміж Расійскай імперыяй і Савецкім Звязам у тым, што ў Расійскай імперыі пры недахопе харчавання

ўзнікала незадаволенасць, лібэральная прэса лаяла ўрад, дзёрзкія юнакі кідалі з дахаў ўлёткі, дэманстранты спявалі крамольныя песьні і завяршылася ўсё гэта рэвалюцыяй.

А ў Савецкім Звязе не існавала ні ліберальнай прэсы, ні дзёрзкіх юнакоў. Знішчылі. І таму не толькі пад час вайны, але і ў мірны час недахоп харчавання быў хранічным, а крамольных песень ніхто не спяваў. Недахоп харчавання нават у мірны час неаднаразова меў наступствам люты голад з мільёнамі ахвяр. Але прайшлі тыя слаўныя часы, калі існавала магчымасць выходзіць на дэманстрацыі пратэсту.

Сталін рыхтаваў краіну да вайны сур'ёзна і ведаў, што пры ўзнікненні голаду падчас вайны пратэст усёадно немагчымы. Вось чаму на пачатку 1939 года мабілізацыйны патэнцыял Савецкага Звязу быў роўным 20 адсоткам ад агульнай колькасьці насельніцтва: забярэм ўсіх мужыкоў з вёсак на вайну, а савецкі народ без хлеба як-небудзь пераб’ецца. Прывучаны.

20 адсоткаў – гэта максімальны тэарэтычна магчымы ўзровень мабілізацыі. 20 адсоткаў – гэта 34 мільёны патэнцыйных жаўнераў і афіцэраў.

Зразумелая справа, краіна не была ў стане ўтрымліваць такое войска ў мірны час. І ў ваенны час такое войска ўтрымліваць немагчыма, ды яно такое і не патрэбна. Было вырашана падчас вайны мець мініятурнае войска роўнае ўсяго 10-12 мільёнаў жаўнераў і афіцэраў. Але выкарыстоўваць яго інтэнсіўна, неадкладна папаўняючы страты. Такі падыход называўся тэрмінам «перманентная мабілізацыя».

Кажуць, што савецкія дывізіі, карпусы і арміі былі невялікімі згодна са складам. Гэта так. Але патрэбна памятаць, што іх было шмат, а акрамя таго, жаўнераў і афіцэраў не шкадавалі, выкарыстоўвалі на мяжы магчымасьцей чалавечага арганізму і звыш гэтай магчымасьці і тут жа замянялі. Гэта як рахунак у банку: калі ў вас ёсць добрая крыніца папаўнення, то грошы можна лёгка і вольна выдаткаваць. На кожны дадзены момант грошай, магчыма, і не вельмі шмат, але вы працягваеце іх выдаткаваць, ведаючы, што заўтра іх зноў будзе ў дастатку.

Менавіта так справы ішлі ў савецкіх дывізіях, карпусах і арміях: людзей ў дадзены момант трохі, але кіраўніцтва выкарыстоўвае іх інтэнсіўна будучы ўпэўненым, што не заўтра, а ўжо сёння прышлюць замену. Колькасць Чырвонага Войска на працягу вайны была адносна невялікай, але ў яго было мабілізавана за 4 гады вайны 29,4 мільёны чалавек у дадатак да тых, якія ў ім знаходзіліся на 22 чэрвеня 1941 года. (Генерал арміі М. Майсееў. «Праўда», 19 ліпеня 1991 г.).

А ў мірны час Чырвонае Войска была наогул маленечкім: 500-600 тысяч чалавек. Сталін выдаткаваў сродкі ў вайсковую прамысловасць, а колькасць войска трымаў ніжэй аднаадсоткавай мяжы, каб не абцяжарваць эканоміку, каб не затрымліваць яе рост. А потым Чырвонае Войска пачало расьці.

Яго колькасны склад:

1923 – 550000,
1927 – 586000
1933 – 885000
1937 – 1100000
1938 – 1513400

На пачатку 1939 года колькасць Чырвонага Войска складала адзін адсотак ад колькасьці насельніцтва. Гэта быў Рубікон. Сталін яго пераступіў: на 19 жніўня 1939 года колькасць Чырвонага Войска дасягнула двух мільёнаў.

На гэтым Сталін не спыніўся. Наадварот, 19 жніўня ён аддае таемны загад пра фарміраванне дзясяткаў новых стралковых дывізій і соцень артылерыйскіх палкоў. Працэс мабілізацыі маскіраваўся.

Хуткасць мабілізацыі нарастала. 1 студзеня 1941 года колькасць Чырвонага Войска складала 4.207.000 чалавек. У лютым хуткасць стварэння новых частак была павялічана. 21 чэрвеня 1941 года колькасць Чырвонага Войска – 5.500.000 чалавек. Гэта толькі Чырвонае Войска. Акрамя яго існавалі часткі НКУС[7]: ахоўныя, канвойныя, памежныя, аператыўныя. У складзе НКУС існавалі дыверсійныя часткі і цэлыя злучэнні, НКУС меў свой уласны флот і авіяцыю.

У мірны час, відавочна не чакаючы нападу Няметчыны, Чырвонае Войска да афіцыйнага абвяшчэння мабілізацыі перавысіла колькасць войска Расіі ў ваенны час пасьля завяршэння мабілізацыі.

Калі тыгр будзе ганяцца за аленем, то ніколі яго не дагоніць: алень лягчэйшы і больш хуткі чым тыгр. Калі тыгр будзе асьцярожна падбірацца, то таксама нічога не атрымаецца – алень ўслухоўваецца ў цішыню лесу, дастаткова тыгру хруснуць галінкай... Таму тыгр выкарыстоўвае абодва метады ў спалучэнні. Напад тыгра выразна падзелены на два этапы: спачатку ён доўга, нячутна, сантыметр за сантыметрам падкрадаецца, затым пачынаецца кароткі люты рывок.

Менавіта такой была задума мабілізацыі Чырвонага Войска і ўсяго Савецкага Звязу для вядзення Другой Сусьветнай вайны. Спачатку асьцярожна, крадучыся, павялічыць войска да пяці мільёнаў. Потым кінуцца.

Пяці мільёнаў для нанясення раптоўнага руйнуючага ўдару дастаткова, астатнія падаспеюць. Вось чаму на працягу перыяду таемнай мабілізацыі ў Савецкім Звязе на рэжым ваеннага часу былі пераведзены сістэмы ўрадавай, дзяржаўнай і ваеннай сувязі, дзяржаўны апарат, ідэалагічная машына, НКУС і канцлагеры, камсамол, прамысловасць і транспарт, былі падрыхтаваныя кадры кіруючага складу і спецыялістаў для войска, перавышаючае дзесяць мільёнаў чалавек, але павелічэнне самога войска штучна стрымлівалася.

Калі колькасць войска дасягнула і перавысіла 5 мільёнаў, далейшае пасоўванне – крадучыся – стала немагчымым. Далей звярыны сталінскі інстынкт патрабаваў кідацца.

У кожнай савецкай кватэры камуністычная ўлада бясплатна паставіла вялікі чорны рэпрадуктар – талерку, а на кожнай вуліцы серабрысты званочак. Аднойчы гэтыя рэпрадуктары павінны былі на ўсю краіну пракрычаць мабілізацыю – Дзень «М».

Кожны савецкі рэзервіст ў сваіх дакументах меў «мабілізацыйны лісток» ярка-чырвонага колеру, на якім стаяла вялікая чорная літара «М» і прадпісанне, у якой гадзіне і дзе быць пад час дня, калі мабілізацыя будзе абвешчана. Акрамя Дня «М», мільёнам рэзервістаў у мабілізацыйных лістках пазначаліся дні «М+1»,

[7] Народны Камісарыят Унутраных Спраў.

«М+2» і г.д. Гэта азначала загад з'явіцца на зборны пункт на наступны пасьля абвяшчэння мабілізацыі дзень або на другі і г.д.

Патрэбна сказаць, што механізм мабілізацыі быў адладжаны і працаваў дакладна і без перабояў, як нож гільятыны, падаючы на чыюсьці няшчасную шыю. Кожны рэзервіст ведаў, што нез’яўленне ў прызначанае месца і пад час прызначанага тэрміну прыраўноўваецца да ўхілення ад прызыву і караецца адпаведна з законамі ваеннага часу аж да разстраляння на месцы. Некаторыя эксперты да гэтага часу шукаюць падставы Вялікай чысткі 1937-1938 гадоў. А падставы на паверхні – гэта была падрыхтоўка да мабілізацыі і вайны[8].

Пасьля 1937 года ўсе ведалі, што Сталін не жартуе. Гітлер сарваў сталінскую мабілізацыю, але нават у крытычнай сітуацыі, якая ніякімі планамі і разлікамі не прадугледжвалася, нават пры адсутнасьці Сталіна каля дзяржаўнага руля, нават пры поўным неразуменні таго, што адбываецца на ўсіх узроўнях грамадства ад Палітбюро да самага апошняга лагучастка, машына мабілізацыі спрацавала. За першыя сем дзён вайны ў ЗССР было сфарміравана 96 новых дывізій у дадатак да існуючых. (СВЭ. т. 5, с. 343). За першыя сем дзён вайны ў войска было заклікана 5300000 жаўнераў і афіцэраў у дадатак да тых мільёнаў, якія ўжо ішлі да мяжы 22 чэрвеня.

Маршал авіяцыі С.А. Красоўскі апісвае 22 чэрвеня ў Паўночна-Каўказскай вайсковай акрузе: як толькі паведамілі пра пачатак вайны, акруга неадкладна прыступіла да фарміравання 56-й арміі. (Жыццё ў авіяцыі. с. 117). Тое ж самае адбывалася і ў іншых акругах, дзе фармавалася па адной, а то і па некалькі армій адначасова. На 22 чэрвеня Сталін меў трыццаць адну армію. Але ў Сталіна было ўсё гатова для неадкладнага стварэння яшчэ дваццаці васьмі армій, і стварэнне пачалося неадкладна, нават без яго загадаў. 56-я армія – адна із іх.

Сістэма мабілізацыі распаўсюджвалася не толькі на мільёны рэзервістаў, якія павінны былі стаць жаўнерамі і афіцэрамі, але і на мільёны людзей, прафесіі якіх лічыліся ключавымі ў ваенны час. У рэзерве было 100 тысяч лекараў. (Тыл Савецкага Узброенага Войска ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 г.г. с. 69), і кожны з іх меў «мабілізацыйны лісток». Акрамя таго, мабілізацыі падлягалі сотні тысяч медыцынскіх працаўнікоў іншых прафесій. На 9 чэрвеня 1941 года Чырвонае Войска мела 149 шпіталяў на 35.540 ложкаў. На Дзень «М+30» планавалася стварыць адных толькі эвакуацыйных шпіталяў на 450 тысяч ложкаў. Дарэчы сказаць, іх стварылі.

«Мабілізацыйныя лісткі» мелі ўсе працаўнікі міністэрства сувязі, міністэрства шляхоў спалучэнняў, працаўнікі сродкаў массавай інфармацыі, стукачы НКУС і шмат якія іншыя катэгорыі грамадзян. Пад час Дня «М» і на працягу трох наступных дзён із народнай гаспадаркі ў Чырвонае Войска было прадпісана перадаць чвэрць мільёна грузавых аўтамабіляў і больш за 40 тысяч трактароў.

Баявое планаванне заўсёды вядзецца без прывязкі да канкрэтнай даты. Дзень пачатку аперацыі пазначаецца літарай "Д", і штабныя афіцэры плануюць мерапрыемствы, якія патрэбна ажыццявіць на працягу гэтага дня. Затым яны распрацоўваюць план на наступны дзень, які называецца «Д+1» і наступны за ім

---

[8] Больш падрабязна пра гэта аўтар піша ў кнізе першай – «Ледакол».

«Д+2» і г.д. Акрамя таго, распрацоўваюцца планы на пярэдадне пачатку аперацыі «Д-1» і іншыя папярэднія дні.

Такі падыход дазваляе, з аднаго боку, пакінуць у таямніцы дату пачатку аперацыі нават ад тых афіцэраў і генералаў, якія яе плануюць. З другога боку, калі дзякуючы нейкім нагодам тэрмін пачатку аперацыі пераносіцца наперад ці назад, у загадзя падрыхтаваных дакументах нічога не патрэбна перамяняць. План лёгка накладваецца на якую заўгодна дату.

Дакладна так жа распрацоўваліся і савецкія планы мабілізацыі. Не ведаючы даты, планіроўшчыкі складалі дэталёвыя планы мерапрыемстваў на Дзень «М», гэта азначае на дзень, калі ўрад абвесціць мабілізацыю, а таксама на наступныя і папярэднія дні, тыдні і месяцы.

Згадванняў пра Дзень «М» нават у адкрытых савецкіх крыніцах мы сустракаем шмат. Падрыхтоўка вялася тытанічная і элімінаваць усё гэта із нашай гісторыі немагчыма. Але камуністычныя гісторыкі прыдумалі трук. Яны цалкам адкрыта выказваюцца пра падрыхтоўку, але выказваюцца так, як быццам бы Дзень «М» – гэта проста дзень пачатку мабілізацыі: калі на нас нападуць, мы абвесьцім мабілізацыю, павялічым войска і дадзім адпор агрэсару.

А я пішу гэтую кнігу з мэтай даказаць, што таемная мабілізацыя пачалася 19 жніўня 1939 г..

Таму Дзень «М» – гэта не пачатак мабілізацыі, а толькі момант, калі таемная мабілізацыя раптам абвяшчаецца і ператвараецца ў відавочную.

Дзень «М» – не пачатак мабілізацыі, а толькі пачатак яе фінальнага адкрытага этапу.

Камуністы сцвярджаюць, што пад час Дня «М» планавалася пачаць мабілізацыю, а я давожу, што ў Чырвоным Войска ўжо было больш за пяць мільёнаў жаўнераў. Гэта ўжо не войска мірнага часу, гэта войска ваеннага часу. Стварыўшы такое войска, Сталін быў вымушаны на працягу бліжэйшых тыдняў узяць удзел у вайне, незалежна ад паводзін Гітлера.

На працягу таемнай мабілізацыі ў асноўным звярталася ўвага на развіццё найбольш тэхнічна складаных радоў войска і зброі: танкавых, паветрана-дэсантных, артылерыі, авіяцыі. За два гады таемнай мабілізацыі Чырвонае Войска павялічылася больш, чым удвая, за той жа час колькасць асабістага складу танкавага войска павялічылася ў восем разоў. На працягу перыяду таемнай мабілізацыі ствараліся структуры будучых дывізій, карпусоў і армій, яны мелі камандны склад, але жаўнераў пакуль не мелі. Пад час Дня «М» іх заставалася запоўніць гарматным мясам.

Да ліпеня 1941 года ўсе таемныя падрыхтоўчыя мерапрыемствы павінны былі быць завершанымі, і тады над усёй краінай павінен быў прагрымець заклік пад сьцягі, заставалася адкрыта зрабіць тое, што ні ў якім разе немагчыма зрабіць таемна.

Другая галоўная ідэя маёй кнігі ў тым, што пад час Дня «М», у момант пераходу ад таемнай да адкрытай мабілізацыі, кадравыя дывізіі Чырвонага Войска зусім не мелі намер стаяць бар'ерам на нашай мяжы. Прыкрыванне мабілізацыі (больш дакладна, адкрытай, завяршаючай яе часткі) планавалася не стаяннем на мяжы, а раптоўнымі знішчальнымі ўдарамі. Вось некаторыя выказванні на гэты конт вядучых савецкіх вайсковых тэарэтыкаў.

А.І. Ягораў (пазьней – Маршал Савецкага Звязу): «Гэта не перыяд пасіўнага прыкрывання мабілізацыі, стратэгічнага размяркавання і разгортвання, а перыяд актыўных дзеянняў з далёка ідучымі мэтамі... Пад прыкрыццём гэтых мерапрыемстваў будзе завяршацца мабілізацыя і падрыхтоўка галоўнага войска». (Даклад Рэўваенсавета 20 красавіка 1932 г).

Я.А. Шылоўскі (пазьней – генерал-лейтэнант): «За першым эшалонам, які ўрываецца на тэрыторыю праціўніка, разгортваецца сухапутнае войска, але не на дзяржаўнай мяжы, а на захопленых рубяжах». («Пачатковы перыяд вайны», «Вайна і рэвалюцыя», верасень-кастрычнік 1933, с. 7).

С.Н. Красільнікаў (пазьней – генерал-лейтэнант, прафесар Акадэміі Генеральнага штаба): «Падымаць вялізныя масы па ўсеагульнай мабілізацыі – рызыкоўная справа. Значна больш небяспечна і спакойна забіраць у склад асобных вайсковых частак людзей шляхам невялікіх мабілізацый... Праводзіць мабілізацыю па частках, без афіцыйнага яе абвяшчэння». («Вайна і рэвалюцыя», сакавік-красавік 1934, с. 35).

В.А. Медыкаў (пазьней – генерал-маёр): «Войска прыкрыцця ператвараецца з моманту рашэння пра пераход да актыўных дзеянняў у войска ўварвання». (Стратэгічнае разгортванне. 1935 г.).

Камбрыг Г.С. Ісерсон: «Калі гэтая маса пачне бітву, у глыбіні краіны з’явяцца сілуэты Другога стратэгічнага эшалона мабілізуемага войска, за ім Трэцяга і г.д. У канчатковым выніку "перманентнай мабілізацыі" будзе пераможаны той, хто не вытрымае мабілізацыйнага напружання і апынецца без рэзерваў са знясіленай эканомікай». (Эвалюцыя аператыўнага мастацтва. 1937, с. 79).

Адрозненне ад Першай сусьветнай вайны ў тым, што ў 1941 годзе на заходняй мяжы дзяржавы стаяла не войска мірнага часу, як было ў 1914 годзе, а 16 армій ўварвання, якія за два гады таемнай мабілізацыі выраслі са звычайных арміі мірнага часу. У дадатак да іх із глыбіні краіны таемна высоўваўся Другі стратэгічны эшалон і ўжо ствараліся тры арміі НКУС Трэццяга эшалона.

Нас пераконваюць, што не ўсе сталінскія дывізіі, карпусы і арміі былі цалкам ўкамплектаваны, і таму Сталін не меў магчымасьці зрабіць напад. Той, хто так кажа, не знаёмы з тэорыяй і практыкай «перманентнай мабілізацыі»: Першы стратэгічны эшалон наносіць удар, Другі – выгружаецца із эшалонаў, Трэцці – завяршае фарміраванне, Чацвёрты... Гэта як зубы ў акулы, яны растуць пастаянна і цэлымі шэрагамі, выпаўшы шэраг замяняецца новым шэрагам і яшчэ адным, і яшчэ. А ў глыбіні пасткі рэжуцца шэрагі зусім дробных зубікаў і пасоўваюцца наперад. Можна, вядома, сцвярджаць, што акула не мае магчымасьці напасьці, пакуль не вырастуць усе зубы... У Сталіна, сапраўды, не ўсе дывізіі, карпусы, арміі былі цалкам укамплектаваны. Але ў тым і была яго дз'яблава задума. Немагчыма ўсё ўкамплектаваць, немагчыма тыгру красьціся вельмі доўга.

Із 10 паветрана-дэсантных карпусоў 5 былі цалкам укамплектаваны, а астатнія толькі пачыналі ствараццa. У Сталіна было 29 механізаваных карпусоў. Кожны із іх павінен быў мець па тысячы танкаў. Але па тысячы танкаў мелі толькі тры карпусы, чатыры іншыя карпусы мелі па 800-900 танкаў кожны, дзевяць карпусоў мелі ад 500 да 800 танкаў кожны. Астатнія 13 карпусоў мелі ад

100 да 400 танкаў кожны. І робяць гісторыкі выснову: раз не ўсё цалкам укамплектавана, то гэта азначае, што Сталін не меў магчымасьці напасьці на Гітлера ў 1941 годзе.

А мы паглядзім на гэтую сітуацыю з другога боку. Так, у Сталіна ўсяго толькі 5 паветрана-дэсантных карпусоў цалкам укамплектаваны, а ў Гітлера – ніводнага. І ва ўсім астатнім сьвеце – ніводнага. Пяці паветрана-дэсантных карпусоў цалкам дастаткова для правядзення якой заўгодна аперацыі нанясення Няметчыне забіваючага ўдару. Пачаўшы вайну раптоўным ударам і абвясьціўшы Дзень «М», Сталін меў магчымасць на працягу бліжэйшых дзён і тыдняў даўкамплектаваць яшчэ 5 паветрана-дэсантных карпусоў і пусьціць іх у справу, а ўвесь астатні сьвет пра такое не мог і марыць. І калі нехта вырашыў даказаць, што Сталін, маючы 5 паветрана-дэсантных карпусоў, не меў магчымасьці напасьці, то тады патрэбна пашыраць гэтыя довады і на Гітлера: не маючы ніводнага  такога корпуса, ён і наогул напасьці не мог.

У Сталіна не ўсе мехкарпусы былі цалкам укамплектаваны. Пагадзімся, што тры карпусы па тысячы танкаў у кожным гэта вельмі мала. Але ў Гітлера не было ніводнага такога корпуса. І ва ўсім астатнім сьвеце – ніводнага. І карпусоў па 800-900 танкаў ні ў Гітлера, ні ў каго іншага не было. І карпусоў па 600 танкаў у 1941 годзе ні ў каго ў сьвеце не было. Яны былі толькі ў Сталіна. Сталін думаў пра будучыню, рыхтуючы дэсантныя і механізаваныя карпусы для наступальных аперацый. Тыя дэсантныя і механізаваныя карпусы, якія на 22 чэрвеня былі не цалкам ўкамплектаваны, можна дапоўніць, даўкамплектаваць; парашутысты, танкісты былі падрыхтаваны, парашуты гатовыя, вайсковая прамысловасць працавала ў рэжыме ваеннага часу.

Усё, што меў Гітлер – 4 танкавыя згуртаванні. Іх можна было выкарыстаць у першым удары, але ў рэзерве ў Гітлера не было нічога. А ў Сталіна рыхтаваліся рэзервы.

З другога боку, калі б Сталін ўкамплектаваў усе 10 паветрана-дэсантных карпусоў, усе 29 мехкарпусоў па тысячы танкаў кожны, усе 300 стралковыя дывізіі да апошняга жаўнера, то Сталін напалохаў бы Гітлера, і Гітлер быў бы вымушаны нанесьці прэвентыўны ўдар. Дарэчы, і таго, што Сталін падрыхтаваў для нанясення першых удараў, было дастаткова, каб Гітлера спалохаўся.

Ваенныя гісторыкі прапусьцілі цэлы гістарычны пласт. Усё, пра што я паведаміў, складала дзяржаўную тайну Савецкага Звязу. Разам з тым у 20-х і 30-х гадах савецкае палітычнае і ваеннае кіраўніцтва распрацавала спачатку ў тэорыі, а потым ажыццявіла на практыцы небывалы ў гісторыі план таемнага перавядзення краіны на рэжым ваеннага часу, із якога непарыўна і лагічна вынікалі планы правядзення раптоўных руйнуючых удараў. Гэтыя планы нараджаліся і распрацоўваліся ў жорсткай барацьбе меркаванняў магутных згуртаванняў, адстойваўшых свой уласны падыход да праблемы заваявання сьвету. Магутнасць запалу была такой вялікай, што адгалоскі палемікі вырываліся із глухіх сьцен Генеральнага штаба на старонкі адкрытай прэсы і адбітым сьвятлом асьвятлялі памеры падрыхтоўкі.

Нават тое, што друкавалася адкрыта, дае ўяўленне пра намеры Сталіна і яго генералаў. Захаваліся цэлыя залежы адкрытай літаратуры пра тое, што павінна здзяйсняцца пад час перадмабілізацыйнага перыяду, як патрэбна

праводзіць таемную мабілізацыю, як наносіць раптоўныя ўдары і як пад іх прыкрыццём мабілізаваць галоўнае войска і кідаць яго у бітву. Выдаваўся часопіс «мабілізацыйны зборнік». Кожнаму, каго цікавіць дадзенае пытанне, настойліва рэкамендую артыкулы С.І. Вянцова, кнігі А.В. Кірпічнікава, Е.А. Шылоўскага, В.А. Мелікава, Г.С. Ісерсона, В.К. Трыандафілава, нарэшце, кнігу Барыса Міхайлавіча Шапашнікава «Мозг войска».

Аналіз развіцця дзяржаўных структур, ваеннай прамысловасьці і Чырвонага Войска сведчыць пра тое, што ўсе гэтыя дыскусіі і спрэчкі не былі пустой схаластыкай – яны ператварыліся ў стройную тэорыю, а затым былі ажыццёўлены на практыцы амаль да самага канца.

Гісторыкі так ніколі і не патлумачылі, чаму ж Гітлер напаў на Сталіна. Кажуць, яму жыццёвая прастора спатрэбілася. Так кажа той, хто сам не чытаў «Майн кампф», а там гаворка ідзе пра далёкую перспектыву. У 1941 годзе ў Гітлера было дастаткова тэрыторыі ад Брэста на ўсходзе да Брэста[9] на захадзе, ад Паўночнай Нарвегіі да Паўночнай Афрыкі. – Асвоіць усё гэта было немагчыма і за некалькі пакаленняў. У 1941 годзе Гітлер меў супраць сябе Брытанскую імперыю, усю заваяваную Яўропу, патэнцыйна – Злучаныя Штаты. Для таго, каб утрымаць захопленае, Гітлер быў вымушаны рыхтавацца да захопу Гібралтара і заваёвы Брытанскіх выспаў, не маючы перавагі на моры.

Няўжо ў такім становішчы Гітлеру не было чым больш заняцца, як пашыраць жыццёвую прастору? Усе вялікія немцы папярэджвалі пра небяспеку вайны на два франты. Сам Гітлер галоўную падставу паразы ў Першай сусьветнай вайне бачыў у тым, што ваяваць давялося на два франты. Сам Гітлер у рэйхстагу запэўніваў дэпутатаў у тым, што вайны на два франты не дапусьціць. І ён напаў. Чаму?

Граф фон Бісмарк папярэджваў не толькі супраць вайны на два франты, але і супраць вайны на адзін фронт, калі на гэтым фронце Расія. І Гітлер напаў. І чамусьці нікога із гісторыкаў не зацікавілі падставы яго паводзін. Сам Гітлер сказаў графу фон дэр Шуленбургу: «У мяне, граф, выйсьця няма»

Не пакінуў Сталін Гітлеру выйсьця. Таемная мабілізацыя была такой вялізнай, што не заўважыць яе было цяжка. Гітлер таксама разумеў, што павінна будзе здарыцца ў момант, калі таемная мабілізацыя раптам будзе абвешчана адкрыта...

А зараз уявім сябе на сталінскай дачы цёплым летнім вечарам, недзе ў 1934 годзе. Тэарэтычна мы вырашылі, што патрэбна праводзіць таемную мабілізацыю працягласьцю два гады. А перад ёй патрэбна правесьці перадмабілізацыйны перыяд працягласьцю шэсць-восем месяцаў, а яшчэ некалькі раней патрэбна ажыццявіць Вялікую чыстку. Адным словам, усё патрэбна пачынаць загадзя, за некалькі гадоў да галоўных падзей. Калі ж пачынаць таемную мабілізацыю? У 1935 годзе? Ці, магчыма, у 1945годзе? Пачнём раней – спустошым краіну, раскрыем карты і намеры. Пачнем пазьней – спазнімся. Што ж рабіць?

А застаецца рабіць толькі адно: прызначыць ТЭРМІН пачатку Другой Сусьветнай вайны. Грунтуючыся на намі прызначаным тэрміне пачатку вайны, праводзіць Вялікую чыстку, перадіммабілізацыйны перыяд, таемную

[9] Маецца на ўвазе порт на паўночным захадзе Францыі.

мабілізацыю, у загадзя прызначаны намі Дзень «М» нанесьці раптоўныя ўдары і абвясьціць ўсеагульную адкрытую мабілізацыю.

Вядучыя прафесійныя гісторыкі сьвету як бы не заўважаюць таго, што адбывалася ў Савецкім Звязе ў 1937-1941 гадах, таму, чытаючы іхныя пухлыя кнігі, мы ніяк не можам зразумець, хто ж пачаў Другую сусьветную вайну. атрымліваецца, што вайна ўзнікла сама сабой і ніхто ў яе развязванні не вінаваты.

Спадары гісторыкі, я рэкамендую савецкую тэорыю мабілізацыі параўнаць з практыкай, параўнаць тое, што гаварылася ў Савецкім Звязе на працягу 20-х гадоў, з тым, што рабілася на працягу 30-х. Вось тады вы і перастанеце крычаць пра тое, што Другая сусьветная вайна ўзнікла сама сабой, што ніхто не вінаваты ў яе развязванні, тады вы пабачыце сапраўднага вінаватага.

# Глава XVIII

## Нявольнікі паднябесныя

«Павінен прызнацца, што я паважаю лётчыкаў. Калі я пачую, што нейкага лётчыка крыўдзяць, у мяне прама сэрца баліць».

І.Сталін. «Праўда», 25 студзеня 1938 г.

Фільмамі, кніжкамі, газетнымі ўсмешкамі прызвычаілі нас да думкі, што на працягу 30-х моладзь ішла ў лётныя школы валам, што на прызыўных камісіях адбою не было ад жадаючых. Так яно і было. Спачатку. А потым жадаючых паменшала. А потым яны і зусім перавяліся. І склалася сітуацыя: з аднаго боку, патрэбна ўсё больш народу ў лётныя школы, з другога боку – жадаючых меншае. Што ж рабіць?

І яшчэ праблема: прадукцыйнасць лётных школ павялічваецца, у 1940 годзе падрыхтавалі лётчыкаў столькі, колькі за ўсе папярэднія гады разам узятыя, а на 1941 год запланавана выдаць больш, чым за ўсе папярэднія гады разам узятыя, уключаючы і рэкордны 1940 год. Лётчык – гэта афіцэр. Задумаемся над тым, колькі кватэр патрэбна пабудаваць, каб забяспечыць лётчыкаў-выпускнікоў 1940 года. А для выпускнікоў 1941-га колькі спатрэбіцца? Лётчык – гэта афіцэр, але такі, які атрымлівае ўдвая больш грошай, чым пяхотны субрат таго ж ўзросту і ў тым жа званні. Гэта колькі ж грошай патрэбна на ўтрыманне лётчыкаў выпуску 1940-1941 гадоў? Зноў жа, форма афіцэрская. Афіцэра-лётчыка патрэбна адпаведна з традыцыяй апранаць лепш, чым пяхотнага субрата. Напрыклад, у пяхотнага афіцэра таго часу – варатнік на гузіках, а ў лётчыка – гальштук. Гэта колькі ж гальштукаў патрэбна назапасіць? Дзе ж тое саламонава рашэнне, якое б разам вырашыла ўсе праблемы?

Таварыш Сталін саламонава рашэнне знаходзіў для якой заўгодна праблемы. А калі няма рашэння, ёсць дарадцы, якія падкажуць. Рашэнне падказаў 7 снежня 1940 года Кіраўнік Галоўнага ўпраўлення ВПВ генерал-лейтэнант авіяцыі Павел Рычагоў: усім, хто закончыў лётнае вучылішча і школы, афіцэрскіх званняў не даваць. Такім чынам, кватэр для новых лётчыкаў будаваць

не патрэбна, грошай вялікіх плаціць не патрэбна, і ў шыкоўную форму іх апранаць няма чаго.

Ёсць у некаторых краінах выключэнні: ваенны лётчык – сяржант. Але гэта там, дзе матэрыяльнае становішча і грамадзкі статус сяржанта бліжэй да афіцэра, чым да жаўнера. У нас жа сяржант тэрмінавай службы – бяспраўны рэкрут. Спіць ён у казарме разам з жаўнерамі, есь тую ж кашу, носіць тыя ж кірзавыя боты. Сяржанта выпускаюць у звальненне, як і жаўнера: раз ці два на месяц на некалькі гадзін. А могуць і не пусьціць. Няма сэнсу распаўсюджвацца пра тое, што такое савецкая казарма. Савецкую казарму патрэбна адчуць.

Мой асабісты вопыт жыцця ва ўзорна-паказальных казармах – 10 гадоў, пачынаючы з ліпеня 1958 года да ліпеня 1968. Узорная казарма – гэта спальнае памяшканне на дзьве-тры сотні чалавек; гэта ложкі ў лінейку і зіхацячая падлога; гэта падніманне і адбой за трыццаць секунд; гэта старшыня, які гарлапаніць без перапынку ўсе дзесяць гадоў (старшыні перамяняліся, але крык так ні разу і не перапыніўся). Савецкая казарма – гэта даброты, на апісанне якіх адной кнігі ніяк не хопіць. Жывецца ў казарме лёгка, таму што кожнага жаўнера чакае дэмбель. «Дэмбель непазбежны, як крушэнне капіталізму!» – пісалі нашы жаўнеры на сьценах. Яшчэ лягчэй жывецца ў казарме курсанту, таму што яго чакае афіцэрскае званне, а да афіцэрскага звання шмат чаго дадаецца.

Кіраўнік ГУ ВПВ генерал-лейтэнант авіяцыі Павел Рычагоў сам прайшоў праз савецкую казарму, ён скончыў лётную школу ў 1931 годзе. У 1940 годзе генерал-лейтэнанту авіяцыі Рычагову 29 гадоў ад роду. У яго вушах, напэўна, і крык старшыні яшчэ не заціх. І вось ён прапануе Сталіну выпускнікам лётных і тэхнічных вучэльняў афіцэрскіх званняў не даваць, пасьля выпуску прысвоіць ім сяржанцкія званні і пакінуць на казарменным становішчы.

Той, хто ва ўзорнай казарме не жыў, ацаніць глыбіню гэтага зверства не ў стане. Савецкі курсант даходзіць да выпускання толькі таму, што на прыканцы тунэля – сьвятло. Савецкі курсант ідзе да выпускання, як ішак за морквай, якая для прынады перад носам на вяровачцы падвешана. Праўда, на прыканцы шляху яму тую моркву аддаюць. Але закончыць афіцэрскую вучэльню і той морквы на прыканцы шляху не атрымаць...

Тым курсантам, якіх бралі ў вучылішча ў 1940 годзе, не так крыўдна: іх вучылі грунтуючыся на кароткіх праграмах і нічога з самага пачатку не абяцалі. Але ў 1940 годзе шматлікія тысячы курсантаў заканчвалі лётныя вучэльні яшчэ грунтуючыся на ранейшых поўных трохгадовых праграмах. І вось непасрэдна перад выпускам, які сніўся кожнаму курсанту кожную ноч, яны атрымліваюць сталінска-рычагоўскі сюрпрыз: афіцэрскіх званняў не будзе. Самая пара закрычаць: «Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень!». Ішоў энтузіяст у афіцэрскую вучэльню, аддаў Радзіме юнацтва ў абмен на лейтэнанцкія кубары, а яму вусаты дзядзька пасьля выпускання абвяшчае: не будзе кубароў!

У мемуарах савецкіх лётчыкаў гэтую сітуацыю мы часта сустракаем: «Прыбыло маладое папаўненне. Гэта былі пілоты, скончыўшыя нармальныя ваенныя авіяцыйныя вучэльні з трохгадовы тэрмінам навучання, але атрымаўшыя пры выпусканні воінскія званні "сяржант". (Генерал-лейтэнант авіяцыі Л.В. Жолудаў. Стальная эскадрылля. с. 41).

А генерал-маёр авіяцыі В.А. Кузняцоў быў сярод тых, каго із афіцэрскага вучылішча выпусьцілі сяржантам. На пачатку вайны ён патрапіў у полк, які фармавалі ў тыле, і сустрэліся лётчыкі, якіх раней выпусьцілі лейтэнантамі, і тыя, якіх выпусьцілі крыху пазней сяржантамі. «У вялізнай казарме няўтульна. У два ярусы стаяць жалезныя жаўнерскія ложкі... У казарме вельмі цесна... Сяржанты з захапленнем і непрыхаванай зайздрасьцю пазіраюць на вішнёвыя кубікі і прыгожую, добра пашытую форму...»

А потым пастраенне. З'яўляюцца камандыр палка Мікалаеў і камісар Шведаў.

«Палкоўнік зрабіў некалькі крокаў, спыніўся, з нейкім здзіўленнем паглядзеў на строй, потым на Шведава і, паказваючы ў наш бок рукой, запытаў: "Хто гэта?"

Шведаў нешта адказаў. Мікалаеў моўчкі павярнуўся і пайшоў да штаба. За ім накіраваўся і камісар. «Птушаняты!» – Даляцела да нас ужо здалёк...». Вяртаецца камісар; «Камандыр палка незадаволены. Раўненнем ў пастраенні і знешнім выглядам. Худыя нейкія...». (Сярэбраныя крылы. с. 3-6).

Лётчыкі відавочна не сокалы. Недакормленные пеўнікі із інкубатара.

Калі называць рэчы сваімі найменнямі, то ў дачыненні да дзясяткаў тысяч маладых пілотаў Сталін з Рычаговым выкарысталі прыём дробных шулераў: растлумачылі пачынаючым правілы гульні, доўга гулялі, а потым на прыканцы гульні абвясьцілі, што правілы перамяніліся...

Але пакінем пытанні маралі. Пытанне юрыдычнае: на якой падставе трымаць пілотаў-сяржантаў у Чырвоным Войску? Выпускнікі 1940-1941 гадоў добраахвотна прыйшлі ў авіяцыйныя вучылішча і школы ў 1937-1938 гадах, калі усеагульнага воінскага абавязку не існавала. Да верасня 1939 года ў войска, авіяцыю і на флот забіралі толькі некаторых. Тэрмін службы ў авіяцыі быў роўны 2 гадам. У 1937-1938 гадах маладыя хлопцы добраахвотна выбралі замест двух неабавязковых гадоў жаўнераўчыны 3 катаржныя курсанцкі гады.

1 верасня 1939 года быў уведзены ўсеагульны воінскі абавязак і тэрміны службы павялічаны: у авіяцыі пачалі служыць па тры гады замест двух. Курсанцкія гады залічваюцца як сапраўдная вайсковая служба – дайце ім афіцэрскія званні і трымайце ў авіяцыі да самай пенсіі або адпусьціце дадому тры гады казармы яны адбылі. Больш адпаведна з законам не прызначана. Не прыдумаць падставу, адпаведна з якой іх можна трымаць у ваеннай авіяцыі, ды яшчэ і на казарменным становішчы, гэта азначае на становішчы нявольнікаў ў клетках.

Але Рычагоў прыдумаў. Сталін ўхваліў. Новы закон: тэрмін абавязковай службы ў авіяцыі павялічыць да 4 гадоў. Вярхоўны Савет аднагалосна прагаласаваў, і няма больш праблем: тэрмін службы ў авіяцыі 4 гады, а вы адбылі толькі па тры. Яшчэ год, дарагія таварышы.

Яшчэ год. А потым?

Пра вайну напісаны тэрыконы манаграфій і дысертацый, але ні ў адной мы не знойдзем адказ на пытанне пра тое, што ж Сталін задумаў рабіць з табунамі пілотаў, калі закончыцца год. На гэтае пытанне не толькі няма адказу, але яго ніхто і не паставіў. А пытанне цікавае. Хітрым заканадаўствам дзясяткі тысяч лётчыкаў пакінуты на казарменным становішчы да восені 1941 года. У 1941

годзе напаў Гітлер і гэтае пытанне вырашыў. Але нападу Гітлера Сталін не чакаў і ў яго не верыў. Што ж збіраўся Сталін рабіць са статкамі лётчыкаў пасьля восені 1941года?

Прысвоіць афіцэрскія званні ім немагчыма. У Сталіна і без іх амаль 600 тысяч афіцэраў, не лічачы НКУС. Акрамя таго, у 1941 годзе ваенныя вучыльні і курсы рыхтуюць выпуск 233 тысячы новых афіцэраў, у асноўным для пяхоты, артылерыі і танкавага войска, калі яшчэ і лётчыкам званні афіцэрскія даваць, то разам з НКУС у Сталіна будзе мільён афіцэраў. У Сталіна афіцэраў будзе амаль столькі, колькі ў цара Мікалая жаўнераў. Спусташэнне. Так што прысвоіць афіцэрскія званні выпускнікам лётных вучэльняў і школ немагчыма грунтуючыся на эканамічных меркаваннях.

І задумы такой у Сталіна не было: мы не знойдзем указанняў на тое, што планавалася або пачалося будаўніцтва кватэр для такой процьмы лётчыкаў, мы не знойдзем слядоў распараджэнняў пра масавы пашыў афіцэрскай формы для астранамічнай колькасьці лётчыкаў, мы не знойдзем у бюджэце мільярдаў, якія патрэбна было б выплаціць лётчыкам-выпускнікам ў выпадку прысваення ім афіцэрскіх званняў.

Дык што ж з імі рабіць восенню 1941 года? Выправіць па хатах? Накладна: тры гады рыхтавалі, выдаткавалі на падрыхтоўку мільярды, спалілі мільёны тон першасортнага бензіну, загубілі нямала самалётаў з курсантамі і інструктарамі, а зараз выправіць? Праз некалькі месяцаў лётчыкі страцяць навыкі, і ўсе намаганні пойдуць прахам.

А можа, выдаць яшчэ закон і трымаць іх у казармах пяты год і шосты, і сёмы, як нявольнікаў на галерах, прыкаваўшы ланцугамі да вясла, гэта азначае да самалёта? Добры варыянт, але не пройдзе. Лётчык павінен пастаянна лётаць. Прыкінем, колькі навучальных самалётаў патрэбна для такой процьмы лётчыкаў, колькі інструктароў, колькі бензіну кожны год паліць.

І заставалася ў Сталіна толькі адно выйсьце: пачынаць вайну ДА ВОСЕНІ 1941 ГОДА.

Простай была задума Сталіна: няхай пачынаюць вайну сяржантамі, некаторыя выжывуць, вось яны і атрымаюць афіцэрскія званні, яны стануць авіяцыйнымі генераламі і маршаламі. А большасць ляжа сяржантамі. За забітага сяржанта сям'і грошай плаціць не патрэбна. Эканомія.

Падрыхтоўка лётчыкаў у такіх колькасьцях – гэта мабілізацыя. Татальная. Пачаўшы мабілізацыю, мы прыйдзем да эканамічнага краху або да вайны. Сталін гэта разумеў лепш за ўсіх. Эканамічны крах у яго планы не ўваходзіў.

А зараз паглядзім на гэтую сітуацыю вачамі маладога хлопца, якога выпусьцілі восенню 1940 сяржантам. У адпачынак пасьля заканчэння вучылішча не пусьцілі, грошай не далі, форма жаўнерская, жыве ў казарме, спіць на жаўнерскім ложку, жуе кашу жаўнерскую, ходзіць у кірзавых ботах (скураныя боты са склада загадалі пагрузіць у вагоны, перавезьці да заходняй мяжы і там вываліць на грунт). Наш сяржант не заклапочваецца. Ён можа і ў кірзавых ботах лётаць.

Трывожыць яго іншае: абраў прафесію на ўсё жыццё, вырашыў стаць афіцэрам-лётчыкам, адтрубіў тры гады ў вучэльні, прызначылі дадатковы год, ён заканчваецца восенню 1941 года, а што потым? Сябры, з якімі ён у школе

вучыўся, за чатыры гады набылі прафесіі, сталі на ногі, хто следчым НКУС працуе, зубы ворагам народа напільнікам сточвае, хто інжынерам на танкавым заводзе, а ён застаўся ў дурнях. Тры гады вучыўся, год адслужыць і застанецца ні з чым. Навошта лётаў? Навошта жыццём рызыкаваў? Навошта начамі формулы зубрыў? Вырашыў жыццё аддаць авіяцыі, і добра б было, калі б тады, у 1937 годзе, яму адмовілі, а то прынялі, чатыры гады змарнаваў, і зараз восенню 1941 года выганяць із авіяцыі і із войска. Каму яго прафесія лётчыка-бамбардыра патрэбна? У грамадзянскую авіяцыю ісьці? Там сваіх падзець няма куды.

Вось і падумаем, ці будзе сяржант-выпускнік свайму малодшаму брату раіць авіяцыйную прафесію? Без парад зразумела: няма чаго ў авіяцыйныя вучэльні ісьці, нічога тыя вучыльні не даюць, лётаеш, лётаеш, а на прыканцы атрымліваеш незразумела што.

Які ж дурань пасьля ўсяго гэтага пойдзе ў лётнае вучылішча? Каму патрэбна вучыцца ў афіцэрскай вучэльні і застацца жаўнерам? Каму патрэбна вучыцца і мець у выніку поўную нявызначанасць? А Сталін з Рычаговым ідуць далей. Не толькі лётчык зараз сяржант, але і старэйшы лётчык – сяржант, і камандыр звяна – сяржант, і намеснік камандыра эскадрыллі – сяржант. Столькі авіяцыйных эскадрылляў і палкоў стварылі, што краіна здольна даць афіцэрскія прывілеі толькі камандырам эскадрылляў і вышэй. А ўсіх лётчыкаў і камандыраў звенняў і нават намеснікаў камандыраў эскадрылляў з вясны 1941 – на казарменнае становішча. Пад крык старшыні.

Дык хто ж пасьля ўсяго гэтага добраахвотна пойдзе ў лётную вучыльню?

Каму такая рамантыка патрэбна?

Таварышы Сталін і Рычагоў і гэта прадбачылі. І таму загад ад 7 сьнежня 1940 прадугледжваў не толькі выпусканне лётчыкаў сяржантамі, але і адмову ад добраахвотнага прынцыпу камплектавання лётных вучэльняў. Такога ў гісторыі сусьветнай авіяцыі не было. Спадзяюся, не паўторыцца.

7 снежня 1940 года ў Савецкім Звязе быў уведзены прынцып прымусовага камплектавання лётных школ. ГЭТА ВАЙНА.

Ні адна краіна сьвету не адважылася на такі крок нават падчас вайны. Людзі ўсюды лётаюць добраахвотна.

Наладжванне прынцыпу прымусовага камплектавання лётных школ – не проста вайна, але вайна ўсеагульная і вайна агрэсіўная. Калі ў абарончай вайне мы прымушаем чалавека лётаць, дабром гэта не скончыцца, у небе ён вольная птушка – паляціць да суперніка, у палоне яго ніхто лётаць не прымусіць.

Выкарыстоўваць лётчыкаў-нявольнікаў можна толькі ў пераможнай, наступальнай вайне, калі мы нанеслі раптоўны ўдар па аэрадромах праціўніка і танкавыя кліны рэжуць варожую зямлю. У гэтай сітуацыі лётчыку-нявольніку няма сэнсу бегчы: праз некалькі дзён усё адно ў лапы НКУС патрапіш.

Тут самы час запытаць, а ці можна лётчыка-нявольніка навучыць лётаць, калі ён гэтага не жадае? Ці можна навучыць вышэйшаму пілатажу нявольніка ды яшчэ за тры-чатыры месяцы, якія Сталін з Рычаговым ў снежні 1940 адвялі на падрыхтоўку? Нельга.

Але вышэйшы пілатаж ім не быў патрэбным. Іх жа не рыхтавалі да вайны абарончай. Іх жа не рыхтавалі да адбівання агрэсіі і вядзення паветраных баёў. Іх рыхтавалі на самалёт «Янаў», спецыяльна для такога выпадку распрацаваны. Іх

рыхтавалі да сітуацыі: паднімаемся на досьвітку, ідзём шчыльным згуртаваннем за лідэрам, адпаведна з яго камандай скідаем бомбы на «спячы» аэрадромам, павольна разварочваемся і вяртаемся.

Гэтаму можна было навучыць за тры-чатыры месяцы нават нявольніка, тым больш, што «Янаў» Су-2 менавіта на такіх лётчыкаў і разлічаны. І калі хто пры пасадцы стукнецца ў дрэва – не бяда: сяржантаў-лётчыкаў ў таварыша Сталіна ў дастатку. І самалётаў «Янаў» савецкая прамысловасць рыхтавалася даць у дастатку. Так што вырашылі абысьціся без вышэйшага пілатажу і без паветраных баёў.

Менавіта тады і прагучаў лозунг генерал-лейтэнанта авіяцыі Паўла Рычагова, з якім ён і ўвайшоў у гісторыю: «Не будзем фігураць!»

# Глава XIX

## Пра Пашу Ангеліну і працоўныя рэзервы

«Мабілізацыйная гатоўнасць патрэбна не толькі для вайсковых заводаў, а і для ўсёй прамысловасьці: у ваенны час уся прамысловасць будзе ваеннай».
І.Сталін, 1940

Пашу Ангеліну ведала ўся краіна. Паша Ангеліна ўсміхалася з першых старонак газет і часопісаў. Не, яна – не актрыса. Паша Ангеліна – першая ў краіне жанчына-трактарыст і брыгадыр першай жаночай трактарнай брыгады. Не толькі працавітасьцю, але і мудрасьцю славілася яна. Журналісты табунамі хадзілі за яе трактарам, і не раз яе думкі станавіліся кідаючыміся ў вочы загалоўкамі на першых палосах цэнтральных газет: «Патрэбна лепш працаваць!», «Патрэбна працаваць лепш!», «Працаваць лепш патрэбна!» і г.д.

Але сапраўдная слава прыйшла да Пашы Ангелінай напярэдадні вайны, калі наменклатурная трактарыстка кінула ў масы новы лозунг: «Сто тысяч сяброўак – на трактар!». Не ведаю, сама Паша прыдумала ці нехта падказаў, але савецкая прэса яго падхапіла, шматкроць памножыла, і загрымеў заклік над краінай з высокіх і нізкіх трыбун, з газетных палос, з мільёнаў рэпрадуктараў. Кліч быў пачуты, і вось на працягу кароткага часу ў Савецкім Звязе было падрыхтавана не сто, а дзьве сотні тысяч жанчын-трактарыстаў. (Вялікая Айчынная вайна. Энцыклапедыя. с. 49).

Тут я абавязаны асабліва падкрэсліць, што гаворка ідзе пра мірныя трактары, араючыя неабсяжныя палі нашай бязмежнай Радзімы: хай наша вялікая Радзіма квітнее вясновымі садамі, хай на яе ўрадлівых палях мірна буркаюць трактары, пакорлівыя ласкавым жаночым рукам.

Зараз згадаем пра мужчын. Калі «дзьвесце тысяч сяброўак» упэўнена занялі месцы за рычагамі сельскагаспадарчых трактароў, вызваліўшы дзьвесце тысяч мужчын-трактарыстаў, то што ж бедным мужчынам рабіць?

Пра мужчын не турбуйцеся. Пра мужчын турбуецца Генеральны штаб. Так ужо атрымалася (чыстая выпадковасць, вядома), што заклік Пашы Ангелінай да жанчын дакладна супаў з пачаткам таемнай мабілізацыі Чырвонага Войска, якому у той момант вельмі былі патрэбнымі сто тысяч, а потым яшчэ сто тысяч вопытных мужчын-трактарыстаў на танкі, артылерыйскія цягачы, цяжкія

інжынерныя машыны. «Вызваленчыя паходы», якія вяло Чырвонае Войска ў 1939-1940 гадах, гэта не толькі стварэнне зручных плацдармаў для захопу Яўропы, гэта не толькі праверка тэорый і планаў «у абставінах максімальна набліжаных да баявых», «вызваленчыя паходы» і малыя вайны – гэта прыкрыццё вялікай мабілізацыі. Сёння, напрыклад, «вызваляем» Польшчу – у той савецкай вёсцы забралі ў войска траіх трактарыстаў, ды ў гэтай – пецярых. Быў нават фільм такі – «Трактарысты», з дэманстрацыяй наступальнай моцы танкаў БТ-7.

«Паход» пераможна завяршаецца, а трактарысты ў свае вёскі ўжо не вяртаюцца, застаюцца ў Чырвоным Войску. Замест іх за рычагі сельскагаспадарчых трактароў сядаюць сяброўкі. А заўтра «вызваляем» Фінляндыю – і зноў там забралі дзясятак трактарыстаў, ды тут – дзесятак, а на іх месцы – клапатлівыя сяброўкі. Вось так паволі, непрыкметна «дзьвесце тысяч сяброваk» запрэгліся ў ярмо мірнай працы, вызваліўшы моцных, дасьведчаных мужчын-трактарыстаў для спраў больш важных...

А ў Пашы Ангелінай знайшліся пераймальнікі. І вось здзіўлены сьвет даведваецца пра першую жаночую паравозную брыгаду. Выявілася, што савецкая жанчына здольна кідаць вугаль у паравозную печ не горш чым мужык. І на торфараспрацоўцы савецкія жанчыны не сплахавалі. Высветлілася, што і на будаўніцтве чыгунак (якія незразумела для чаго цягнулі да заходняй мяжы) савецкая жанчына здольна цягаць на сабе не толькі шпалы, але і рэйкі. Праўда, іх дзясяткамі ў адну рэйкі запрагалі. Але нічога! Цягнуць!

Генерал-палкоўнік інжынерна-артылерыйскай службы Б.Л. Ваннікаў (у той час Наркам абарончай прамысловасьці ЗССР, сябра ЦК партыі) сведчыць: «На пачатку 1940 года жанчыны складалі 41 адсотак ўсіх працаўнікоў і служачых у прамысловасьці. Яны хутка асвойвалі вытворчасць на самых адказных і складаных участках, а на шмат якіх аперацыях дзейнічалі нават больш спрытна, чым мужчыны». («Пытанні гісторыі», 1969, №1, с. 128).

Тое ж самае паўтарыў Маршал Савецкага Звязу Д.Ф. Усцінаў у сваёй кнізе «У імя перамогі» (с. 107), а Маршал Савецкага Звязу с.К. Куркоткін у сваёй – «Тыл Савецкага Ўзброенага Войска ў Вялікай Айчыннай вайне» (с. 23). А мяне здзівіла, чаму гэта вялікія начальнікі кажуць пра пачатак 1940 года?

Было б больш цікава пра пачатак 1941 года, а лепш за ўсё – пра сярэдзіну 1941 года.

Але пра гэта маўчаць. Працэс ішоў па нарастаючай. І калі надрукаваць лічбы на момант германскага нападу, то непазбежна паўстане пытанне: а чым жа былі заняты савецкія мужчыны, куды гэта яны падзеліся?

Але ці далёка заедзеш на адных жанчынах і іхным энтузіязме? Ці не час таварышу Сталіну запрагаць і падлеткаў? Пара.

У савецкіх музеях вам пакажуць здымкі ваеннага часу: худы хлопчык кіруе вялізным станком. Гарматныя снарады точыць. Норму перавыконвае. А каб рукі да рычагоў дасталі, пад ногі клапатліва дзьве снарадныя скрыні падстаўлены. Ах, які энтузіязм! Ах, які патрыятызм!

Але ў музеі вам не паведамяць, што падлеткаў гналі на ваенныя заводы сотнямі тысяч і мільёнамі прымусова ДА нападу Гітлера.

Давайце адкрыем газету «Праўда» за 3 кастрычніка 1940 года і на першай старонцы прачытаем дзіўнае паведамленне пра ўвядзенне платы за навучанне ў

вайсковай акругі. Далей ідуць ваенная акадэмія і пасады: камандыр палка ў 1-й Маскоўскай Пралетарскай стралковай дывізіі, даручэнец Народнага камісара па вайсковых і марскіх справах, вяртанне на камандную працу, на тую ж пасаду – камандыр палка ў 1-й Маскоўскай пралетарскай, далей – намесьнік камандыра гэтай дывізіі, праз кароткі час – камандыр гэтай лепшай дывізіі Чырвонага Войска. Пасьля – даручэнец Наркама абароны ЗССР.

У 1940 годзе ў Чырвоным Войску ўведзены генеральскія званні. Рафаіл Хмяльніцкі атрымлівае званне генерал-лейтэнанта, у тыя часы – тры зоркі. Вясной 1941 года генерал-лейтэнант Хмяльніцкі прызначаны камандырам 34-га стралковага корпуса – самага моцнага із усіх стралковых карпусоў Чырвонага Войска.

Падчас вайны – знаходзіўся ў распараджэнні вайсковай рады Ленінградзкага і Паўночна-Заходняга франтоў. Пачынаючы з 1942 года быў кіраўніком упраўлення забеспячэння ў Цэнтральным штабе партызанскага руху. Потым ідзе пасада генерала для асобных даручэнняў пры намесьніку Наркама абароны, і на самым заканчэнні вайны генерал-лейтэнант Рафаіл Хмяльніцкі быў кіраўніком выставы узораў трафейнага ўзбраення. Пад час Другой Сусьветнай вайны Хмяльніцкі ніяк сябе не праявіў – пачаў яе у званні генерал-лейтэнанта і завяршыў у тым жа званні.

Біяграфія складзена так, што прачытаўшы яе, мы зяўнем і паравернем старонку: генерал, герой, нічога больш. А ў мяне даўняя нянавісць да ад'ютантаў і даручэнцаў. Генерал-лейтэнант Хмяльніцкі пастаянна на працягу ўсёй сваёй службы, як зачараваны, вяртаецца да пасады афіцэра (потым генерала) для даручэнняў асаблівай важнасьці. Гэтае пастаянства мяне неяк невядома чаму трывожыла. І яшчэ: камандырская кар'ера не натуральная. Першая камандырская пасада – камандыр палка: ні ўзводам, ні ротай, ні батальёнам не кіраваў, а так адразу на полк. І не на просты полк. 1-я Маскоўская Пралетарская стралковая дывізія – гэта «прыдворная», сталічна-парадная дывізія: замежныя госьці, агляды, ўрачыстасьці, паказуха. Служба ў «прыдворных» дывізіях своеасаблівая.

Вялікі гонар для афіцэра туды патрапіць, усё жыццё потым пры атэстацыі у ззяючым арэоле зіхаціць нумар той дывізіі. Служыць там і лёгка і цяжка. З аднаго боку – людзі на падбор, няма ў дывізіі худых, хваравітых жаўнерыкаў, не разумеючых рускую мову, няма старой зношанай зброі, няма праблем з забеспячэннем і размяшчэннем войска. З другога боку, сапраўднай баявой падрыхтоўкі таксама няма. Замест яе – паказуха ці падрыхтоўка да наступнай паказухі, «балет», як выказваюцца ў Чырвоным Войску. У Хмяльніцкага із пяці камандырскіх прызначэнняў чатыры – у сталічнай-прыдворнай-балетнай дывізіі. І доўга не трымаўся. Пасаду займаў на некалькі тыдняў, а потым на доўгія гады вяртаўся на пасаду адзьютанта-сакратара-даручэнца.

Доўга не давала мне спакою біяграфія Хмяльніцкага, я не мог зразумець, чым яна мяне трывожыць. А потым пробліск: дык гэта ж цень біяграфіі Варашылава!

Глянем яшчэ раз на біяграфію Хмяльніцкага, толькі зараз на фоне кар'еры Маршала Савецкага Звязу К.Е. Варашылава.

Такім чынам, сябар Вайсковай рады Першай коннай арміі Клімент Варашылаў дзесьці на Грамадзянскай вайне сустракае невядомага партыйнага

агітатара і робіць сваім сакратаром. Сакратар прыжыўся. Назаўжды. Не будзем гадаць, як сакратар Хмяльніцкі ваяваў, але першы ордэн ён атрымаў пасьля разгрому савецкага войска ў Польшчы. За час Грамадзянскай вайны было тры масавыя раздачы ўзнагарод, калі ордэны раздавалі кошыкамі.

Першы раз – у Польшчы. Патрэбна было ганьбу паразы замазаць гераічнымі подзвігамі. Бягучаму з фронта войску давалі ўволю ордэнаў. І тут, у агульным спісе, загадам РВР[11] Першай коннай, Хмяльніцкі трапляе ў шэрагі герояў. Не то на машынцы добра стукаў, не то – алоўкі гераічна заточваў, не то яшчэ за нейкія паслугі. Згодна з існуючым тады парадкам, у загадзе павінны былі быць падрабязна выкладзены абставіны гераічнага вычыну, але ў дадзеным выпадку падрабязнасьці не выкладзены. Замест падрабязнага апісання – «за адзнакі ў баях сакратару сябра РВР». Нядобра герояў падазраваць, але ці не сам сакратар прадстаўленне на сябе і друкаваў?

Загад пра ўзнагароджванне Хмяльніцкага Варашылаў падпісваў двойчы: у 1919 (яшчэ да паразы ў Польшчы) і ў 1920 годзе. Выдаць ордэн атрымалася з другога разу. Але Масква не зацвердзіла рашэнне. Тры гады Хмяльніцкі насіў свой першы ордэн як бы напалову лягальна, Варашылаў ўзнагародзіў, Масква не зацьвердзіла. Рашэнне было зацьверджана толькі 16 кастрычніка 1923 г.

Другая масавая раздача ордэнаў была пасьля падаўлення Кранштацкага мецяжу. На падаўленне кінулі адданых. Кранштацкія зверствы выдалі за баявую аперацыю і за карніцкія заслугі ўзнагароджвалі, як за баявыя. І зноў ардэноў адсыпалі. На расправе быў і Варашылаў з сакратаром. Варашылаву – другі ордэн. Сакратару – другі. Апісанне гераічных здзяйсненняў зноў адсутнічае, невыразна сказана: «натхняў байцоў». Так Хмяльніцкі стаў двойчы героем. І ёсць фатаграфія: Ленін з удзельнікамі падаўлення. Справа ад Леніна мардаты, з двума баявымі ордэнамі. Гэта як раз і ёсць рэвалюцыйны герой Рафаіл Хмяльніцкі. А ззаду Леніна – Варашылаў.

І яшчэ была адна масавая раздача – пры знішчэнні мужыкоў Тамбоўскай губерніі. Але наш герой там не быў, а то атрымаў бы і трэцці ордэн.

Пасьля Грамадзянскай вайны Варашылава прызначаюць камандуючым Паўночна-Каўказскай вайсковай акругай. Хмяльніцкі пры ім – выконвае асабліва важныя даручэнні. Мне давялося пабачыць адз'ютантаў і даручэнцаў. Так, часам яны выконваюць даручэнні асаблівай важнасьці. Але наогул – праца халуйская. Варашылаў – халуй і халуёў вакол сябе пладзіў. І патрэбна было быць прыроджаным халуём, каб пры Варашылаве трымацца. Хмяльніцкі трымаўся. Але было нешта і акрамя халуйства: Хмяльніцкі меў мянушку Руда і не саромеўся яе. Калі б ён прыйшоў у рэвалюцыю із камуністычнага падполля, то можна было б палічыць мянушку за партыйны псеўданім, накшталт «Таварыш Яўлампій». Але дакастрычніцкі партыйны стаж Руды не праглядаецца. Відавочна блатныя ноткі ў мянушцы Хмяльніцкага не бянтэжылі ні Варашылава, ні самога Сталіна. Варашылаў – басяк па мянушцы Валодзька, а сталінскі крымінальны псеўданім Коба выглядае як родны псеўданіму Хмяльніцкага. Коба і Руда.

Так што Руда быў цалкам у сваім коле. У 1924 годзе Сталін перацягвае Варашылава ў Маскву, прызначае камандуючым Маскоўскай вайсковай акругай.

[11] Рэвалюцыйная Вайсковая Рада.

Лёгка здагадацца, як перамяніўся лёс Хмяльніцкага. Правільна. У штабе Маскоўскай вайсковай акругі яму знайшлі месца. Ненадоўга Хмяльніцкі адлучаецца ў акадэмію – дыплом справа важная – і вяртаецца на тую ж пасаду – даручэнец Варашылава. Потым Руда атрымлівае полк у Маскоўскай Пралетарскай стралковай дывізіі. Усім зразумела – вось прыйшоў новы камандыр палка, прыйшоў для таго, каб адзначыцца, каб адбыць нумар, каб у характарыстыцы з'явіўся запіс: «кіраваў палком». Колькі тыдняў кіраваў нікога не цікавіць. Галоўнае, у атэстацыі зафіксавана: кіраваў. Калі б гэта спатрэбілася для атэстацыі, Варашылаў мог бы прызначыць свайго халуя кіраваць чым заўгодна, хоць крэйсерам. І не пабаяўся б Варашылаў даць Хмяльніцкаму не проста крэйсер, а лепшы із крэйсераў. І мог бы Хмяльніцкі на капітанскім мастку не з'яўляцца і загадаў не аддаваць. Лепш, калі б не з'яўляўся: памочнікі, разумеючы, што за птушка заляцела, справіліся б і без яго – абы працаваць не перашкаджаў. Так і ў палку ўсім зразумела, што «адкамандаваўшыся», павінен Хмяльніцкі вярнуцца на кругі свая. Я гэтую сістэму назіраў у росквіце, у часы Брэжнева, калі працаваў у Жэневе. Прыбывае із Масквы дыпламатычная дэлегацыя. У дэлегацыі некалькі працаўнікоў-дыпламатаў. А паміж імі дзеткі сяброў Палітбюро. Таксама дыпламаты. Працай дзетак не абцяжарвалі: абы не заміналі. І самі дзеткі да працы не імкнуліся. А характарыстыкі ім пісалі салодзенькія, і савецкі амбасадар Зоя Васільеўна Міронава падпісвала ініцыятыўныя, усебакова падрыхтаваныя і інш. і інш. Глянеш у паслужны спіс такога «дыпламата» – ты глядзі: прайшоў і Парыж, і Вашынгтон, і Нью-Ёрк, і Вену, і Жэневу, ды на якой пасадзе: то Брэжнева суправаджаў, то Грамыку, то яшчэ каго. Адным словам, перспектыўны, падаючы надзеі, вопытам назапашаны, пара вылучаць...

Пры Брэжневе гэта квітнела. А тады, пад час дваццатых-трыццатых, сістэма толькі нараджалася. Але і тады прыёмы кар'ернага прапіхвання выразна пазначыліся: Хмяльніцкі трапляў у войска на камандырскія пасады, не перамяняючы сваёй маскоўскай кватэры, не аддаляючыся ад урадавых дач. На полк вярнуўся яшчэ разок, адзначыўся, пабываў намесьнікам камандыра дывізіі і камандырам. У 1940 годзе ўвялі генеральскія званні, і Хмяльніцкі – генерал-лейтэнант. Шмат, вядома, для былога камандыра дывізіі, але нічога, перажыў. Для даручэнца таксама шмат. У тыя часы ў Чырвоным Войску званнямі не кідаліся. На дывізіях – палкоўнікі ці генерал-маёры. Камандыры карпусоў – генерал-маёры. Бывала, што і на карпусах стаялі палкоўнікі. Напрыклад: І.І. Фядзюнінскі, К.Н. Смірноў, В.А. Судзец, Н.С. Скрыпко. Генерал-лейтэнант – гэта ці камандуючы вайсковай акругай, ці камандуючы арміяй, ды і то не заўсёды; некаторыя камандуючыя арміямі былі ў той час генерал-маёрамі, як М.І. Патапаў.

Увогуле не пашкадаваў Варашылаў генеральскіх зорак свайму халую. Так герой Грамадзянскай вайны стаў вайсковым правадыром.

Зацікавіўшыся асобай Хмяльніцкага, зноў перагартаў мемуары савецкіх генералаў, адміралаў, маршалаў і здзівіўся: ды як жа я раней Хмяльніцкага не заўважаў. А ён жа прысутнічае ва ўспамінах шмат каго. Кожнае апавяданне пра прыём у Варашылава пачынаецца з апісання прыёмнай, у якой сядзіць Хмяльніцкі.

Генерал-маёр П.Г Грыгарэнка згадвае, як перад вайной папрасіў асабістай сустрэчы з наркамам абароны. «А ў чым наша пытанне?» – цікавіцца Хмяльніцкі, і прынімае рашэнне: няма патрэбы такім пытаннем трывожыць Варашылава, дастаткова сустрэчы з Тухачэўскім.

Галоўны маршал артылерыі М.М. Воранаў згадвае, як у 1936 Мусаліні выпраўляў італійскіх фашыстаў для захопу Абісініі. Мусаліні наладзіў пышную цырымонію провадаў. На цырымоніі – замежныя ваенныя дэлегацыі. Самая прадстаўнічая, гэта зразумела, не ад фашысцкай Няметчыны, а ад Савецкага Звязу. Воранаў гэта асабліва падкрэслівае. У дэлегацыі, акрамя самога Воранава, Гарадавікова і Лапаціна – наш герой Хмяльніцкі. (На службе ваеннай. с. 76-77). У нас з фашыстамі ўжо тады існаваў падзел працы: ваюйце ў Абісініі, праз некаторы час мы туды прыйдзем і наладзім такую сацыяльную справядлівасць, што сьвет здрыганецца, гледзячы на дзяцей-шкілетаў. Нашы сацыяльныя пераўтварэнні абернуцца Афрыцы больш вялікім горам, чым фашысцкая агрэсія...

Але вернемся да нашага героя. Адмірал Флота Савецкага Звязу Н.Г Кузняцоў згадвае, як перад вайной яго выправілі ў Гішпанію. Усё пачынаецца з сустрэчы з Хмяльніцкім... Кузняцоў вяртаецца із Гішпаніі – і зноў перш за ўсё да Хмяльніцкага. Праходзіць крыху часу – Кузняцава прызначаюць намесьнікам камандуючага Ціхаакіянскім флотам – і зноў сустрэча з Хмяльніцкім. Кузняцоў сяброваў з Хмяльніцкім: «... мяне падштурхоўваў Руда, як мы ў сваім коле называлі Хмяльніцкага». (Напярэдадні. с. 175). Не, не, не на пасаду праштурхнуў, праштурхнуў на сустрэчу з Варашылава. І ўсё ж патрэбна было з Рудай быць у добрых дачыненнях: не кожнага ж ён на сустрэчу праштурхоўваў.

Маршал Савецкага Звязу К.А. Мерацкоў таксама згадвае, як вярнуўся з Гішпаніі – перш за ўсё візіт да Хмяльніцкага. Хмяльніцкі запрашае Мерацкова прайсьці ў вялікую залу. Тут збіраюць усіх, хто патрапіўся пад руку: важнае мерапрыемства – асудзіць ворагаў народа, Тухачэўскага з партнёрамі. (На службе народу. с. 166). Мерацкаў не паведамляе, як ён вёў сябе асабіста, але пасьля нарады, Мерацкова крута панесла ўверх, і неўзабаве ён заняў пасады кіраўніка Генеральнага штаба і намесьніка Наркама абароны, тыя самыя, якія раней займаў Тухачэўскі... Вельмі было важна дэманстраваць адданасць не толькі ў прысутнасьці Сталіна або Варашылава, але і ў прысутнасьці іхных сакратароў-адзьютантаў-даручэнцаў.

А вось Жукаў ляціць на Халхін-Гол. Сустрэча з Варашылавым, але папярэдне – з Хмяльніцкім. Важны быў чалавек...

А потым напаў Гітлер. Але на вайне генерал-лейтэнант Хмяльніцкі крыві не праліваў і жыццём не рызыкаваў. Напачатку вайны – дзікі недахоп генералаў. Заходнім фронтам (а гэта чатыры арміі) кіруе генерал-лейтэнант А.І. Яроменка, Паўночна-Заходнім фронтам (тры арміі) кіруе генерал-маёр (!) П.П. Сабеннікаў. А генерал-лейтэнант Хмяльніцкі – сядзіць у распараджэнні камандуючага Ленінградзкім фронтам. Гэта азначае: не адказвае ні за што. А чаму ў Ленінградзе? Ды таму, што туды паслалі Варашылава, а Хмяльніцкага Варашылаў за сабой цягне. Назваць Хмяльніцкага даручэнцам Наркама абароны было можна, але назваць даручэнцам камандуючага фронтам нязручна: генерал-

лейтэнант на пабягушках у камандуючага фронтам, калі ніжэйшыя па званні самі франтамі кіруюць.

Таму фармулёўка – у распараджэнні...

У Піцеры Варашылаў аскандаліўся. Ленінградзкім фронтам Варашылаў кіраваў няпоўныя сем дзён, пачынаючы з 5 да 12 верасня 1941 года. І давялося тэрмінава замяніць Жукавым. Але выгнаць Варашылава Сталін не мог: дутая слава Варашылава ў Грамадзянскай вайне злучана з дутай славай самога Сталіна. Абвясьціць Варашылава крэтынам – наступіць сабе на хвост. І таму Варашылаў – як бы ў распараджэнні Сталіна, гэта азначае не адказвае ні за што, а Хмяльніцкі – у распараджэнні Варашылава.

Потым Сталін прыдумаў Варашылаву пасаду – Галоўнакамандуючы партызанскім рухам. Партызанамі кіраваць не патрэбна, партызаны самі ведаюць, што ім рабіць. У біяграфіі Варашылава так апісана гэтая заслуга: «Асабіста інструктаваў камандыраў партызанскіх атрадаў». (Савецкая ваенная энцыклапедыя. Т. 2. с. 364). Ах, праца не пыльная!

Генерал арміі С.М. Штэменка кароткім мазком, без жадання пакрыўдзіць, апісаў асабісты цягнік «пралетара» Варашылава: утульныя вагоны, з густам падабраная бібліятэка... Варашылаў учыніў Штэменку цэлы экзамен... не, не па стратэгіі і не па тактыцы, а па рэпертуару Вялікага тэатра. Сам Варашылаў вялікі аматар оперы і балета і пры выпадку паважаў кожнага ніжэйстаячага папракнуць у адсутнасьці культуры...

Фронт, вайна, гінуць людзі, краіна галадае. Генеральны штаб працуе адпаведна з прызначаным Сталіным кругласутачным графікам, у афіцэраў і генералаў Генштаба вейкі зліпаюцца ад недасыпання. Штэменка выпадкова патрапіў у цягнік Варашылава і жадаў толькі выспацца, але не, рабі справаздачу культурнаму маршалу.... А яшчэ ў тым ўтульным вагоне спецыяльны халуй-палкоўнік забаўляе Варашылава чытаннем класікаў літаратуры: «Кітаеў чытаў добра, і на твары Варашылава адбівалася асалода» (Генеральны штаб пад час вайны. с. 207).

Цяпер ўявім бруднага, галоднага, не брытага камандыра партызанскага атрада, які шмат дзён блытаў сляды па лясах і балотах, адводзячы свой атрад ад карнікаў. І вось загад: прыбыць да пана Варашылава. Цэлая аперацыя: праз фронт гоняць самалёт, вогнішчамі паляну пазначаюць, вязуць камандыра на Вялікую зямлю. І вось ён у салон-вагоне: дываны, люстэркі, паліраванае чырвонае дрэва, бронза зіхаціць, а за вакном вецер раве, імгла. Салодка выспаўшыся, добра паеўшы і папіўшы Варашылаў удалечыні ад фронту і карнікаў асабіста інструктуе... А потым партызанскага камандыра – у самалёт, зашпілі рамяні, ўзлятаем, праходзім лінію фронту, прыгатовацца... пайшоў!

Вось у тым самым эшалоне, побач з праслаўленым культурным пралетарскім маршалам і наш герой жыве. Варашылаў – над усімі партызанамі галоўнакамандуючы, Хмяльніцкі – у штабе партызанскага руху кіраўніком упраўлення забеспячэння. Не хачу дрэнна нагаворваць, але із усіх забеспячэнскіх пасад лепш за ўсё займацца забеспячэннем партызан: ва ўсякім разе, нястачы не будзе, матэрыяльныя каштоўнасці тысячамі тон ідуць за лінію фронту, кідаюць іх у цемру і распісак ў атрыманні не патрабуюць...

На прыканцы вайны, калі Варашылаву справаў ужо наогул не знаходзілася, прызначылі яго на дыпламатычную працу: гасьцей замежных сустракаць, выпраўляць, частаваць, хваліцца перамогамі. Генерал дэ Голь сведчыць, што ў час вайны прыёмы ў Маскве здзіўлялі непрыстойным багаццем і ўражваючай раскошай. Знайшлі працу і Хмяльніцкаму – кіраўнік выставы трафейнага ўзбраення: шаноўныя заморскія госьці, паглядзіце направа, паглядзіце налева... Хаця гэта і экскурсавод можа рабіць.

Галоўнае ў іншым: дазволіў Сталін савецкаму жаўнеру рабаваць Яўропу. Называлася гэта – «браць трафеі». І пайшло рабаванне. Аляксандр Твардоўскі ў паэме «Васіль Цёркін» рабаванню ў Няметчыне прысьвяціў цэлую главу і атрымаў Сталінскую прэмію першай ступені. Рабавалі тады жаўнеры, рабавалі сяржанты і старшыні, рабавалі афіцэры, генералы, маршалы.

Але больш за ўсіх рабавала савецкая дзяржава. Дзяржаўны рабаўнік быў апрануты ў форму трафейнай службы. Пасьведчанне трафейнай службы давала ўлада: не дзеля сябе бяру, для рабоча-сялянскага дзяржавы. Трафейная выстава была часткай трафейнай службы. Не скажу дрэннага пра Хмяльніцкага, але яго шэф, культурны Варашылаў, быў прагным да высокага мастацтва, і таму Хмяльніцкі стаптаў Яўропу, сапраўды як партызанскі камандыр бранскія лясы. Цяжкая праца Хмяльніцкага, але дастаўляла задавальненне: генерал-лейтэнант, не абцяжараны баявымі абавязкамі, з батальёнам «трафейнай службы» шнырае па Яўропе, у кішэні дакумент трафейнай службы і рэкамендацыі Варашылава... Адным словам, недзе Хмяльніцкі пераступіў мяжу прыстойнасьці і быў адстаўлены ад Варашылава, а потым звольнены па хваробе.

У гэтай гераічнай біяграфіі існуе выключэнне, дзеля якога ўсю гісторыю давялося паведаміць.

З моманту першай сустрэчы Варашылаў і Хмяльніцкі не разлучаліся. Часам Варашылаў выпускаў Хмяльніцкага за мяжу да фашыстаў у госьці. Але гэта не іншая праца, а працоўны візіт. Часам Хмяльніцкі сыходзіў на кароткі час пакіраваць палком або дывізіяй, але і полк і дывізія ў Маскве. І ў акадэміі Хмяльніцкі вучыўся, мякка кажучы не цалкам, аддаючы больш часу асноўнай працы. І толькі аднойчы здарылася выходзячае за межы звычайнага. Вясной 1941 года першы і адзіны раз Варашылаў і Хмяльніцкі разлучаюцца. Варашылаў ў Маскве, а генерал-лейтэнант Хмяльніцкі атрымлівае пад сваё кіраванне 34-ы стралковы корпус 19-й арміі. У Чырвоным Войску ў той час было: 29 механізаваных карпусоў (у кожным па 3 дывізіі); 62 стралковыя карпусы (па 2-3 дывізіі, вельмі рэдка – 4); 4 кавалерыйскія карпусы (па 2 дывізіі); 5 паветрана-дэсантных карпусоў (у іх складзе дывізій не было); 5 авіяцыйных карпусоў ў складзе ВПВ (па 3 дывізіі); 2 карпусы СПА (у іхным складзе дывізій не было). Із усёй гэтай сотні 34-й стралковы корпус выключэнне – 5 дывізій. Дзіўны корпус і тым, што на чале генерал-лейтэнант. Пакуль мне ўдалося сабраць паведамленні на 56 із 62 камандыраў стралковых карпусоў, існаваўшых да лета 1941 года. Карпусамі кіравалі генерал-маёры, часам палкоўнікі. Выключэнняў два: генерал-лейтэнант П.І. Батаў на чале 9-га асобнага стралковага корпуса і генерал-лейтэнант Хмяльніцкі – на чале 34-га.

З Батавым зразумела. 9-ы асабны стралковы корпус рыхтаваўся да выканання асобнай задачы – высадка з баявых караблёў на ўзбярэжжа Румыніі,

таму корпус называўся асобным, таму на чале генерал-лейтэнант, 34-ы стралковы корпус асобным не называўся, але быў такім, 34-ы стралковы корпус незвычайны і па велічыні, і па складу: акрамя стралковых ён мае горнастралковую дывізію. Незвычайнай з’яўлялася асобная сакрэтнасць, якая атачае 34-ы стралковы корпус і ўсю 19-ю армію, у склад якой ён уваходзіць.

У «Ледаколе» я паведамляў пра таемнае перамяшчэнне войска на тэрыторыю Адэскай акругі, настолькі сакрэтнае, што сам камандуючы Адэскай акругай генерал-палкоўнік Я. Т. Чаравічэнка не ведаў, што на тэрыторыю яго акругі перамяшчаецца цэлая армія. Дык вось гаворка ідзе менавіта пра тую самую арміі, у складзе якой знаходзіўся і 34-й корпус Хмяльніцкага.

Гісторыкі-камуністы могуць сьмела выказваць здагадку: ці не дзеля абароны перамяшчалася да мяжы 19-я армія генерал-лейтэнанта І.С. Конева і ўваходзіўшы ў яе склад 34-й стралковы корпус генерал-лейтэнанта Хмяльніцкага? Ці, можа, намышлялі контрудары?

Адкінем сумневы: не, ні абарону, ні контрудары не задумваліся. Навошта ў абароне горнастралковыя дывізіі? Горы толькі па той бок мяжы – у Румыніі.

Калі б задумвалася абарона ці контрудары, дык самы магутны із усіх стралковых карпусоў патрэбна было перакінуць не на румынскі накірунак, а на германскі. І калі планавалася абарона або міфічныя контрудары, то генерал-лейтэнант Хмяльніцкі ў гэтых краях не з'явіўся б. Ён бы ў тыле пераседзеў. Дарэчы, як толькі Гітлер нанёс апярэджваючы ўдар, і вайна для Савецкага Звязу ператварылася ў «вялікую» і «айчынную», генерал-лейтэнант Хмяльніцкі яшчэ да першай сустрэчы з праціўнікам кінуў 34-й корпус і больш на фронце не з’явіўся. Яму было нашмат больш спакойна быць «у распараджэнні камандуючага Ленінградзкім фронтам» або кантраляваць забеспячэнне ў глыбокім тыле.

Як палкаводзец Варашылаў пагарэў падчас Зімовай вайны, але яго палітычная кар'ера ад гэтага не спынілася. Ён быў пазбаўлены пасады Наркама абароны... з павышэннем. Сакрэт выжывання просты. Сталіну былі патрэбны маладыя, таленавітыя, энергічныя, напорыстыя, зубастыя драпежнікі тыпу Жукава, Берыя, Маленкова. Але, падымаючы да ўлады драпежнікаў, Сталін страхаваў сябе ад іхнага напору, іхнага таленту, іхных зубоў. Сталін усталяваў вакол сябе бар'ер старой гвардыі.

Лепш за ўсіх ролю шчыта выконваў Варашылаў. Ён не прэтэндаваў на сталінскае месца, ён не спрачаўся са Сталіным, ён ва ўсім Сталіна падтрымліваў.

Варашылаў быў вядомы ў краіне і за мяжой, і Сталін (а за ім Хрушчоў і Брэжнеў) абсыпалі Варашылава ардэнамі, раздуваючы яго незаслужаную славу. У падзяку за халуйскую пакорлівасць Сталін дазваляў Варашылаву тое, што не дазваляў і не дараваў іншым. У сваю чаргу Варашылаў абсыпаў шчадротамі сваіх уласных халуёў.

У 1941 годзе рыхтавалася ўварванне ў Яўропу. Варашылава Сталін трымаў пры сабе: перамог ад яго чакаць не даводзілася, але варашылаўскаму халую Хмяльніцкаму было дазволена вызначыцца на полі бітваў. Варашылаў ведаў, дзе будзе вырашы лёс вайны, і менавіта туды накіраваў Хмяльніцкага – на румынскі накірунак, на самы выйгрышны. Не супраць немцаў ваяваць, супраць румын. Адрэзаць нафту ад Нямеччыны – гэта тое, што вырашыць лёс Яўропы.

Задача выканальная і ганаровая. Дык вось, Хмяльніцкаму знайшлі месца не ў Першым стратэгічным эшалоне, якому патрэбна будзе праліваць кроў і несьці страты, а у Другім стратэгічным эшалоне, які па трупах Першага эшалона данясе пераможныя сьцягі да нафтавых вышак. Для гэтага Хмяльніцкаму самы моцны корпус. Для гэтага ў корпусе Хмяльніцкага горнастралковая дывізія.

Час засумнявацца: ці не баіцца Сталін прызначаць Хмяльніцкага на такі адказны ўчастак? Думаю, не: яго ж не фронтам ставяць кіраваць і не арміяй, і не кіраўніком штаба. Не адзін Хмяльніцкі тут ваяваць будзе. Задачу захопу Румыніі Сталін паставіў Жукаву асабіста. Для захопу Румыніі сканцэнтраваны 15 механізаваных, стралковых, кавалерыйскіх і дэсантных карпусоў. Корпус Хмяльніцкага хоць і самы магутны, але толькі адзін із 15.

У Першым стратэгічным эшалоне сабраны выдатныя камандыры, уключаючы Маліноўскага і Крылова. Марскім дэсантам прызначаны кіраваць Батаў, а ў паветраным дэсанце – брыгада Радзімцава. Высадка марскога дэсанту рыхтуецца з дапамогай магчымасьцей усяго Чарнаморскага флоту, дзе брыгадай крэйсераў кіраваў С.М. Гаршкоў. Вось толькі пасьля іх у Румынію прыйдзе 19-я армія І.С. Конева, у склад якой уваходзіць корпус Хмяльніцкага. Не патрэбна Хмяльніцкаму быць геніем, патрэбна толькі загады Конева перадаваць сваім дывізіям.

Выйграць вайну – адно, а паставіць сьцяг перамогі на патрэбнай вышыні – іншае. Хмяльніцкаму зусім не патрэбна выйграваць вайну – гэта зробяць Жукаў, Конеў, Маліноўскі, Крылоў, Батаў, Радзімцаў, Гаршкоў. Хмяльніцкаму патрэбна толькі мільгануць у пераможнай зводцы: «першым ў Плоешці прышло войска пад кіраваннем генерал-лейтэнанта Хмяльніцкага». Большага не патрэбна. І толькі для таго Хмяльніцкі ехаў на вайну. Як толькі магчымасць вызначыцца знікла, прапаў і ён сам із перадавых рубяжоў.

Камуністы больш не могуць адмаўляць таго, што Сталін рыхтаваў захоп Яўропы. Але, пярэчаць яны, Сталін рыхтаваў удар на 1942 год.

Не пагодзімся з камуністамі: калі б удар рыхтаваўся на 1942 год, то Хмяльніцкі правёў бы лета і восень 1941 года на курортах Каўказа і Крыма, зімой гуляў бы ў снежкі з гераічным маршалам на падмаскоўнай дачы, а вечарамі чытаў бы яму прывабныя кніжкі, і толькі вясной 1942 года паехаў бы прымаць самы магутны стралковы корпус Чырвонага Войска.

# Глава XXIII

## Жукаўская каманда.

> «Р.К.Жукаў, як было вядома, дарэмна не прыязджае, а з'яўляецца толькі ў надзвычайных выпадках, калі патрэбна каардынаваць баявыя дзеянні франтоў на тым ці іншым стратэгічным напрамку».
>
> Генерал-лейтэнант Анціпенка, «На галоўным напрамку» с.146.

А ў Жукава свае людзі. Яны таксама ехалі на вайну. Пра іх пісаць куды больш цікава. Варашылаў збіраў сваю каманду із падлізнікаў, халуёў, адз'ютантаў, даручэнцаў і сакратароў. У Жукава іншы падыход.

Жукоў не быў дробязным. Ён не быў схільным да пакаранняў тыпу вымова або строгая вымова. Жукаўскае пакаранне: расстрэл. Без фармальнасьцей. Прыбыўшы на Халхін-Гол з неабмежаванымі паўнамоцтвамі, ён выкарыстаў іх цалкам і нават трохі перабраў. Ён дзейнічаў рашуча, хутка, з размахам. Генерал-маёр П.Г. Рыгарэнка апісаў адзін выпадак са шматлікіх.

Разам з Жукавым із Масквы прыбыў гурт слухачоў вайсковых акадэмій – афіцэрскі рэзерв. Жукоў пазбаўляў пасады тых, хто, на яго думку, не адпавядаў занімаемай пасадзе, расстрэльваў і замяняў афіцэрамі із рэзерва. Сітуацыя: пазбаўлены пасады камандыр стралковага палка, із рэзерва Жукаў выклікае маладога афіцэра, загадвае ехаць у полк і прыняць яго пад камандаванне. Вечар. Стэп на сотні кіламетраў. Адпаведна з загадам Жукава ўсе радыёстанцыі маўчаць. У стэпе ні гуку, ні агеньчыка – маскіроўка. Арыентыраў ніякіх. Наступіла ноч. Усю ноч афіцэр гойсаў па стэпу, шукаў полк. Калі каго сустрэнеш у цемры, то на пытанне не адкажа: нікому не загадана ведаць лішняе, а калі хто і ведае, праявіць пільнасць: балбатні слова – расстраляюць. Да раніцы афіцэр так і не знайшоў свой полк. А раніцай Жукаў прызначыў на полк наступнага кандыдата. А таму, які полк знайсьці не здолеў – расстрэл.

Калі генерал-маёр П.Г. Рыгарэнка такое напісаў, заходнія эксперты не паверылі – ім нашых парадкаў не зразумець. І вырашылі, што генерал Рыгарэнка проста злы на камуністычную ўладу і таму перабольшвае.

А потым з'явіліся іншыя сведчанні. У адрозненні ад мемуараў Рыгарэнкі, яны належаць людзям савецкім, уладай абласчаным. Вось адно. Выбраў таму, што пісаў таксама генерал-маёр, у той самы момант ён ваяваў на Халхін-Голе, і сітуацыя таксама звязана з цемрай. Сведка – Арсень Варажэйкін, двойчы Герой Савецкага Звязу, генерал-маёр авіяцыі. Падчас вайны ён увайшоў у першую дзясятку савецкіх асаў. А тады, летам 1939, быў маладым лётчыкам.

Сітуацыя: вяртаўся з баявога задання вечарам. Згушчаўся змрок. Бензін на заканчэнні. Знізу – калона войска. І не зразумець у прыцемках: свае ці японцы. І бензіну няма каб пакруціцца над калонай. Дацягнуў да аэрадрома. Сеў. Пра заўважаную калону можна было не паведамляць: у паветры ён быў адзін, мог бы прамаўчаць, не бачыў нічога ды і справе канец. Але паведаміў: бачыў калону, а чыя, не зразумеў, як быццам бы японцы.

Праз некаторы час маладога лётчыка паклікалі прама да Жукава. І пытанне: чыя ж калона, нашы або японцы? Лётчык адказвае, што разгледзець было немагчыма. Далей адбылося вось што: «Жукаў спакойна сказаў:

– Калі выявяцца нашы, заўтра вас давядзецца расстраляць. Можаце ісьці.

Да мяне не адразу дайшоў сэнс гэтых слоў. Але калі ўсьвядоміў пагрозу, ў ва мне закіпела крыўда. Выцягнуўшыся па стойцы «смірна», рашуча заявіў: – Расстрэльвайце зараз...

Жукоў хмыкнуў. Павярнуўшыся да тумбачкі, што стаяла ззаду яго, дастаў пачатую бутэльку каньяку і шклянку, наліў яе да паловы, працягнуў мне:

– Выпіце і супакойцеся.

– Я ніколі не п'ю адзін.

Ён зноў хмыкнуў і, падумаўшы, дастаў другую шклянку, наліў сабе...». («Чырвоная зорка», 5 жніўня 1992 года).

Варажэйкіна выратавала цвёрдасць характару. І пашанцавала: у яго была магчымасць праявіць цьвёрдасць перад Жукавым. Тым, каго галаварэзы із батальёна Аспрыз НКУС арыштоўвалі ў стэпе і стралялі на світанку, выказаная цьвёрдасць не дапамагала.

У імкненні Жукава да парадку (з дапамогай расстрэлаў) быў і іншы бок. Тых, каго выпрабаваў у баі, каму паверыў, Жукаў сьмела прызначаў на якую заўгодна пасаду, давяраў якую заўгодна справу. Патрэбна сказаць, што ў большасьці выпадкаў выбар Жукава выяўляўся правільным. Людзі жукаўскага выбару былі самастойнымі, разважлівымі, рашучымі і цьвёрдымі.

Мы ведаем, што Сталін выправіў на вайну свайго асабістага пілота Галаванава, а Варашылаў – свайго генерала для даручэнняў асаблівай важнасьці Хмяльніцкага. Нядрэнна глянуць і на Жукаўскую каманду на пачатку чэрвеня 1941 года. Ды і на самога Жукава.

Жукоў – наступленне. На фронце гэта ведаў кожны. З'яўленне Жукава азначала не проста наступленне, але наступленне раптоўнае, рашучае і поўнае. Вось чаму рабіліся захады да таго, каб схаваць прысутнасць Жукава ў дадзены момант, на гэтым участку фронту. Жукоў з'яўляўся без знакаў адрознення, пра яго прысутнасць забаранялася паведамляць, у шыфроўках не пазначалася яго імя, толькі псеўданім.

Гэтыя правілы распаўсюджваліся і на іншых маршалаў і генералаў, але ўсё ж Сталін хаваў Жукава асабліва.

Або асабліва дэманстраваў. У кастрычніку 1941 года наступіў крытычны для Савецкага Звязу момант. Нямецкае войска падышло да Масквы. Маскву абараняў Заходні фронт, камандаванне якім 13 кастрычніка прыняў Жукаў. Галоўны рэдактар «Чырвонай зоркі» Д. Ортэнберг (калега Жукава па Халхін-голу) выправіў у штаб Заходняга фронту фотакарэспандэнта з загадам зрабіць здымак: Жукаў над мапай бітвы. Жукоў прагнаў карэспандэнта са штаба, не да фотаздымкаў. Але праз некалькі дзён фотакарэспандэнт вярнуўся ў штаб Заходняга фронту з тым жа загадам, але зараз загад аддаў Сталін асабіста.

Здымак з'явіўся на першых старонках газет: усё войска, уся краіна, увесь сьвет павінны ведаць, што Масква не будзе аддадзена – абарона Масквы даручана Жукаву. Зразумела, Жукаў не толькі абараняўся, але і перайшоў у рашучае наступленне, якое было поўнай нечаканасьцю для германскага камандавання.

Другі прыклад. Вясной 1945 года 1-ы Беларускі фронт пад кіраваннем Жукава рыхтуецца да Бярлінскай аперацыі. 13 красавіка ў Маскве Сталін як бы незнарок паведамляе Гарыману, што немцы грунтуючыся на зразумелых падставах чакаюць ўдар на Берлін, а мы іх абдурым: галоўны удар не на Берлін, а на Дрэздэн. Расчараваным савецкім жаўнерам і афіцэрам каля самых муроў Бярліна таксама паведамілі, што ўдар будзе наносіцца на іншым накірунку. І каб развеяць сумневы, абвяшчаюць загад пра тое, што камандаванне фронтам прыняў генерал арміі В.Д. Сакалоўскі, а Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў з'ехаў на іншы накірунак... Зразумела, Жукаў нікуды не з’язджаў і кіраванне фронтам Сакалоўскаму не перадаваў, проста перад пачаткам наступлення нядрэнна дазволіць суперніку расслабіцца і з палёгкай уздыхнуць.

Прынцып зразумелы: калі Сталін баіцца за трываласць сваёй абароны, ён Жукава дэманструе, калі Сталін рыхтуе раптоўны ўдар, ён Жукава хавае.

У чэрвені 1941 года Г. К. Жукаў як кіраўнік Генеральнага штаба павінен заставацца ў Маскве. Але 21 чэрвеня на пасяджэнні Палітбюро было прынята рашэнне: на румынскай мяжы таемна разгарнуць Паўднёвы фронт (пад кіраваннем генерала арміі І.В. Цюленева), а Жукава накіраваць у Тэрнопаль каардынаваць дзеянні Паўднёвага і Паўднёва-Заходняга франтоў.

Рашэнне накіраваць Жукава ў Тэрнопаль Сталін прымаў не ў сувязі з пагрозай германскага нападу: Сталін такога абароту не чакаў.

Калі б Сталін баяўся за сваю абарону, то із палёту Жукава ў Тэрнопаль не патрэбна было б рабіць таямніцы. А можна было нават і размясьціць на першых старонках здымак: Жукаў з чамаданам ідзе да самалёта.

Але палёт Жукава быў абсалютнай дзяржаўнай таямніцай. Здарылася так, што Жукаў паляцеў у Тэрнопаль 22 чэрвеня (вылет у 13.40), гэта азначае ўжо пасьля пачатку германскага ўварвання. Але рашэнне прымалася напярэдадні. Больш дакладна, рашэнне пра гэта было прынята ў траўні, а зацьверджана 21 чэрвеня. Як надзвычай сакрэтнае.

Пра ступень таемнасьці сведчыць такі факт: 19 ліпеня генерал-палкоўнік Ф. Гальдэр запісвае ў службовым дзённіку свае сумневы пра існаванне Паўднёвага фронту: «Калі б тут сапраўды была створана навая буйная кіруючая інстанцыя, нам, без сумневаў, было б дакладна вядома імя яе кіраўніка...». Гальдэр таксама выказвае сумневы ў існаванні 9-й і 18-й армій, уваходзіўшых у склад Паўднёвага фронту. У Гальдэра не выклікае сумневаў толькі прысутнасць у гэтым раёне 2-й арміі (якая ні да, ні падчас, ні Пасьля Другой Сусьветнай вайны на еўрапейскай часткі ЗССР не з'яўлялася: яна пастаянна знаходзілася на Далёкім Усходзе).

Калі ў ходзе вайны, амаль праз месяц пасьля яе пачатку, германская выведка не змагла выявіць існаванне Паўднёвага фронту, то тым больш яна не магла ведаць пра місію Жукава, які 21 чэрвеня атрымаў задачу; каардынаваць дзеянні Паўднёвага і Паўднёва-Заходняга франтоў. Сталін умеў захоўваць сакрэты.

У 1940 годзе Гітлер зразумеў, што над нафтавымі радовішчамі навісла савецкая пагроза, але ўсёй сур'ёзнасьці становішча Гітлер не зразумеў, таму што германская выведка не здолела выявіць не толькі пра таемнае вылучэнне Другога стратэгічнага эшалона Чырвонага Войска да мяжы (у складзе якога, акрамя іншых, была і 19-я армія Конева з 34-м корпусам Хмяльніцкага), але нават і сам факт існавання Другога стратэгічнага эшалона. Нямецкай выведцы нічога не было вядома пра Трэцці стратэгічны эшалон і нават пра існаванне цэлага Паўднёвага фронту ў складзе Першага стратэгічнага эшалона.

Вось чаму я сцвярджаю: ўдар Паўднёвага фронту на Румынію ўяўляў для Нямеччыны сьмяротную небяспеку, таму што быў падрыхтаваны як цалкам раптоўны, таму што для яго адбіцця ў Румыніі не існавала сродкаў і перакінуць іх туды было немагчыма да таго, пакуль савецкае войска знішчыць нафтавыя промыслы.

Патрэбна зразумець задуму Жукава (ухваленую Сталіным), і тады назначэнні і перамяшчэнні генералаў жукаўскага выбару знаходзяць асаблівы сэнс.

Да Жукава ўварванне ў Няметчыну планавалася ажыццявіць у асноўным магутнасьцямі Заходняга фронту, што азначае войска, размешчанага ў Беларусі. Ззаду Заходняга фронту із частак і штабоў Маскоўскай вайсковай акругі планавалася разгарнуць яшчэ адзін фронт, а ў Прыбалтыцы і на Украіне разгарнуць адпаведна Паўночна-Заходні і Паўднёва-Заходні франты для нанясення дапаможных udараў.

Дзякуючы таму, што Заходняму фронту адводзілася асноўная ўдарная роля, у Беларусі перад пачаткам Другой Сусьветнай вайны былі сканцэнтраваны самыя магутныя і рухомыя злучэнні Чырвонага Войска: кавалерыйскія, танкавыя, механізаваныя, дэсантныя. Сліўкі Чырвонага Войска мы знаходзім менавіта тут: 100-я стралковая і 4-я кавалерыйская дывізіі, 21-я танкавая брыгада. Існавалі і ў іншых акругах добрыя дывізіі і брыгады, але ў Беларусі іх цэлае сузор'е. Тут жа ў Беларусі служылі самыя «наступальныя» камандыры – Цімашэнка, Ракасоўскі, Яроменка, Апанасенка, Чаравічэнка, Кастэнка, Патапаў. Уся служба Жукава паміж войнамі таксама прайшла ў Беларусі.

У 1940 годзе Жукаў прапанаваў іншую схему вядзення вайны. У выніку падзелу Рэчы Паспалітай, у адпаведнасьці з пактам Молатава-Рыбентропа, на заходняй мяжы ўтварыліся два магутныя выступу ў бок Няметчыны – ў раёнах Беластока і Ільвова. Стварылася сітуацыя, якая дазваляла правесьці класічную аперацыю на акружэнне, – ўдары двух абыходзяць рухомых згуртаванняў. Правядзеннем такога манеўру абезсьмяроцілі свае імёны найвялікшыя палкаводцы ад Ганібала пры Канах да самога Жукава на Халхін-Голе. (Жукаву наканавана абезсьмяроціў сябе і яшчэ раз правядзеннем такой жа аперацыі ў лістападзе 1942 пад Сталінградам).

Здарылася так, што ў 1941 годзе выдалася магчымасць паўтарыць Каны супраць Няметчыны. (Нямецкая мяжа таксама мела два глыбокія выступы ў савецкі бок, у раёнах Сувалак і Любліна, і германскае войска рыхтавала дакладна такую ж аперацыю).

Для правядзення ўварвання адпаведна з загадам Жукава ў Ільвоўскім і Беластоцкім выступах былі сканцэнтраваны ўдарныя згуртаванні, штабы, вузлы сувязі, аэрадромы, стратэгічныя запасы, шпіталі. (Немцы рабілі тое ж самае ў раёнах Любліна і Сувалак.) З абарончага боку гледжання – гэта сьмяротная рызыка: лепшыя арміі з усімі запасамі ўжо ў мірны час з трох бакоў аточаны праціўнікам, аднак Жукаў чытаў Бісмарка і ведаў, што Няметчына на два франты ваяваць не можа. Жукоў чытаў выведніцкія зводкі ГРУ і ведаў, што прамысловасць Няметчыны працуе ў рэжыме мірнага часу, а без пераходу прамысловасьці на рэжым ваеннага часу напад ператвараецца ў авантуру. Жукоў быў прафесіяналам і таму не мог разлічваць, што Гітлер адважыцца на авантуру.

Калі глядзець на сітуацыю з боку гледжання падрыхтоўкі раптоўнага ўдару, то канцэнтрацыя галоўных магутнасьцей на флангах ў двух выступах – гэта лепшае, што можна прыдумаць, – савецкае войска ўжо ў мірны час выведзена далёка наперад, яно як бы ўжо на тэрыторыі Няметчыны, яно навісае над згуртаваннямі суперніка, пагражаючы яго флангам і тылам.

Із двух ўдарных згуртаванняў Жукаў галоўную ролю надаваў Ільвоўскаму. І гэта правільна. Рэкі цякуць з гор цэнтральнай Яўропы да Балтыйскага мора, і чым бліжэй да мора, тым яны шырэйшыя. Калі наносіць ўдар із Прыбалтыкі, то перад савецкім войскам – ўмацаванні Ўсходняй Прусіі, акрамя таго, каля самога ўзбярэжжа Балтыйскага мора фарсіраванне рэк цяжка ажыццявіць. Вось чаму савецкаму войску ў Прыбалтыцы (Паўночна-Заходні фронт) ставіліся абмежаваныя задачы. Удар із Беластоцкага выступу абяцаў значна больш: наперадзе умацаваных раёнаў няма, а рэкі ў сярэднім цячэнні не такія шырокія. Таму войску Заходняга фронту ставіліся рашучыя мэты.

Але самы галоўны ўдар – із Ільвоўскага выступу: ўмацаванняў наперадзе няма, рэкі ў верхнім цячэнні вузкія, у дадатак правы фланг наступаючага савецкага згуртавання абаронены гарамі. Мясцовасць ад Ільвова да Бярліна згодна з вайсковым поглядам – адзіны стратэгічны калідор. Удар із Ільвоўскага выступу, калі для яго правядзення падрыхтаваць дастатковую моц (а яна рыхтавалася), адбіць немагчыма. Такі ўдар не толькі выводзіў савецкае войска ў прамысловыя раёны Сілезіі, але і адразаў Нямеччыну ад крыніц нафты і ад галоўных хаўруснікаў. Удар із Ільвоўскага выступу адразу расчыняў веер магчымасьцей.

Ствaралася сітуацыя, пра якую могуць марыць стратэгі і шахматныя гросмайстры: толькі адзін ход, але ён ламае ўсю структуру абароны суперніка, парушае ўсе сувязі і стварае пагрозу адразу шматлікім аб'ектам. Менавіта такім мог быць ўдар із Ільвоўскага выступа, ён даваў магчымасць развіваць наступленне на Берлін або Дрэздэн. Калі праціўнік будзе абараняць Сілезію, то была магчымасць павярнуць і нанесьці ўдар у накірунку балтыйскага ўзбярэжжа, выкарыстоўваючы Віслу і Одэр для прыкрыцця сваіх флангаў. Такі ўдар адсякаў германскае войска ад яго прамысловых раёнаў і баз забеспячэння...

Жукоў планаваў і яшчэ адзін удар, як мы ведаем, непаўторны і сьмяротны. У Румынію. І для гэтага прапанаваў замест разгортвання фронту ззаду Заходняга, разгарнуць яго на мяжы Румыніі...

А акрамя гэтага – дапамаючыя ўдары із Прыбалтыкі на Кенігсберг, ўдары двух горных армій праз Карпаты і трансільванскія Альпы, высадка пяці паветрана-дэсантных карпусоў. Акрамя ўсяго, ва ўсіх сямі ўнутраных акругах таемна ствараліся арміі Другога стратэгічнага эшалона, якія павінны былі перад самым уварваннем пачынаць рух да заходняй мяжы так, каб пад час вырашаючага момант ўступіць у бітву, дапаўняючы і ўзмацняючы Першы стратэгічны эшалон.

На сябе асабіста Жукаў узяў ролю каардынаваць дзеянні Паўднёва-Заходняга фронту, якому мелася наносіць ўдар із Ільвоўскага выступу і Паўднёвага фронту, які ствараўся для ўварвання ў Румынію. Маючы на ўвазе гэтую задуму і глянем на тое, што робяць тыя, хто ўдастоены абраннем Жукава.

Генерал арміі І. В. Цюленеў – стары таварыш Жукава. Яны разам служылі ў інспекцыі кавалерыі РСЧВ. У партарганізацыі Жукаў быў сакратаром. Цюленеў намесьнікам. Да лета 1940 года абодва падняліся высока. Сталін увёў у Чырвоным  Войску генеральскія званні, але толькі трое із тысячы атрымалі па пяць зорак, сярод іх Жукаў і Цюленеў. Жукоў у той час кіраваў самай магутнай вайсковай акругай – Кіеўскай, Цюленеў – самай важнай Маскоўскай. У лютым

1941 года Жукаў падняўся вышэй, стаў кіраўніком Генеральнага штаба і прапанаваў выкарыстаць талент Цюленева не супраць Няметчыны, а супраць Румыніі. Упраўленне і штаб Маскоўскай вайсковай акругі ператварыць у штаб Паўднёвага фронту і перакінуць на румынскую мяжу, Цюленева прызначыць камандуючым.

На пасяджэнні Палітбюро 21 чэрвені 1941 г. гэтая прапанова была зацьверджана. Але распрацоўвалася яна раней.

Генерал-палкоўнік інжынернага войска А.Ф. Хрэнаў у 1941 годзе быў генерал-маёрам, кіраўніком інжынернага войска Маскоўскай вайсковай акругі. Вось яго апавяданне: «На пачатку чэрвеня камандуючы сабраў кіруючы склад штаба акругі і паведаміў, што нам загадана рыхтавацца да выканання функцыі палявога кіравання фронту. Якога? Гэтае пытанне вырвалася ў шмат каго.

– Да таго, што я паведаміў, нічога дадаць не магу, – адказаў Цюленеў.

Аднак, калі ён пачаў даваць распараджэнні адносна характару і зместу падрыхтоўкі, няцяжка было здагадацца, што ў выпадку вайны дзейнічаць нам давядзецца на поўдні» (Масты да перамогі. З 73).

Камбрыг А.З. Усьцінаў на Халхін-Голе быў кіраўніком штаба ўсёй падпарадкаванай Жукаву авіяцыі. Крэда Усьцінава не паветраныя баі, а ўдар па «спячым» аэрадромах. У чэрвені 1941 года Жукаў рэкамендуе генерал-маёра авіяцыі А.З. Усьцінава на пасаду камандуючага авіяцыяй Паўднёвага фронту. Сталін кандыдатуру прымае.

Генерал-палкоўнік Я.Т. Чаравічэнка калега Жукава па Беларусі. Калі Жукаў здаваў 3-ці кавалерыйскі корпус, Чаравічэнка яго прынімаў. 19 чэрвеня 1941 г. на румынскай мяжы разгорнута самая магутная армія ў гісторыі чалавецтва – 9-я. 21 чэрвеня ў момант стварэння Паўднёвага фронту яна ўваходзіць у яго склад (разам з 18-й, таемна перамяшчаемай із Харкаўскай вайсковай акругі). Камандуючы 9-й арміяй – Чаравічэнка.

Генерал-маёр П.А. Бялоў – падначалены Жукава падчас службы ў інспекцыі кавалерыі. Пачынаючы ад красавіка 1941 года 2-і кавалерыйскі корпус Бялава з'явіўся на румынскай мяжы. У момант таемнага разгортвання 9-й арміі корпус Бялава ўвайшоў у яе склад. І хай не нас не ўводзіць у зман кавалерыйская назва. Кожная савецкая кавалерыйская дывізія мела ў сваім складзе уласны танкавы полк. Ніводная германская матарызаваная дывізія таго часу не мела ў сваім складзе ні танкавага палка, ні батальёна, ні роты, ні ўзвода і ніводнага танка. Кавалерыст Бялоў паважаў танкі і ўмела іх ўжываў. Ён будзе ваяваць пад кіраваннем Жукава ўсю вайну ад Масквы да Бярліна. Вайну завершыць генерал-палкоўнікам.

Генерал-лейтэнанты І.М. Музычэнка і Ф.Я. Кастэнка у свой час былі камандырамі палкоў дывізіі Жукава. На пачатку чэрвеня 1941 года яны кіравалі адпаведна 6-й і 26-й арміямі. Абедзьве арміі ў Ільвоўскім выступе – добрае становішча для наступлення. З боку гледжання абароны, становішча гэтых армій катастрафічнае. Палкоўнік І. Х. Баграмян. На пачатку 20-х быў, як і Жукаў, камандырам кавалерыйскага палка, потым у 1924-1925 гадах вучыўся разам з Жукавым на кавалерыйскіх курсах. Служба Баграмяна пасьля таго не склалася, патрапіў на выкладніцкую працу і да пачатку вайны заставаўся палкоўнікам. У 1940 годзе Жукаў прызначае Баграмяна ў штаб 12-й (горнай) арміі, задача якой

падчас вайны – адрэзаць румынскія нафтавыя промыслы ад германскіх спажыўцоў. Гітлер апярэдзіў Жукава і Баграмяна, і здзейсніць запланаванае не ўдалося. Але Баграмян пайшоў усё вышэй і вышэй. Падчас вайны ён зрабіў самую паспяховую кар'еру ва ўсім Чырвоным Войску: пачаўшы яе палкоўнікам, закончыў генералам арміі на маршальскай пасадзе. Потым ён стане Маршалам Савецкага Звязу.

На тых жа кавалерыйскіх курсах у тым жа згуртаванні вучыўся яшчэ адзін сябар Жукава – А.І. Яроменка. 19 чэрвеня 1941 г. генерал-лейтэнант Яроменка здаў пасаду камандуючага 1-й арміяй на Далёкім Усходзе і тэрмінава выехаў адпаведна з запрашэннем Жукава ў Маскву. Ероменка прыбыў у Маскву пасьля пачатку германскага ўварвання і яго накіравалі ў Беларусь. Але гэта было не тое прызначэнне, дзеля якога яго выклікалі. Як і Баграмян, Ероменка завяршыў вайну генералам арміі, але на маршальскай пасадзе, і пасьля вайны стаў Маршалам Савецкага Звязу.

Генерал-маёр К.К. Ракасоўскі. Вучыўся разам з Жукавым, Баграмянам і Ероменка на тых жа кавалерыйскіх курсах, у тым жа самым згуртаванні. Затым доўгі час Ракасоўскі быў кіраўніком Жукава. Пад час Вялікай чысткі Ракасоўскі сеў. У 1940 годзе быў вызвалены. Жукоў забірае Ракасоўскага да сябе. Жукоў асабіста кіраваў Паўднёвым фронтам, які летам 1940 года правёў «вызваленчы» паход у Румынію. Ракасоўскі знаходзіўся ў рэзерве Жукава ў гатоўнасьці з'явіцца там, дзе ўзнікне крызісная сітуацыя. Летам 1941 года Ракасоўскі кіраваў 9-м механізаваным карпусам на Ўкраіне. Корпус рыхтаваўся да нанясення раптоўнага ўдару. На пачатку чэрвеня ўся артылерыя карпуса была таемна перакінута ў памежныя раёны, і ўвесь корпус атрымаў загад на таемнае перамяшчэнне да мяжы. Праўда, усё атрымалася не так, як планавалі Жукаў і Ракасоўскі... Ім наканавана сустрэцца на парадзе Перамогі. Маршал Савецкага Звязу К. К. Ракасоўскі будзе кіраваць парадам, Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў – парад прынімаць.

Генерал-маёр танкавага войска М.І. Патапаў – «геній раптоўнага ўдару». Калега Жукава з пачатку 30-х гадоў. Летам 1939 года на Халхін-Голе Патапаў кіраваў 21-й танкавай брыгадай. На працягу баёў Жукаў ацаніў здольнасьці Патапава і зрабіў сваім намесьнікам. Для раптоўнага ўдару па 6-й японскай арміі Жукаў стварыў тры згуртаванні. «Галоўны ўдар наносіла паўднёвае згуртаванне палкоўніка М.І. Патапава, якое мела дзьве дывізіі, танкавую, мотабранявую брыгады і некалькі танкавых батальёнаў». (Гісторыя Другой Сусьветнай вайны. Т. 2, с. 217). У 1940 годзе Жукаў становіцца камандуючым Кіеўскай вайсковай акругі. Патапава ён запатрабаваў пад сваё кіраванне і даручыў фарміраванне 4-га механізаванага корпуса ў Ільвоўскім выступе.

Савецкія механізаваныя карпусы былі самымі магутнымі танкавымі злучэннямі сьвету. Яны прызначаліся для ўварвання і маглі быць выкарыстаны толькі ў наступальных аперацыях. У 1941 годзе Гітлер кінуў супраць Савецкага Звязу 10 механізаваных карпусоў, у сярэднім кожны з іх меў па 340 лёгкіх і сярэдніх танкаў. Сталін згодна з патрабаваннем Жукава фармаваў 29 механізаваных карпусоў па 1031 танкаў у кожным, уключаючы лёгкія, сярэднія і цяжкія. Не ўсе савецкія механізаваныя карпусы былі цалкам укамплектаваны на 22 чэрвеня 1941 года. 4-ы мехкорпус, напрыклад, меў 892 танкі. Нават

